АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору

Г. А. БАРТАШЭВІЧ

# МАГІЧНАЕ СЛОВА

## Вопыт даследавання светапогляднай і мастацкай асновы замоў



МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1990

ББК 82.3(2)
Б 26

В книге рассматривается один из архаических жанров фольклора — заговоры, которые сами по себе или в сочетании с магическими действиями призваны были обеспечить успех в хозяйственной, бытовой, общественной и личной деятельности, служить в качестве оберегов.

Рассчитана на фольклористов, этнографов, языковедов, студентов и преподавателей, широкий круг читателей.

Навуковы рэдактар
доктар філалагічных навук К. П. Кабашнікаў

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
М. П. Антропаў, У. А. Васілевіч,
кандыдат гістарычных навук Э. Р. Сабаленка

**Барташэвіч Г. А.**

Б 26 Магічнае слова: Вопыт сследаслед. светапогляд. і маст. асновы замоў.—Мн.: Навука і тэхніка. 1990.— 128 с.

ISBN 5-343-00457-1.

Барташевич Г. А. Магическое слово: Опыт исслед. мировоззрен. и худож. основы заговоров.

У кнізе разглядаецца адзін з архаічных жанраў фальклору — замовы, якія самі па сабе або ў спалучэнні з магічнымі дзеяннямі павінны былі забяспечыць поспех у гаспадарчай, бытавой, грамадскай і асабістай дзейнасці, служыць засцярогаю.

Разлічана на фалькларыстаў, этнографаў, мовазнаўцаў, студэнтаў і выкладчыкаў, шырокае кола чытачоў.

4604000000—033
Б ——————— 141—90
М 316(03)—90

ББК 82.3(2)

ISBN 5-343-00457-1

# УВОДЗІНЫ



ытанне аб ранніх формах вуснапаэтычнай народнай творчасці надзвычай складанае і да гэтага часу далёка не вырашанае. Яно ўключае шэраг праблем як фальклорнага, так і агульнатэарэтычнага характару. Тут і праблемы генезісу народнай творчасці ва ўсіх яе відавых праяўленнях, праблемы светапогляднай і эстэтычнай асновы, яе месца ў комплексе культуры першабытнага грамадства, пытанні паходжання і развіцця асобных відаў і жанраў. Практычна гэта пытанне звязана з праблемай паходжання мастацтва, таму што вуснапаэтычная творчасць з'яўляецца састаўной часткай першабытнага мастацтва нароўні з выяўленча-пластычнай і музычнай творчасцю. Цяжкасць заключаецца ў тым, што помнікі розных відаў гэтага мастацтва, якія маглі б стаць сведкамі часу і шляхоў іх паходжання, неаднолькава захаваліся. Лепшае становішча ў гэтым сэнсе з выяўленчым мастацтвам. У галіне ж слоўнай і музычнай творчасці мы можам абапірац-

ца на помнікі, зафіксаваныя ў адносна позні перыяд, што часта абцяжарвае высвятленне многіх пытанняў. Як слушна адзначаў акадэмік Б. А. Рыбакоў, «архаізм фальклорнага матэрыялу не выклікае сумнення, але дакладных дат ад яго (па самой яго прыродзе) мы чакаць не можам» [1].

Народная памяць захавала ў сваіх нетрах агромністы каштоўны матэрыял, які вучоныя ўсё шырэй прыцягваюць з мэтай рэканструкцыі ранніх форм вуснапаэтычнай творчасці. На гэтым шляху шмат цяжкасцей. «Цяжкі шлях храналагічнай расшыфроўкі этнаграфічных загадак. Часам мы можам улавіць момант забыцця першапачатковага сэнсу той ці іншай з'явы, вызначыць верхнюю, познюю мяжу яго асэнсаванага бытавання, але бываем бяссільныя паказаць яго вытокі, яго пярвічныя формы, час яго ўзнікнення» [2].

Цяжкасці выкліканы таксама нераспрацаванасцю навуковай методыкі рэканструкцыі ранніх форм пачынаючы з міфалогіі. Пошукі вытокаў і першапачатковага зместу міфаў, пакладзеныя А. М. Афанасьевым у аснову яго фундаментальнай працы «Паэтычныя погляды славян на прыроду» [3], працягваюцца на сучасным этапе развіцця фалькларыстычнай навукі на новым тэарэтычным узроўні. Грунтуючыся на дасягненнях дарэвалюцыйнай і савецкай навукі, улічваючы памылкі розных школ і напрамкаў, сучасныя даследчыкі пры выпрацоўцы методыкі рэканструкцыі архаічных тэкстаў шырока абапіраюцца на метады і вынікі мовазнаўчых,

---

[1] Рыбаков Б. А. Язычество древних славян. М., 1982. С. 41.
[2] Там жа. С. 39.
[3] Афанасьев А. Н. Поэтические воззрения славян на природу: Опыт сравнительного изучения славянских преданий и верований в связи с мифическими сказаниями других родственных народов. М., 1865—1869. Т. 1—3.

археалагічных, мастацтвазнаўчых рэканструкцый, усіх тых навук, якія так ці інакш звяртаюцца да праблемы тэксту ў яго шырокім плане. Варта прыгадаць працы Вяч. Ус. Іванова, У. М. Тапарова, М. І. Талстога[4] і інш., прысвечаныя язычніцтву, якія ў тэарэтычным і практычным плане дэманструюць новыя падыходы да вырашэння праблемы. Заслугоўвае ўвагі выснова Вяч. Ус. Іванова пра універсальнасць і перспектыўнасць метаду вывучэння ад больш позніх фактаў да ранніх пры вызначэнні храналогіі развіцця і часу, які прайшоў паміж рознымі этапамі: «рацыянальным аказваецца паступовы рух назад ад больш блізкіх і добра засведчаных перыядаў. Зняцце супрацьпастаўлення сінхроннага апісання і дыяхранічнага даследавання эвалюцыі, якога дамагаліся ў адносінах да лінгвістыкі і паэтыкі такія стваральнікі сучасных форм гэтых навук, як Р. В. Якабсон, стала характарыстыкай усіх навуковых ведаў ад астрафізікі і малекулярнай біялогіі да этналогіі...»[5]

У нашай рабоце мы хацелі б засяродзіць увагу на адным з архаічных жанраў вуснапаэтычнай творчасці, якім з'яўляюцца замовы. Замовы стала займалі месца ў нетрах першабытнага сінкрэтызму

---

[4] Иванов В. В., Топоров В. Н. Исследования в области славянских древностей: Лексические и фразеологические вопросы реконструкции текстов. М., 1974; Топоров В. Н. К реконструкции индоевропейского ритуала и ритуально-поэтических формул (На материале заговоров) // Труды по знаковым системам. Тарту, 1969. IV. С. 9—43; Н. И. Толстой. Фрагмент славянского язычества: архаический ритуал — диалог // Славянский и балканский фольклор: Этногенетическая общность и типологические параллели. М., 1984. С. 5—72.

[5] Иванов Вяч. Вс. О некоторых принципах современной науки и их приложении к семиотике малых (коротких) текстов // Этнолингвистика текста: Семиотика малых форм фольклора. М., 1988. I. С. 5.

відаў мастацтва, аб'яднаных рамкамі народнага абраду, таму па меры неабходнасці будзе закранацца матэрыял пра некаторыя абрады.

Замовы (загаворы, нагаворы, шэпты, словы, малітвы) па свайму паходжанню адносяцца да старажытнага віду фальклору, у якім надзвычай ярка адбіліся асаблівасці мыслення чалавека на ранніх ступенях яго развіцця. Яны здаўна прыцягвалі ўвагу вучоных розных школ і напрамкаў, якіх цікавілі вытокі мастацтва, светапоглядная аснова розных яго відаў, генезіс мастацкіх вобразаў і інш. Да замоў звярталіся А. А. Патабня, А. М. Весялоўскі, Ф. І. Буслаеў, А. М. Афанасьеў, В. Мансіка, М. Крушэўскі, М. Ф. Сумцоў, Ус. Ф. Мілер. Спецыяльныя працы прысвячаюць ім А. Ветухоў і М. Ф. Пазнанскі. У савецкі час замовамі займаліся Д. К. Зяленін, Г. М. Астахава, П. Р. Багатыроў, Я. Г. Кагараў і інш. Несумненную цікавасць уяўляе артыкул «Замовы» В. П. Пятрова, напісаны для трохтомніка «Рускі фальклор», падрыхтаванага ў канцы 30-х гадоў сектарам фальклору ІРЛІ, але, на жаль, ён не быў выдадзены і захоўваўся ў архіве, аж пакуль не ўбачыў свет у 1981 г.[6] У ім закранаюцца пытанні паэтыкі і светапогляднай сутнасці замоў, сувязі слова і вобраза, дзеяння і слова, звяртаецца ўвага на асаблівасці мыслення, якія вызначаюць сэнсавы і вобразны характар гэтых твораў. В. П. Пятроў падкрэслівае значэнне мэтавай устаноўкі ў замовах для ўзнікнення мастацкага вобраза, які не з'яўляецца самастойным і самагодным, а мае функцыянальны характар.

Назіранні над жыццём і эвалюцыяй замоў у пэў-

---

[6] Петров В. П. Заговоры / Публикация А. Н. Мартыновой // Из истории русской советской фольклористики. Л., 1981. С. 77—142.

ным рэгіёне, аналіз такіх твораў і супастаўленне іх з агульнай рускай замоўнай традыцыяй сталі прадметам даследаванняў Г. М. Астахавай [7]. Акрамя агульных высноў па праблемах, якія заўсёды так ці інакш асвятляюцца ў працах на гэту тэму,— аб светапогляднай аснове і мастацкай вобразнасці, даследчыца закранула шэраг пытанняў, звязаных з канструкцыяй замоў, іх класіфікацыяй, з прычынамі і шляхамі эвалюцыі, заканамернасцямі ў выкарыстанні і спалучэнні матываў і інш.

Але гэта не азначае, што замовы вывучаны вычарпальна, што не засталося няясных пытанняў, спрэчных момантаў. У розныя часы розныя даследчыкі зазначалі нявывучанасць пэўных аспектаў праблемы. Так, Ус. Ф. Мілер у канцы мінулага стагоддзя выказваў спадзяванні на новыя адкрыцці асірыёлагаў, што дазволіла б высветліць пытанне аб паходжанні еўрапейскіх замоў [8]. Надзённай і сёння застаецца пастаўленая Г. М. Астахавай праблема стварэння каталога загаворных формул, навуковай унутрыжанравай класіфікацыі і сістэматызацыі матэрыялу, без чаго цяжка праводзіць параўнальнае вывучэнне гэтага своеасаблівага жанру [9]. Акадэмік Ю. М. Сакалоў сцвярджаў, што «...у класавым і ў гісторыка-бытавым разрэзах замовы вывучаны яшчэ вельмі слаба» [10]. Гэтыя і многія іншыя пытанні застаюцца адкрытымі і па сённяшні

---

[7] Астахова А. М. Заговорное искусство на реке Пинеге // Искусство Севера: Сб. секции крестьян. искусства комитета социол. изучения искусств. Л., 1928. II. С. 33—76; Яна ж. Художественный образ и мировоззренческий элемент в заговорах. М., 1964.

[8] Миллер Вс. Ассирийские заклинания и русские народные заговоры // Русская мысль. М., 1896. Кн. 7. С. 89.

[9] Астахова А. М. Заговорное искусство на реке Пинеге. С. 49.

[10] Соколов Ю. М. Русский фольклор. М., 1941. С. 198.

дзень, бо практычна праца М. Ф. Пазнанскага «Замовы»[11] застаецца найбольш грунтоўным манаграфічным даследаваннем у галіне замоў, хаця напісана яна амаль семдзесят гадоў назад і адлюстроўвае метадалагічны ўзровень навуковай думкі таго часу.

Некаторыя даследчыкі ставілі пад сумненне магчымасць узнікнення замоў як прадукта народнай творчасці. Найбольш ярка гэта думка выказана ў працах В. Мансікі, які лічыў, што сюжэт замоў і знешняя іх форма ўтварыліся пад уплывам багатай апакрыфічнай літаратуры — спадчыны Візантыі. Бліжэйшымі ж крыніцамі замоў ён лічыў трэбнікі і зборнікі розных лекавых пацер, распаўсюджвальнікамі якіх былі манахі і ніжэйшае духавенства[12].

На падабенства паміж рускімі народнымі заклінаннямі і візантыйскімі творамі звярталі ўвагу А. М. Весялоўскі, І. Д. Мансветаў, М. І. Сакалоў, Ус. Ф. Мілер і інш. Але яны разглядалі замовы ў агульнай плыні народнай творчасці, адзначалі аналогіі паміж усходнімі замовамі і славянскімі і шукалі тлумачэння гэтым аналогіям. Ус. Мілер, правёўшы супастаўленне рускіх замоў з халдзейскімі і знайшоўшы ў іх шмат агульнага як у прынцыпах адлюстравання рэчаіснасці, так і ў такіх кампанентах, як змест, знешнія прыёмы магічных дзеянняў і слоў, сімволіка, пабудова і г. д., устрымаўся ад катэгарычных вывадаў: «Мы абмяжоўваем нашу работу толькі ўказаннем падабенства нашых замоў з халдзейскімі, не прадрашаючы пытання аб прычынах яго, г. зн. тлумачыцца яно старадаўняй традыцыяй або агульнасцю законаў чала-

---

[11] Познанский Н. Заговоры: Опыт исследования происхождения и развития заговорных формул. Пг., 1917.

[12] Мансикка В. Представители злого начала в русских заговорах. СПб., 1909.

вечай псіхікі»[13]. Ён не выключае верагоднасць такой традыцыі, але абмяжоўвае яе ролю: «...усё ж думаю, што некаторыя водгукі глыбокай старадаўнасці Усходу маглі шляхам традыцыі прабрацца і ў галіну нашага народнага чарнакніжжа, змяшаўшыся своеасабліва з хрысціянскай малітвай і сімволікай, з нацыянальнымі рускімі забабонамі і, магчыма, фінскім чараўніцтвам»[14].

У агульным рэчышчы «культурных переживаний», якія нясуць рэшткі старадаўняга светасузірання і старадаўняй маралі і якімі «вся наша жизнь объята», разглядаў замовы М. Ф. Сумцоў. Для яго характэрна арыентацыя якраз на фальклорны матэрыял. Вучоны адносіць замовы да аднаго з разрадаў такой шматграннай з'явы, як засцярогі (обереги), якім надае касмапалітычнае, агульначалавечае значэнне. Яго погляд на замовы як на адну з частак цэласнага комплексу, які складаў духоўнае жыццё чалавека, непарыўна звязанае з бытам, з усёй сістэмай старажытных народных вераванняў, адпавядае сучаснаму разуменню гэтага жанру.

«Цікава прасачыць па фальклорных даных,— пісаў даследчык,— як думка чалавека, які яшчэ не дарос да скептыцызму і навуковага светапогляду, прыгнечанага living рознымі назапашанымі на працягу стагоддзяў страхоццямі, шукае выратавальнае выйсце ў засцярогах, цікава тым болей, што засцярогі заўсёды мелі вялікае значэнне ў жыцці народа, таму што на іх ускладаліся вялікія надзеі: яны супакойвалі сэрца, усхваляванае пачуццём страху, стрымлівалі настроенае на містычны лад уяўленне і ахоўвалі самае блізкае і дарагое: у маці яе дзіця, у гаспадара яго жыллё і свойскую жывёлу, у пча-

---

[13] Миллер Вс. Ассирийские заклинания и русские народные заговоры. С. 80.
[14] Там жа.

ляра мёд... Засцярогі вельмі шматлікія і разнастайныя, як абрыўкі розных эпох і розных старадаўніх светапоглядаў» [15]. Усе засцярогі Сумцоў падзяляе на прадметныя, сімвалічныя (розныя дзеянні, напрыклад аблізванне і інш.) і слоўныя замовы.

Яшчэ больш катэгарычна ў карысць замоў як прадукта народнай творчасці выказаў слушную думку М. Ф. Пазнанскі. Паставіўшы пытанне пра месца замоў сярод іншых відаў паэтычнага мастацтва, ён раскрывае іх сутнасць, іх асноватворны характар: «Дык дзе ж месца замовы ў шэрагу другіх відаў паэтычнай творчасці? Перш за ўсё — што гэта: эпічная, лірычная або драматычная творчасць? Ні тое, ні другое, ні трэцяе. Або, дакладней, і тое, і другое, і трэцяе, і нават чацвёртае, паколькі замова прадстае ў празаічным выглядзе. З тэарэтычнага боку тым і цікава замова, што яна з'яўляецца выдатным прадстаўніком сінкрэтычнай творчасці, з якой дыферэнцыраваліся потым асобныя паэтычныя віды» [16].

Фальклорная аснова замовы выяўляецца пры супастаўленні яе з іншымі фальклорнымі жанрамі, асабліва з абрадавымі песнямі, казкамі. І, відаць, мела рацыю А. Еляонская, калі тлумачыла вытокі супадзенняў у казках і замовах не ўплывам аднаго жанру на другі, а шукала іх глыбей: «Прычыны падобных супадзенняў... ляжаць у тым паэтычным мысленні, якое пад уздзеяннем вядомага светапогляду, асацыіруючы разнастайныя ўражанні і ўяўленні, стварае эпічныя карціны ўвогуле і потым, па меры неабходнасці, размяшчае іх у розных творах паэтычнага мастацтва» [17].

---

[15] Сумцов Н. Личные обереги от сглаза. Харьков, 1896. С. 2.
[16] Познанский Н. Заговоры. С. 4.
[17] Елеонская Е. Некоторые замечания по поводу сложения сказок: Заговорная формула в сказке. М., 1912. С. 11.

У дачыненні да беларускага матэрыялу розныя праблемы, звязаныя з прыродай, генезісам, сістэматызацыяй замоў, іх паэтычнымі асаблівасцямі, амаль не ставіліся. У дарэвалюцыйны час агульнымі пытаннямі чарадзейства займаліся М. В. Доўнар-Запольскі [18] і І. А. Берман [19]. Абзорныя агляды замоў падаюць Я. Ф. Карскі [20], К. П. Кабашнікаў [21], М. Я. Грынблат [22], М. А. Янкоўскі [23].

Некаторыя пытанні так ці інакш ставіліся збіральнікамі замоў пры друкаванні гэтых твораў. Сярод публікацый беларускіх замоў вылучаецца збор Е. Р. Раманава (850 тэкстаў). Замовы склалі амаль цэлы том яго «Беларускага зборніка» (вып. 5, 1891). Па колькасці матэрыялу, па паўнаце сюжэтаў, тэматычнай разнастайнасці гэты зборнік не мае сабе роўных у беларускай фалькларыстыцы. З іншых публікацый варта адзначыць падборкі замоў у П. В. Шэйна [24], А. Шлюбскага [25], М. Федароўскага [26], У. М. Дабравольскага [27].

У апошнія гады вядзецца інтэнсіўнае збіранне

---

[18] Довнар-Запольский М. Чародейство в Северо-Западном крае в XVII—XVIII вв.: Историко-этнографический этюд // Этнограф. обозрение. М., 1890. № 2.

[19] Берман Иоан. Чаровники и знахари северо-западного простонародья // Виленский вестник, 1903, № 152, 158, 160, 164.

[20] Карский Е. Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3. Ч. 1.

[21] Кабашнікаў К. П. Нарысы па беларускаму фальклору. Мн., 1963.

[22] Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Мн., 1967.

[23] Беларуская народна-паэтычная творчасць. Мн., 1979.

[24] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. 1. Ч. 1; 1893. Т. 2.

[25] Шлюбскі А. Матар'ялы для вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мн., 1927. Ч. 1.

[26] Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Kraków, 1897. T. 1.

[27] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. СПб., 1891. Ч. 1.

замоў супрацоўнікамі аддзела славістыкі ІМЭФ АН БССР, у выніку чаго ў архіве інстытута зараз захоўваецца каля тысячы тэкстаў. Замовы сустракаюцца і ў запісах студэнтаў-філолагаў.

У сувязі з новай хваляй цікавасці да міфалагічнага светапогляду і развіцця міфалогіі даследчыкі ўсё часцей звяртаюцца да замоў як жанру, які дазваляе паглыбіцца ў нетры старажытных язычніцкіх уяўленняў. Замовы выкарыстоўваюцца пры вырашэнні пытанняў агульнатэарэтычнага характару, асобныя аспекты праблемы замоў становяцца прадметам спецыяльнага аналізу. Так, даследаванні па структуры замоўных тэкстаў сталі прадметам абмеркавання на сімпозіуме, праведзеным Сектарам структурнай тыпалогіі Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР у 1988 г. Накіраванасць дакладаў вызначаецца разнастайнасцю і шырынёй ахопу, шматаспектнасцю ў аналізе не толькі структуры, але і генезісу, семантыкі жанру, яго сувязі з іншымі фальклорнымі жанрамі, сувязі і залежнасці ад сацыяльнага, культурна-бытавога, рытуальна-абрадавага кантэксту [28].

Важнай праблемай з'яўляецца класіфікацыя замоў. Па свайму зместу, прызначэнню і форме яны надзвычай разнастайныя, што дазваляе класіфікаваць іх па розных параметрах і што ў сваю чаргу робіць любую класіфікацыю і дапушчальнай, і ўмоў-

---

[28] Гл.: Этнолингвистика текста. Семиотика малых форм фольклора: Тезисы и предварительные материалы к симпозиуму. М., 1988. І—ІІ. Побач з даследаваннямі агульнага характару накшталт прац У. М. Тапарова «О статусе и природе заговора (теоретический аспект)» (с. 22—24) або С. Е. Нікіцінай «Жанр заговора в народном представлении» (с. 25—26) шмат увагі ўдзяляецца вузкаспецыфічным аспектам: О. Б. Страхава «Фрагменты заговоров и молитв в травниках» (с. 40—42), Т. М. Суднік «Белорусские заговоры, обращенные к воде» (с. 72—74) і інш.

най, не пазбаўленай пэўных недакладнасцей. Прывядзём прыклады некалькіх падыходаў да гэтай праблемы. Складаючы бібліяграфічны паказальнік па замовах, М. Ф. Сумцоў вызначыў тры разнавіднасці твораў, якія ён аднёс да замоў: замовы ў вузкім значэнні гэтага слова, г. зн. слоўныя засцярогі ад хвароб; заклінанні і чарадзейскія формулы і, нарэшце, апакрыфічныя малітвы. Але, як слушна адзначаў вучоны, усе гэтыя разнавіднасці звязаны паміж сабой і рубрыкі такія вельмі няўстойлівыя [29].

Ус. Ф. Мілер падзяляе замовы «па характару» на тры групы: прамыя загады, пагрозы і малітвы. Ён раскрывае характар твораў кожнай групы [30].

Класіфікацыя М. Ф. Пазнанскага набліжаецца ў некаторай ступені да прапанаванага Мілерам падзелу замоў. Ён піша так: «Замовы з марфалагічнага боку распадаюцца на дзве галоўныя разнавіднасці: а) заклінанне злога духа свяшчэнным імем... Радзімай іх трэба прызнаць Усход. Яны шырокай хваляй уліліся ў Еўропу пры вялікім садзеянні хрысціянства. Паходжанне іх цесна звязана з рэлігійнымі дуалістычнымі і анімістычнымі ўяўленнямі; б) замовы, якія маюць здольнасць адлівацца ў эпічную форму. Радзіма іх у большасці, верагодна, Еўропа. Паходжаннем сваім яны не абавязаны рэлігійным уяўленням, хоць у наш час амаль усе пранізаны хрысціянскімі вобразамі» [31]. Тут не столькі размова пра класіфікацыю замоў, колькі пастаноўка пытання генезісу жанру.

---

[29] Сумцов Н. Ф. Заговоры (библиографический указатель). Харьков, 1892. С. 2.

[30] Миллер Вс. Ассирийские заклинания и русские народные заговоры. С. 3. Напомнім, што яго высновы грунтуюцца ў першую чаргу на матэрыяле ўсходняй магіі.

[31] Познанский Н. Ф. Сисиниева легенда-оберег и сродные ей амулеты и заговоры // Живая старина. 1912. Вып. 1. С. 95.

У дачыненні да ўкраінскага матэрыялу П. С. Івашчанка падае наступную класіфікацыю (дарэчы, ён звяртаецца толькі да лекавых замоў, якім дае назву «шэпты» («шептанья») з тлумачэннем, што дзеяслоў «шаптаці» ўжываецца ў сэнсе «врачевать»). Паводле яго высноў, усе шэпты распадаюцца на два вялікія раздзелы. У першы з іх уваходзяць шэпты-замаўлянні (шептанья-замовлянья), або заклінанні, як слоўна-абрадавыя меры супраць хвароб і неспрыяльных выпадкаў у жыцці. Гэты раздзел можна разбіць на тры групы: а) супраць хвароб ад невядомай прычыны або мяркуемай; б) супраць хвароб, прычына якіх вядома; в) супраць неспрыяльных выпадкаў жыцця. Другі раздзел складаюць шэпты-прымаўлянні, або нагаворы, якія наклікаюць на чалавека дабро або зло («папераджальныя меры для прыцягнення спрыяльных і аддалення неспрыяльных выпадкаў у жыцці... чалавека») [32].

Такая класіфікацыя ўяўляецца непрыдатнай, калі разглядаць замовы як від народнай творчасці, а не толькі як сродак практычнай дзейнасці.

Збіральнікі замоў таксама рабілі спробы ствараць свае схемы. Кіруючыся практычнымі мэтамі размяшчэння матэрыялу ў зборніках, яны групавалі яго ў адпаведнасці з тэматыкай і функцыяй, што якраз і дазваляе арыентавацца ў вялікім і разнастайным патоку тэкстаў. Напрыклад, Л. М. Майкаў у сваім зборніку «Великорусские заклинания» [33], у які ўключана 372 тэксты, групуе ўсе замовы ў восем раздзелаў: 1. Любоў. 2. Шлюб. 3. Здароўе і хваробы. 4. Прыватны быт. 5. Промыслы і заняткі. 6. Грамад-

---

[32] Иващенко П. С. Следы языческих верований в южно-русских шептаньях. Отд. оттиск из «Трудов 3-го археологического Съезда». Киев, 1876. С. 3, 15—26.

[33] Зап. РГО по отд-нию этнографии. СПб., 1869. Т. 2.

скія адносіны. 7. Адносіны да прыроды. 8. Адносіны да звышнатуральных істот. У кожным раздзеле свае падраздзелы, а ў іх тэксты размяшчаюцца па сувязі варыянтаў.

Па тэматыцы і прызначэнню групуюцца таксама замовы ў зборніку Е. Р. Раманава, праўда, ён не вылучае буйныя раздзелы, а падае матэрыял суцэльным патокам, аб'ядноўваючы шматлікія варыянты ў гнёзды.

Тэматычна-функцыянальнага прынцыпу прытрымліваюцца многія даследчыкі[34], у тым ліку і беларускія. К. П. Кабашнікаў вылучае замовы ад хвароб; замовы, звязаныя з гаспадарчай дзейнасцю; любоўныя замовы і больш познія — замовы сацыяльнага зместу[35]. На чатыры групы падзяляе замовы М. Я. Грынблат: 1) замовы гаспадарчага характару; 2) замовы ад розных хвароб і «прафілактычнага» характару; 3) замовы, звязаныя з сямейнымі адносінамі і прыватным бытам; 4) замовы, звязаныя з грамадскімі адносінамі[36].

У дачыненні да беларускіх замоў (зараз сабрана звыш дзвюх тысяч тэкстаў для тома з серыі БНТ) найбольш прымальнай уяўляецца сістэматызацыя ў залежнасці ад прызначэння, што адлюстроўваецца ў іх тэматыцы:

І. Замовы гаспадарчага характару, куды ўваходзяць замовы пры паляванні, пры лоўлі рыбы, пры развядзенні пчол, пры сельскагаспадарчых работах («звароты да ніўкі»), пры першым выгане

---

[34] Гл.: Соколов Ю. М. Русский фольклор. С. 194; Н. И. Кравцов, С. Г. Лазутин. Русское устное народное творчество. М., 1983. С. 63.

[35] Кабашнікаў К. П. Нарысы па беларускаму фальклору. С. 37.

[36] Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. С. 93.

жывёлы на пашу, для захавання статка, пры пажары, пры пабудове хаты.

II. Ахоўныя замовы ад злых духаў і шкодных істот, прыродных з'яў: ад перуна, ад дамавога, ад хлеўніка, ад лесавіка, ад ведзьмы, чараўнікоў, ад залому, ад нячыстай сілы, «нарадкі», «стацця», «падвею».

III. Ахоўныя замовы ад звяроў: ад гадзюкі, ад ваўкоў, сабак, ад шалу.

IV. Замовы ад хвароб, куды ўваходзяць таксама прафілактычныя, звязаныя з родамі.

V. Любоўныя замовы ўключаюць прысушкі і адсушкі.

VI. Замовы сацыяльнага зместу (ад несправядлівага суда, салдацкія, ад «урагоў»).

Такая класіфікацыя дазваляе прасачыць стадыяльнасць у развіцці замоў і ў той жа час вылучыць пэўныя групы ў адпаведнасці з мастацкімі вобразамі, асноўнымі персанажамі замоў.

Варта звярнуць таксама ўвагу яшчэ на адзін аспект. Уяўляецца, што якраз замовы даюць багаты матэрыял для выяўлення «паэтычных сімвалаў», якія адыгрываюць важную ролю ва ўсіх відах мастацтва. Вельмі цікавая думка ў гэтым плане выказана ў працах У. М. Тапарова, у прыватнасці ў яго артыкуле «Да паходжання некаторых паэтычных сімвалаў. Палеалітычная эпоха»: «...пад «паэтычнымі сімваламі» маюцца на ўвазе тыя з ы х о д н ы я э л е м е н т ы (моўныя, выяўленчыя, пластычныя, рытуальныя і г. д.), якія пры наяўнасці супрацьпастаўленняў п а э т ы ч н а е (эстэтычна адзначанае) — н е п а э т ы ч н ы е (эстэтычна неадзначанае) і с і м в а л і ч н а е (знакава адзначанае) — н е с і м в а л і ч н а е (знакава неадзначанае), нават калі фарміраванне гэтых зыходных элементаў і названых супрацьпастаўленняў размежавана ў ча-

се, маглі выступаць як прадстаўнікі першых членаў гэтых двух супрацьпастаўленняў. Пры такім падыходзе ўдаецца пазбегнуць асноўнай небяспекі, якая падсцерагае тых, хто займаецца пытаннем паходжання паэтычных (у шырокім сэнсе слова) форм, а іменна небяспекі гаварыць пра мастацтва, калі яно яшчэ не было самастойнай знакавай сістэмай, а было толькі адным з варыянтаў плана адлюстравання для значна больш шырокіх канцэпцый, валодаўшых універсальным характарам. Разам з тым было б памылкай пачынаць гісторыю мастацтва з той позняй эпохі, калі яно становіцца самагодным цэлым. Адсюль вынікае, што, займаючыся старажытным перыядам развіцця мастацтва (або паэзіі), было б мэтазгодна само слова «мастацтва» разумець з некаторымі абмежаваннямі, помніць, што палеалітычны наскальны жывапіс, скульптурныя фігуркі або арнамент адносяцца да мастацтва ў той жа ступені, як і замова, рытуальнае дзейства, пахавальны абрад, збіранне косных астанкаў або медытацыя. Таму ў дастасаванні да старажытнага перыяду дакладней гаварыць аб «адзначанасці», чым аб «паэтычным», «мастацкім», «эстэтычным» і г. д.» [37]

Падзяляючы ў асноўным думку вучонага, мы дазволім сабе спыніцца і на эстэтычным, паэтычным, баку замоў, маючы на ўвазе тую акалічнасць, што зараз перад намі творы, якія прайшлі доўгі і складаны шлях і адліліся ў па-сапраўднаму высокамастацкія формы.

---

[37] Ранние формы искусства: Сб. ст. М., 1972. С. 77—78.

2. Зак. 1433

# АДЗІНСТВА СВЕТАПОГЛЯДНАГА І МАСТАЦКА-ВОБРАЗНАГА АДЛЮСТРАВАННЯ СВЕТУ Ў ЗАМОВАХ



«Цар Гарадзей, агнём не ўладзей, жаркіх іскраў не раскідай, пустога дыму не пускай. Цур-амін, стаўбом дым» [1].

«На моры на кіяні, на востраві на Буяні сядзіць старэнькі сівянькі дзядочак, калінку ламаець, сіні агонь прапускаець, і шал і бешанства выганяець, з скаціны рыжыя шарсьціны, з шчырага сэрца, з рацівага жывата, з чорныя печані, з двайнога капыта. Міжда крутых гор стаіць там буры вол; як гэтаму бураму валу век з естых гор ня выхадзіць, каб

---

[1] АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 90, л. 4, № 3. Зап. У. М. Сысоў у 1978 г. у в. Старая Алешня Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. ад Н. Р. Малалетнікавай. Далей спасылкі на запісы з АІМЭФ даюцца ў тэксце ў дужках без указання на назву архіва (АІМЭФ) у шыфраваным выглядзе (напрыклад, 8-1-1, дзе першая лічба азначае фонд, другая — вопіс, трэцяя — нумар справы) з прозвішчам збіральніка.

так шалу-бешанству ў гэтай скаціні ня бываць. Амін»[2].

«Царыца-вадзіца, красная дзявіца, марская крыніца, божжа памачніца, і ўгодніца Улляніца, і румяніца, рака вялікая. Кацішся ты, вадзіца, па днях, па начах, па вячэрніх зарах, ідзеш з-пад крутых гор, з-пад красных зор, з-пад жаркага сонца, з-пад яснага месяца, з-пад латыра камня, па тонкіх жылах, марскіх сілах. Падмываеш ты крутыя берагі, жоўтыя пяскі, калоды валяныя, траву шаўковую і вымываеш сырое карэнне, белае каменне; абмываеш камушкі дробныя, крамені чорныя і жалеззе марское цяжкое. Ачышчаеш цароў, каралёў і ўвесь народ хрысціянскі, абмый і сцалі рабу гэту нядужную ад першага вока аднавокага, і ад карага, і ад ярага, і ад белага, і ад шэрага, ад стрэчнага, ад папярэчнага, ад падзіўнага і пасмешнага, ад падумнага і пагляднага, ад прыгаворнага і наброднага, ад галоснага і ад глоснага, ад завіснага і ад радаснага, ад вадзяного і сухавейнага, і скразіцельнага, і скрозь плотнага, і светавога, і агнявога, і гаравога, і палявога; ці схода, ці маладзіка, ці пад поўня; ад часіны, ад хвіліны, і дзённага, і начнога, і ранняга, і вячэрняга, і паўночнага, і паўдзённага, і радзімага, і насыльнага, і падымнага, і светавога, і калючага, і балючага, і ламучага, і гаручага, ці панскага, ці цыганскага, ці дзякоўскага, ці яўрэйскага, ці мужчынскага пад вянцом, ці жаноцкага пад чапцом, ці хлапецкага пад шапачкай, ці дзявоцкага пад завіткай, ці ўдовіна, ці ўдаўцова, ці дзядова, ці бабіна, ці бацькіна, ці маткіна, ці

[2] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Витебск, 1891. Вып. 5. С. 105—106, № 271. Далей спасылкі на творы з гэтага выдання даюцца скарочана (Рам.— Раманаў) у тэксце ў дужках з указаннем старонкі (першая лічба) і нумару (другая лічба).

братова, ці сястрына, ці рабячага, ці сабачага, ці дзядзькіна, ці цёткіна, ці ад старых старыкоў, ад старых старушак, ад вядзьмінскіх і чараўніцкіх і таго беззаконнага ўдовіна навараджэнца, які два разы маць сасець; і на чым бы яны ні былі: на піцянні ці на едзянні, на гулянні-красаванні ці на мяккім спачыванні.

Вадзіца-царыца, зямная і нябесная! Зара вячэрняя, зара вутранняя, сонца краснае, месячык праведны, зорачкі частыя, панядзелачак святы, святачкі святыя, гадавыя! Станьце, гаспадухначкі, на помач, святыя анёлы, на радасць, памажыце мне зглаз-урокі загаварыць! І выхадзіце вы, зглаз-урокі, з раба гэтага нядужага, з буйнай галавы, з чорных брывей, з слухавых вушэй, з баявых ноздрэй, з рацівага сэрца, з сільнага жывата, з чорнай печані, з белага лёгкага, з гарачай крыві, з пальчыкаў, з сустаўчыкаў, з рус-кос, з трыдзевяць касцей, трыдзевяць жыл, з трыдзевяць пажылак, з ногцікаў, з локцікаў, з белых рук, з хрыбетнай касці, з гаручых слёз. Ідзіце вы, зглаз-урокі, на імхі, на балоты, на тонкія аржаванні, на ніцыя лозы, на гнілыя калоды, на сухія лясы, на жоўтыя пяскі, на буйныя ветры, на неадчыненыя дзверы, на нехрышчоную зямлю, дзе сонца не грэе, дзе ветры не веюць, дзе пеўні не спяваюць, і гусі не крычаць, і сабакі не брэшуць, і птушкі не пяюць, і звяр'ё не бегае, і людзі не ходзяць. Там вам курганы-нагуляны, і там, на белым камні, стаяць сталы цясовыя, на тых сталах абрусы белыя, на тых абрусах кубкі вінныя; там стаяць ложкі цясовыя, на тых ложках пярыны пуховыя; там у шэрых барах, у цёмных лясах ёсць прыгожая сенажаць, сярод той распрыгожай сенажаці стаіць куст ракітавы, пад кустом ракітавым сядзіць паненка, пірагі пячэ і вас да сябе ў госці кліча, і піва наварыла, і мёду насыціла.

Там вам гулянне-красаванне, там вам адпачыванне; там вам гуляць, вінныя кубкі выпіваць, на цясовых ложках аддыхаць; там быць, там вам жыць, там і раскашавацца. Тут жа вам не хадзіць, касцей не ламаць, шчырага сэрца не знабіць, цела не пушыць, не калоць, не пароць, не гарэць, не балець. Чур табе!

Вазьмі ты, вецер ціхі, вятровае ліха; дзе ты гуляў, дзе ты буяў, дзе ты рабу гэту балезную сустракаў, што ты ёй даў, каб назад адабраў.

Правялікі пан дамавы! Правялікі пан лесавы — безыменшчык! Правялікі пан баравы — Сцяпан! Правялікі пан палявы — Антон! Правялікі пан лугавы — Хвядос! Правялікая пані маці, маланнябліскуха! Прасіце вы сваіх сыноў, дванаццаць ціхіх вятроў, які нам шкоду зрабіў, адабраць вятровае ліха.

Чурайся, ліха, адракайся ад раба гэтага і ідзі, вятровае — на вецер; зямное — на зямлю; вадзяное — у ваду; агнявое — у агонь. Амінь» [3].

«Багаславі, Госпадзі, і памажы ад хлеўніка! Устану я рана-раненька, умыюсь бела-бяленька, пайду ў чыстае поля, зірну на сіняе мора. На сінямморы выспа, на выспі зяляная ель, на той елі шаўковая плець, на той плеці залатое чарасло, на том чарасле прэсвятая матар Божая стаяла, Суса Хрыста на руках дзяржала. Прыляцелі к ёй трыдзевяць паграбатых, а трыдзевяць пашкрабатых, тую ель хацелі сеч-рубаць, а Хрыста ў вочы павідаць. Адказуя ім Гасподзь Сус Хрыстос: адкасніцеся вы, трыдзевяць ідалы! Як вам етага дрэва і ні сеч, ні рубаць. Хрыста ў вочы не відаць, так і (варанога) каня есць неняць. А мне, рабу божаму, адмаўляць,

---

[3] Беларускі фальклор: Хрэстаматыя. Мн., 1970. С. 65—67. З матэрыялаў Ал. Шлюбскага.

і Госпада Бога на помач прызываць і прэсвятую матар Бугуродзіцу і ўсіх святых» (Рам., 2, 4).

Чатыры творы з мноства, з больш чым дзвюх тысяч замоў, запісаных ужо і яшчэ ў большай колькасці захаваных у памяці, якімі карысталіся ў розныя часы і ў розных выпадках жыцця, калі трэба было засцерагчы сябе, свой дом, сваю гаспадарку або ўздзейнічаць на навакольны свет, прыроду, надпрыродныя істоты і з'явы ў практычных мэтах. Гэта замовы ад агню пры пажары, ад шалу (бешанства), ад ліхога вока (уроку, зглазу) і ад хлеўніка. Яны розныя і па аб'екту замаўлення, па разгорнутасці сюжэта, па кампазіцыйнай будове, наяўнасці замоўных формул, па самому характару заклінання. Тут і прамы загад («агнём не ўладзей, іскраў не раскідай» і г. д.), і залучэнне на дапамогу прыродных сіл («Вадзіца-царыца, зямная і нябесная! Зара вячэрняя, зара вутранняя, сонца краснае, месячык праведны, зорачкі частыя...»), і апеляцыя да свяшчэнных імёнаў (прасвятой маці божай і Ісуса Хрыста), і зварот да казачна-міфалагічнага старэнькага сівенькага дзядочка, які сядзіць «на моры на кіяні, на востраві на Буяні». Кароткае энергічнае заклінанне агню пры пажары, калі ўсё падпарадкавана імкненню як найхутчэй пры дапамозе магічнага слова дасягнуць жадаемага — сцішыць агонь, адвесці яго разрушальную сілу. Пры замаўленні ліхога вока трэба прадухіліць усе магчымыя прычыны ўроку і засцерагчы ўсе часткі цела, на якія можа легчы хвароба, таму так да месца тут доўгія падрабязныя пералічэнні, а вера ў тое, што хвароба ўяўляе сабой нешта матэрыялізаванае, прымушае звяртацца да яе з прапановай адправіцца ў госці ў далёкія мясціны, дзе нагатавана добрае частаванне.

Як бы ні розніліся замовы паміж сабой, усе яны, выказваючы патрабаванне, просьбу, пажа-

данне, маюць на мэце аказаць уплыў на навакольны свет, усе яны валодаюць, па ўяўленнях выканаўцаў, сілай магічнага ўздзеяння. Менавіта гэта іх асаблівасць слушна прымаецца пад увагу пры азначэнні замовы, хаця кожны даследчык, крытыкуючы недакладнасці ў вызначэннях папярэднікаў, прапануе свой варыянт.

Перш за ўсё здаўна назіраўся разнабой у самой тэрміналогіі. Адны вучоныя карысталіся тэрмінам «заклінанне» (П. С. Яфіменка), другія ўжывалі абедзве назвы — і «замовы», і «заклінанні» — для адных і тых жа твораў (П. С. Яфіменка, М. В. Крушэўскі, Л. М. Майкаў, А. Ф. Мілер і інш.), але большасць называлі такія заклінальныя формулы замовамі. П. Р. Багатыроў для твораў, якімі карысталіся пры земляробчых работах, ужываў тэрмін «замовы-заклінанні», а для іншых, тых, што прымяняліся як сродак пры розных захворваннях,— «замоўныя формулы» [4].

Дарэчы адзначыць, што народная тэрміналогія вылучаецца большай выразнасцю і разнастайнасцю. У беларусаў найбольш ужывальны тэрмін «шэпты», вядомы таксама «замаўлянні», «нагаворы», «словы», «малітвы». Апошні — вынік хрысціянскага царкоўнага ўплыву. Любоўныя замовы называюцца ў залежнасці ад іх мэтанакіраванасці прысушкамі і адсушкамі. Аналагічная тэрміналогія ў рускіх і ўкраінцаў.

Найбольш мэтазгодна для абазначэння сукупнасці ўсіх гэтых твораў карыстацца тэрмінам «замовы» («загаворы»), які трывала ўвайшоў у навуковы ўжытак, а побач з ім для характарыстыкі

---

[4] Богатырев П. Г. Заговоры // Русское народное поэтическое творчество. М., 1954. С. 220.

пэўных функцыянальных груп прымяняць народныя тэрміны тыпу «прысушкі», «адсушкі» і інш.

Трэба мець на ўвазе, што замовы адрозніваюцца паміж сабой не толькі прызначэннем, але і паходжаннем, формай і іншымі параметрамі, якія ў тых ці іншых выпадках могуць быць узяты пад увагу пры іх аналізе.

Што да замоў і заклінанняў, іх генетычнай абумоўленасці і пераемнасці, то розніца паміж імі не відавога характару, а гэта адрозненні іерархічнай градацыі і ў большай ступені знешніх фармальных адзнак.

Агульнапрызнаны заклінальны характар замоў, гэтаксама як не выклікае пярэчання думка, што заклінанні з'яўляюцца той прасцейшай формай слоўных формул магічнага характару, на якой развілася больш складаная паэтычная сістэма — замова. Грунтуючыся на адзінай светапогляднай аснове, маючы адзіныя псіхалагічныя прадпасылкі, заснаваныя на пэўнай сістэме вераванняў, яны адзіныя па сваёй асноўнай функцыі — забяспечыць дабрабыт і плён ва ўсіх практычных справах. Адрозненне паміж заклінаннямі і замовамі пры іх фармальным адзінстве некаторыя схільны тлумачыць іх роляй у народным побыце. Так, каляндарныя заклінанні, як і песні, «павінны былі забяспечыць дабрабыт усёй абшчыны, і выкананне іх лічылася важным грамадскім абавязкам — яны выконваліся часцей калектыўна, усімі жыхарамі вёскі або пэўнай полаўзроставай групай. З вытворчай дзейнасцю замовы былі звязаны слабей. Вытворчыя замовы найбольш распаўсюджаны ў пастухоў і паляўнічых, асноўнай жа сферай іх стала прыватнае жыццё. Пераход іх у прыватнае жыццё прывёў да таго, што яны пачалі выконвацца пэўнымі асобамі па меры неабходнасці; вылучылася і асобая група

выканаўцаў-знаўцаў: знахары, варажбіты, чараўнікі» [5].

Нельга пагадзіцца з усімі прыведзенымі палажэннямі. Сапраўды, заклінанне павінна было «аказаць уплыў на навакольны свет, выклікаць жаданую з'яву», яно мела «акрэслена выяўленую магічную функцыю і вымаўлялася з мэтай выклікаць патрэбны вынік». Заклінанні выказвалі «патрабаванне, пажаданне або просьбу» [6]. Што гэта, як не характэрныя адзнакі замоў? Мы прымаем за зыходнае, што кожная замова незалежна ад таго, адносіцца яна да сферы вытворчага, грамадскага або прыватнага жыцця, з'яўляецца заклінаннем, і таму лічым паралельнае ўжыванне гэтых тэрмінаў правамерным. Менавіта неразмежаванасць замоў і заклінанняў характэрна для поглядаў многіх даследчыкаў, напрыклад А. Мілера, які вельмі пашыральна разумеў замовы. «Усе замовы, якія захаваліся да нашага часу, маюць на ўвазе, як няцяжка заўважыць, забеспячэнне чалавечага дабрабыту, пастаяннага добрага выніку ва ўсіх звычайных занятках чалавека. Першапачатковы ж... круг замоў павінен быў быць непараўнальна шырэйшым. Да іх павінны былі звяртацца пры выкліканні і тых гадавых з'яў прыроды, у пастаянстве якіх чалавецтва пераканалася не адразу. Пры аглядзе гадавога круга свят мы бачылі рэшткі падобных замоў і адпаведных ім чараўнічых абрадаў: у выгнанні зімы і заклікані вясны, у выкліканні дажджу і г. д. Першапачатковы ж, трэба думаць, лічылася патрэбным

---

[5] Обряды и обрядовый фольклор / Отв. ред. В. К. Соколова. М., 1982. Введение. С. 6.

[6] Соколова В. К. Заклинания и приговоры в календарных обрядах // Обряды и обрядовый фольклор. С. 11.

звяртацца да заклінання і для выклікання кожнага новага дня з начнога палону» [7].

Больш таго, ён ставіць знак роўнасці паміж замовамі і абрадавымі заклінальнымі песнямі, якія называе песнямі малітоўнага зместу, калі тлумачыць само паняцце «замовы»: «...сама назва ўжо паказвае, што слову прыпісваецца тут, з аднаго боку, цалкам практычнае, з другога — надзвычайнае, магутнае значэнне... Ва ўласным сэнсе ўсе старажытнейшыя песні малітоўнага зместу — малітвы толькі ў перакладзе на пазнейшую мову, першапачаткова ўсе яны былі менавіта замовы, асноўваліся на ўпэўненасці ў тым, што імі варожае будзе абавязкова замоўлена, а спрыяльнае — намоўлена адпаведна з патрэбнасцю. Магутнаму дзеянню слоў садзейнічала адпаведнае ім магутнае дзеянне абраду» [8].

Такая ідэнтыфікацыя замовы і песні здаецца залішне шырокай, але ж, як убачым далей, супастаўленне іх наводзіць на думку, што вучоны быў не так далёка ад ісціны, тым болей што пытанне пра першапачатковы характар і спосаб выканання замоў, паднятае А. М. Весялоўскім (празаічныя — песенныя формы, вымаўленне — спяванне), застаецца адкрытым перш за ўсё па прычыне недастатковасці матэрыялу, бо зараз мы маем справу з замовамі «позняй фармацыі, якія нясуць на сабе... наслаенні розных ступеняў даўнасці» [9].

Дарэчы, А. Еляонская, вывучаючы судовыя справы XVII ст. пра чараўніцтва і ўжыванне замоў,

---

[7] Миллер О. Ф. Опыт исторического обозрения русской словесности, с хрестоматиею, расположенною по эпохам. СПб., 1865. Ч. 1. Вып. 1. С. 84.
[8] Там жа. С. 66—67.
[9] Там жа. С. 84.

звярнула ўвагу на запісы замоў слупкамі[10], а таксама іх назву. Дзякі называлі іх «заговорец», «уговор», «статья», простыя ж людзі — «стих». «Якая розніца, аднак, у змесце або будове названых такім чынам замоў, вырашыць цяжка»[11]. Можна дапускаць існаванне замоў рознага характару (празаічных і вершаваных) незалежна ад часу іх утварэння. Не ўнікаючы ў глыбіні гэтай праблемы, зазначым толькі, што наша сучаснае разуменне і спосабу выканання, і формы твораў не заўсёды ўлічвае асаблівасці іх функцыяніравання на розных стадыях, таму і атрымліваецца рэзкае размежаванне, нават супрацьпастаўленне іх там, дзе яно не патрэбна. Рытмізаванасць многіх беларускіх замоў наводзіць на думку аб іх рэчытатыўным выкананні накшталт абрадавых заклінальных песень. У народным уяўленні такія песні адрозніваюцца ад іншых і ўспрымаюцца як неабходны, дазволены нават пры забароне спяваць элемент абраду, а іх выкананне — не спяванне, а здзяйсненне магічнага рытуалу. Красамоўнае сведчанне — абразок П. І. Якушкіна пра вяснянкі ў вялікі пост, калі яны лічацца не песнямі (дзеўкі «не песню пяюць, а вясну загукаюць»[12]), а магічнымі выгукамі. Зрэшты, ці варта шукаць прынцыповую розніцу паміж гуканнем, крычаннем песенных заклінанняў і шаптаннем заклінанняў замоўных?

Разглядаючы характэрныя рысы зместу і формы замоў, даследчыкі спрабавалі абагуліць свае назі-

---

[10] Елеонская Е. Заговор и колдовство на Руси в XVII и XVIII столетиях // Русский архив. М., 1912. № 4. С. 617—618.

[11] Там жа. С. 622.

[12] Гл.: Земцовский И. И. Песенная поэзия русских земледельческих праздников // Поэзия крестьянских праздников. Л., 1970. С. 25.

ранні, даць азначэнне жанру, хаця зрабіць гэта вельмі складана. Адным з першых да яго звярнуўся М. Крушэўскі. У сваёй працы «Замовы як від рускай народнай паэзіі» ён піша: «Замова ёсць выказанае словамі пажаданне, злучанае з пэўным абрадам ці без яго, пажаданне, якое павінна абавязкова здзейсніцца»[13]. Ён вылучае ў замове два важныя моманты: 1) веру ў магчымасць навязаць сваю волю боству, чалавеку або вядомым прадметам і абставінам і 2) веру ў чалавечае слова як самы магутны сродак навязаць каму- або чаму-небудзь сваю волю[14]. Выказаныя ім меркаванні, нягледзячы на тое што падвяргаліся крытыцы амаль кожным, хто займаўся замовамі, знаходзілі інтэрпрэтацыю ў большай ці меншай ступені ў працах даследчыкаў такіх твораў. Так, А. Патабня, знаходзячы гэта азначэнне занадта шырокім, што дапускае ўключаць сюды і розныя іншыя формы (напрыклад, праклёны, лаянку і г. д.), сам вызначае замовы як «слоўнае адлюстраванне параўнання дадзенай або наўмысна створанай з'явы з жаданым, якое мае на мэце здзейсніць гэта апошняе»[15]. Як бачым, Патабня абсалютызуе момант параўнання, які надзвычай характэрны для замоў, але не з'яўляецца ў іх універсальным.

Вядомы даследчык замоў М. Ф. Пазнанскі таксама не згаджаецца з Крушэўскім, але ён крытыкуе яго азначэнне за вузкасць, бо многія замовы, на яго думку, не выказваюць пажадання (напрыклад, лекавыя, якія ён называе творамі з «лекавай пара-

---

[13] Крушевский Н. Заговоры как вид русской народной поэзии // Варшавские университетские известия. Варшава, 1876. № 3. С. 23.

[14] Там жа.

[15] Потебня А. А. Малорусская народная песня. Воронеж, 1877. С. 21.

дай»). М. Ф. Пазнанскі фактычна дае двойчы азначэнне замове як жанру. Адно — у залежнасці ад характэрнай рысы, ад асноўнай адзнакі, што ў некаторай ступені носіць фармальны характар (гэта падкрэслівае сам даследчык), але дазваляе правесці мяжу паміж замовамі і іншымі творамі. Вось гэта азначэнне: «Замова ёсць слоўная формула, якая валодае рэпутацыяй дастатковага і неадольнага сродку для дасягнення пэўнага выніку пры ўмове, што будуць выкананы ўсе неабходныя пры гэтым прадпісанні, сродку, пярэчыць якому не можа ні закон прыроды, ні індывідуальная воля, калі яна не карыстаецца з гэтай мэтай таксама якімі б то ні было чарамі»[16]. Азначэнне даволі грувасткае, залішне складанае. Зазначым, што першую яго частку (да слоў «пры ўмове») літаральна прыняў П. Р. Багатыроў, які лічыў такое азначэнне найбольш дакладным[17]. Трэба прызнаць, што менавіта яно не столькі выяўляе жанравую прыроду замоў, колькі акцэнтуе змястоўна-функцыянальную сутнасць іх, дазваляе вызначыць ідэалагічна-светапоглядныя ўстаноўкі замоў як часткі адзінай архаічнай сістэмы поглядаў на ўзаемаадносіны чалавека і невядомых загадкавых сіл прыроды.

Варта спыніцца і на азначэнні замовы М. Пазнанскім, якое ён называе генетычным і фармулюе так: замова — гэта слоўная формула, якая першапачаткова была тлумачэннем магічнага абраду[18]. Але сам даследчык разумее абмежаванасць фармулёўкі, пад якую не падыходзяць многія замовы. Ён робіць агаворку пра дапасаванасць такой дэфініцыі да самых старажытных твораў, а не тых, што

[16] Познанский Н. Заговоры. С. 102.
[17] Гл.: Богатырев П. Г. Заговоры. С. 219.
[18] Гл.: Познанский Н. Заговоры. С. 162.

ўзнікалі па аналогіі з ужо існаваўшымі. У аснове сваёй яна дапушчальная, хаця, канешне, з аднаго боку, далёка не поўная, бо не раскрывае спецыфіку жанру, а з другога — залішне шырокая, бо дапускае ўключэнне ў лік замоў розных твораў, калі яны так ці інакш тлумачаць абрад. У сувязі з гэтым пытаннем уяўляюцца цікавымі разважанні вучонага адносна варыятыўнасці замоў, існавання розных рэдакцый іх. Сапраўды, ёсць супярэчнасць паміж патрабаваннем дакладнага, літаральнага паўтарэння замоўных формул на практыцы (інакш губляецца магічная сіла) і існаваннем мноства варыянтаў іх, розных рэдакцый. Неправамерна бачыць тут толькі працэс скажэння, разбурэння. М. Ф. Пазнанскі лічыць гэта яшчэ доказам першапачатկова другараднай ролі слова. Уся сіла была ў магічным абрадзе, слова ж толькі яго тлумачыла. Таму тлумачальныя формулы маглі прымаць самыя разнастайныя формы. «Міф, які даў эпічную частку замове, першапачаткова быў на службе ў абраду. Ён узнікаў для замацавання аўтарытэту абраду. Значыць, яшчэ ў тую эпоху, калі ўжо існавалі эпічныя замовы, слова не валодала самастойным незалежным ад абраду магічным аўтарытэтам... Таму і не было перашкод для змянення формул. Формулы маглі мяняцца, цэлым павінен заставацца абрад, галоўны носьбіт магічнай сілы... Патрабаванне ж дакладнага захавання формул з'явілася пазней, калі слова набыло самастойную магічную сілу» [19].

Узнікае адно пытанне: а як быць з варыятыўнасцю самога абраду? Нават каляндарныя абрады, якія вылiліся, у сілу калектыўнасці выканання, у найбольш акрэсленыя формы, могуць вар'іравацца не толькі ў залежнасці ад месца бытавання, а на-

[19] Познанский Н. Заговоры. С. 161—162.

ват у адным рэгіёне. Тым больш гэта тычыцца замоўнай абраднасці, якая грунтавалася на розных традыцыях.

Існаваў таксама погляд на замовы, выказаны галоўным чынам прадстаўнікамі міфалагічнай школы, якія шукалі вытокі іх у міфалагічным мысленні людзей, звязвалі замовы з першабытнай эпічнай паэзіяй. «Заклінанні ідуць непасрэдна ад перыяду язычніцкага... стаяць у цеснай сувязі з першабытнай эпічнай паэзіяй, уваходзяць у найстаражытны эпічны міф як асобныя эпізоды»[20]. Ф. І. Буслаеў імкнецца вызначыць тую паэтычную аснову, якая жывіла і абрадавае жыццё, і творчасць: «Мноства прыкмет, закляццяў або загавораў і іншых забабонных звычаяў і паданняў, якія і да гэтага часу жывуць у простым народзе, сведчаць нам, што тая паэтычная аснова, з якой узніклі гэтыя разрозненыя члены аднаго адзінага або цэлага, была не ўласна язычніцкая і ўжо зусім не хрысціянская, але нейкі смутны фантастычны асяродак, у якім з імёнамі і прадметамі хрысціянскага свету злучалася нешта іншае, больш згоднае з міфічнымі поглядамі народнага эпасу»[21]. І далей: «Адметнай рысай гэтага смутнага стану духа была вера ў нейкую чарадзейную звышнатуральную сілу, якая ў кожную мінуту ў жыццёвым побыце, у тым ці іншым важным выпадку жыцця можа аказаць сваё незвычайнае ўздзеянне»[22]. І хаця Буслаеў не дае канкрэтнага азначэння замовы, ён намячае шляхі высвятлення яе глыбіннай сутнасці, указвае на тую светапоглядную сістэму, што яе нараджала.

Азначэнне замовам дае А. М. Афанасьеў: «За-

---

[20] Буслаев Ф. И. Исторические очерки русской народной словесности и искусства. СПб., 1861. Т. 1. С. 251.
[21] Там жа. Т. 2. С. 31.
[22] Там жа. С. 32.

мовы ёсць абломкі старажытнаязычніцкіх малітваў і заклінанняў... У іх сустракаем мы шмат дзіўнага, загадкавага, што немагчыма растлумачыць з першага разу... але што пры сур'ёзнай крытыцы аказваецца адгалоскамі паэтычных поглядаў глыбокай старажытнасці»[23]. Малітвы і заклінанні былі звернуты першапачаткова да стыхійных боставаў, якіх па часе замянілі хрысціянскія святыя. Афанасьеў надаваў вялікую сілу слову, эпічным формулам: «Магутная сіла замоў заключаецца менавіта ў вядомых эпічных выразах, здаўна ўзаконеных формулах...»[24]

Тэзіс аб старажытнасці замоў, аб тым, што яны ўяўляюць важную крыніцу для вывучэння язычніцтва, «дагістарычнай старадаўнасці», абсалютна слушны і амаль не выклікаў пярэчанняў. Разыходжанні выклікала пытанне стадыяльнасці ўзнікнення міфаў і замоў. Так, А. Мілер лічыў замовы стадыяльна ранейшымі, чым міфы, узнікненне замоў адносіў да тых часоў, калі не існавалі ні малітвы, ні міфы, ні самі боствы, і, такім чынам, не замовы ўтварыліся з малітваў, а малітвы з замоў[25].

Ва ўсіх азначэннях, пры адрозненні ў поглядах і высновах аўтараў, падкрэсліваюцца ў замовах два галоўныя моманты: вера ў магічную сілу слова і формульнасць. Гэта ж мы знаходзім і ў працах савецкіх вучоных (П. Р. Багатыроў, Э. В. Памяранцава, М. І. Краўцоў і С. Г. Лазуцін, У. М. Тапароў, Л. І. Мінько, М. А. Янкоўскі і інш.). Прывядзём некаторыя, найбольш тыповыя з гэтых азначэнняў: «Замова — у вуснай творчасці розных народаў слоў-

---

[23] Афанасьев А. Н. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 1. С. 43.
[24] Там жа. С. 44.
[25] Гл.: Миллер О. Ф. Опыт исторического обозрения русской словесности... С. 84.

ная формула, якая, па забабонных уяўленнях, нібыта мае магічную сілу»[26]; «Загаворы — асобныя тэксты формульнага характару, якім прыпісвалася магічная сіла, здольная выклікаць жаданы стан»[27].

М. І. Краўцоў і С. Г. Лазуцін даюць даволі ўдалую дэфініцыю замовам зыходзячы з іх асаблівасцей як фальклорнага жанру, хаця ў іх азначэнні ёсць некаторыя палажэнні, якія да гэтага часу аспрэчваюцца. Яны пішуць: «Своеасаблівым відам абрадавага фальклору з'яўляюцца замовы. Замовы — гэта кароткія празаічныя вуснапаэтычныя творы, якія валодаюць, на думку іх выканаўцаў, сілай магічнага ўздзеяння»[28]. Перш за ўсё ўзнікае пытанне, наколькі праваамерна адносіць замовы да абрадавага фальклору. В. К. Сакалова наконт гэтага прытрымліваецца катэгарычнай думкі: «Замовы не з'яўляюцца абрадавым жанрам і ў складзе каляндарных абрадаў сустракаюцца рэдка. Але іх звычайна ведалі пастухі і даволі шырока карысталіся... Паказальна, што амаль усе замовы, зафіксаваныя ў каляндарных абрадах, звязаны з жывёлай»[29]. Даследчыца не ўлічвае тую акалічнасць, што існуюць, а, трэба думаць, раней іх было не так і мала, замовы ад русалак, замовы, якія ўжываліся пры абрадзе вяселля. Да таго ж параўнанне вялікай групы замоў ад ведзьмаў з купальскімі песнямі, як будзе паказана далей, дэманструе дзівоснае падабенства іх, калі не ідэнтычнасць, што таксама

[26] Померанцева Э. В. Заговор // Краткая литературная энциклопедия. М., 1964. Т. 2. С. 971.
[27] Топоров В. Н. Заговоры и мифы // Мифы народов мира. М., 1980. Т. 1. С. 450.
[28] Кравцов Н. И., Лазутин С. Г. Русское устное народное творчество: Учебник для филол. фак. ун-тов. М., 1977. С. 68.
[29] Соколова В. К. Заклинания и приговоры в календарных обрядах. С. 19.

гаворыць у карысць аднясення такіх твораў да купальскай абраднасці. Не выклікае сумнення таксама першародная сувязь замовы з абрадам, што да нашага часу захавалася ў замоўнай абраднасці. Рытуальнай асновай замоў, гэтых магічных заклінанняў рознага характару, з'яўляюцца не толькі агульнародавыя, калектыўныя, грамадскія абрады, але і хатнія, індывідуальныя, і якраз апошнія адыгралі вялікую ролю ў станаўленні замовы, у развіцці яе як самастойнага жанру. Нельга адмаўляць таго, што першапачатковы этап развіцця замоў адбываўся ў межах абрадаў, быў звязаны з імі і абрадавай паэзіяй. У радзе выпадкаў, як ужо гаварылася і падрабязней будзе сказана далей, сувязь гэта захавалася і мае яна генетычны характар. У выніку ж развіцця замоў, фарміравання іх як самастойнага жанру яна, гэта сувязь, паступова была страчана, як паслаблялася і сувязь заклінальных песень з абрадамі. Замова адрываецца ад абраду, ад калектыўнага ўздзеяння, пашыраецца сфера яе прымянення. Да таго ж слова ў абрадзе таксама адыгрывала ролю дзеяння (слова — справа) нароўні з музыкай, рухамі, мімікай, танцамі і г. д.

Такім чынам, пры ўсіх адрозненнях у азначэнні замовы можна вылучыць характэрныя яе асаблівасці: гэта творы празаічныя, гэта творы формульныя, гэта творы з магічнай рэпутацыяй. Адным словам, замовы — празаічныя творы формульнага характару, якім прыпісвалася сіла магічнага ўздзеяння.

Складанасць у вызначэнні прыроды замовы абумоўлена яе месцам у жанравай сістэме паэтычнай творчасці, з аднаго боку, і адносінамі да магічнай рытуальнай дзейнасці, з другога. Што гэта: ці толькі слоўнае суправаджэнне магічных абрадаў, якое набывала самастойнае значэнне пры памяншэнні

ролі апошніх, а далей пры адміранні магічнага дзеяння, ці раўнапраўны кампанент абраду, ці, нарэшце, галоўны выразнік яго светапогляднай ідэі? Вучоныя па-рознаму падыходзілі да гэтай праблемы.

Даследчыкі замовы неаднаразова падкрэслівалі ролю абраду ў самім працэсе ўзнікнення замоў, разумеючы абрад як комплекс магічных дзеянняў. Так, М. Ф. Пазнанскі надзвычай слушна сцвярджаў, што «вера ў магічную сілу слова развілася з веры ў сілу магічных і сімпатычных абрадаў. Слова запазычыла магічную сілу ад абраду... Калі аўтарытэт слова як магічнага сродку ўзмацніўся, сталі з'яўляцца замовы незалежна ад якога б ні было абраду» [30].

Тэма замоўнага сюжэта, калі ён развіваўся арганічна, а не ствараўся па аналогіі з гатовымі ўжо ўзорамі, звычайна даецца абрадам. Першапачаткова да абраду прырастае кароткая слоўная формула, змест якой зусім супадае са зместам абраду. Затым гэта формула пачынае развівацца ў эпічным напрамку. Дзякуючы суіснаванню з магічным абрадам формула і сама запазычвае ад яго магічны аўтарытэт, уступае ў барацьбу са сваім роданачальнікам і як сродак больш лёгкі і зручны з барацьбы выходзіць пераможцай. Абрад пастутова адмірае, а паралельна гэтаму за яго кошт развіваецца слова. Поўнага развіцця сюжэт дасягае, калі абрад зусім адмірае [31].

Трэба мець на ўвазе, што замовы спрадвечна, першасна былі калектыўнай творчасцю. На больш ранняй ступені замовы былі справай агульнадаступнай, але па меры ўскладнення іх і адпаведных

---

30 Познанский Н. Ф. Сисиниева легенда... С. 96.
31 Там жа.

ім абрадаў пераходзілі ў арсенал вопытных людзей, якія ведалі ўсе тонкасці. «Некалі чары былі справай не толькі спецыяльных асоб, а мелі грамадскае значэнне... У нас захаваліся рэшткі такіх масавых чараўніцтваў хаця б у выглядзе абворвання вёсак» [32].

Іншага погляду прытрымліваецца даследчык замоў В. П. Пятроў. Слушна крытыкуючы тэзіс М. Пазнанскага аб знікненні дзеяння ў выніку забыцця, што не можа быць вядучым фактарам у працэсе гістарычнага развіцця фальклору, ён разглядае замовы не як тлумачэнне дзеяння — чары, а як слоўнае выяўленне абраду — дзеяння — чары, што не адно і тое ж. «Дзеянне і слова раўнацэнныя і раўназначныя па сваёй функцыі як сродкі, прыёмы для дасягнення практычнай мэты» [33].

Відавочна, праблема суадносін слова і дзеяння ў абрадзе не можа замыкацца толькі на слове замовы. Слова ў самым шырокім і разнастайным сэнсе прысутнічае ў абрадзе, нават калі яно і не арганізавана ў пэўную паэтычную сістэму — песню, прыгавор, заклінанне, праклён, галашэнне, лаянку і г. д. Падзел выканаўцаў рытуалаў у адпаведнасці з уласцівымі кожнаму ролямі і найменне іх — ужо семантычна акрэслены абрадавы кампанент, без якога цяжка зразумець і раскрыць сутнасць самога абраду.

Суадносіны паміж словам і дзеяннем у абрадзе нельга зводзіць толькі да тлумачальнай функцыі слова, спадарожнай. Яны, гэтыя суадносіны, такія ж разнастайныя і зменлівыя, як і мэты, сэнс функцыі розных абрадаў. Да таго ж трэба ўлічваць наша разуменне слова як знакавай сістэмы

---

[32] Познанский Н. Заговоры. С. 287—288.
[33] Петров В. П. Заговоры. С. 85.

і адносіны да слова продкаў (нагадаем слушнае сцверджанне вучоных, дакладна выказанае М. Крушэўскім, што для першабытнага чалавека «слова было настолькі ж матэрыяльным, наколькі і іншыя сапраўды матэрыяльныя прадметы, якія ўжываліся ў замовах»[34]). Як пацвярджаюць сведчанні многіх збіральнікаў, у кожным канкрэтным выпадку прымянення замоўназіраюцца розныя сувязі іх з чараўнічымі дзеяннямі, прадметамі, нават з прасторавымі і часавымі субстанцыямі.

Тут дарэчы звярнуць увагу на такую акалічнасць. Кожная замова патрабуе пэўнага рытуалу выканання. У той жа час замовы самі ўваходзяць у разгорнутыя абрады, уваходзяць як арганічная частка іх, як тая абрадавая ступень, на якую ўскладаюцца даволі важныя функцыі. Няма амаль ні аднаго абраду земляробчага календара, дзе замовы не суседнічалі б з іншымі жанрамі слоўнага і музычнага фальклору. Варта прыгадаць калядныя гаданні-заклінанні на добры ўраджай, веснавыя абрады таксама пранізаны заклінальнымі формуламі (тут і прыгаворы пры біцці вярбою, юраўскія, велікодныя, ад русалак і г. д.), заклінанні-засцярогі купальскага свята, жніўныя звароты да ніўкі і г. д. Гэтаксама і ў сямейных абрадах — вясельных, радзінных, памінальных («дзяды») — формулам-заклінанням адводзіцца вялікае месца. Можна гаварыць пра своеасаблівае перапляценне замоў з абрадамі, дакладней, абрадавымі дзеяннямі, іх узаемаабумоўленасць, узаемапранікненне, а гэта вынікае з агульнай іх асновы — таго этапу ў развіцці свядомасці чалавека, які характэрны быў для яго на самых ранніх стадыях развіцця,

---

[34] Крушевский Н. Заговоры как вид русской народной поэзии. С. 31.

калі чалавек сваімі дзеяннямі і словам імкнуўся падпарадкаваць прыроду і дабіцца ад яе неабходных выгод. Тут назіраецца таксама цеснае перапляценне рацыянальнага і ірацыянальнага, што зусім натуральна, бо практычныя правільныя назіранні суіснавалі побач з няўменнем даць тлумачэнне многім з'явам, што выклікала веру ў звышнатуральныя сілы і вымагала да жыцця пэўныя дзеянні і слоўныя формулы.

Абрадавая аснова замоў надзвычай выразна праступае ў творах, прымеркаваных да юраўскага цыкла. Замовы тут — неабходны кампанент абрадавага комплексу, і іх выкананне звязана, як і іншых рытуальных дзеянняў, з абавязковымі рэгламентацыямі. Усведамленне чалавекам цеснай сувязі з прыродай як часткі адзінага цэлага, у якім усё ўзаемазвязана і ўзаемазалежна, адбілася на ўсёй абрадавай сістэме. Прыродзе, яе з'явам надавалася звышнатуральная магічная сіла, і менавіта да прыродных з'яў прыстасоўвалася выкананне рытуалаў, у тым ліку замоў. Як правіла, замовы, акрамя аказіянальных, выконваліся ранішняй ці вячэрняй зарой. Вялікае значэнне надавалася знаходжанню месяца, у залежнасці ад чаго ў замоўных формулах успаміналася месяц-маладзік ці на сходзе. З маладзіком звязвалася поспех у многіх справах, таму пачатак іх прымяркоўвалася да пэўнага часу. Роляй сонца ў жыцці, разуменнем гэтай ролі тлумачыцца ўзнікненне салярнага культу, які ў большай ці меншай ступені праяўляецца ва ўсіх каляндарных абрадах і які здаўна жывіў усю народную творчасць. Так, юраўскія абрады прадпісвалася выконваць да ўсходу сонца або як толькі сонца ўзыдзе. У некаторых месцах Гродзенскага павета на Юраў дзень да ўсходу сонца гаспадар з гарэлкай, настольнікам, хлебам,

касцямі, якія засталіся ад свянцонага стала, «уціральнікам» абыходзіў з расою, г. зн. на досвітку, пасеянае поле, на вуглах якога ўторкваў велікодныя косці з заклінаннем: «Святы божа і святы Юры! Захавайце ніўку ад граду!»[35]

Некаторыя замовы дэманструюць амаль ідэнтычнае супадзенне чараўнічых дзеянняў і слоў, і гэта супадзенне не толькі глыбінна сэнсавае, а нават фармальнае, калі ў замове адлюстроўваюцца самі рытуальныя дзеянні. Найчасцей такая з'ява назіраецца ў замовах ахоўнага характару (ад ведзьмаў, змей і г. д.). Блізкія да іх і замовы, сімволіка якіх супадае з сімволікай атрыбутаў і дзеянняў. Тады змест замовы наглядна раскрывае сэнс усяго абраду і асобных яго фрагментаў, тлумачыць і матывуе яго знешні малюнак і ўжыванне розных прадметаў, якія набываюць статус сімвалаў. Такі паралелізм абрадавых дзеянняў і слоў надзвычай ярка праяўляецца ў рытуале юраўскага выгану жывёлы, прыведзенага ў «Матэрыялах...» П. В. Шэйна[36]. Імітацыя ігры сонца ў кавалачку шкла і зварот да свяціла з рацыянальна абумоўленай просьбай угрэць, упарыць зямлю і захаваць жывёлу, адсылка жывёлы ў «чыста поле, зялёныя луга», дзе яда і піццё,— і дзеянні, і замова прасякнуты матывамі ўшанавання сонца, яго жыватворнай сілы і імкненнем выкарыстаць гэту сілу з карысцю. Зямное жыццё з яго клопатамі і патрэбамі, гаспадарчая дзейнасць, а не асацыяцыі з нябеснымі з'явамі, як лічылі міфолагі, параджалі такія надбудоўныя структуры, як абрады, мастац-

---

[35] Шейн П. В. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 169—170.

[36] Там жа. Т. 2. С. 552—553. № 60. Падрабязна абрад прааналізаваны: Барташэвіч Г. А. Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя. Мн., 1985. С. 76—79.

ка-магічная творчасць, у тым ліку замовы, заклінанні.

Жыццёва абумоўленая аснова замоў і абрадавых дзеянняў не гарантуе іх поўнай рацыянальнасці, не адмяжоўвае ад магіі, ад уяўленняў пра звышнатуральныя сілы. Магія не была б магіяй, чарадзейства не было б такім, калі б яны не ўключалі ў сябе элементы, якасці, якія выводзяць іх з рамак рацыянальных актаў. «Усякі магічны абрад звязаны з больш ці менш усвядомленым, хаця ў многіх выпадках толькі мяркуемым, уяўленнем аб нейкай магічнай, г. зн. звышнатуральнай, сіле» [37]. Якраз гэта вера і выводзіць пэўныя дзеянні з разраду будзённых гаспадарчых спраў і на іх аснове стварае абрады, якія ў вачах першабытнага чалавека набываюць здольнасць выконваць яго пажаданні, спрыяць у яго надзённых жыццёва важных справах. Гэта вера садзейнічала і таму, што пэўным прадметам, дзеянням, прыродным з'явам, словам або слоўным спалучэнням надаецца выключнае значэнне, яны ўзнімаюцца над паўсядзённасцю, набываюць самагодную сілу.

Менавіта вера ў сілу сонца як падаўца жыццёвай энергіі, як крыніцы цяпла, якое з кожнай вясной абуджае ў прыродзе ўсё існае (што, безумоўна, прыкмечана людзьмі здаўна), наводзіла на думку пра яго ўсёмагутнасць, здольнасць перамагчы ворагаў, у тым ліку розных духаў, засцерагчы статак і нават супрацьстаяць стыхіям, бедствам. Адсюль такое месца сонца і ў замовах, і ў заклінальных абрадавых песнях, і ў казках (прыгадаем казачны сюжэт СУС 460В «Падарожжа да сонца»).

---

[37] Токарев С. А. Сущность и происхождение магии: Исследования и материалы по вопросам первобытных религиозных верований // Тр. Ин-та этнографии им. Н. Н. Миклухо-Маклая. Новая серия. М., 1959. Т. 2. С. 21.

Звароты ў замовах да сонца, наогул да нябесных цел, стыхій, на якія ўскладаецца роля памочнікаў у зямных справах, абумоўлены не толькі верай у іх сілу, не толькі своеасаблівым абагаўленнем іх, а і ўласцівай старадаўняму чалавеку сістэмай мыслення, калі чалавек і прырода, звышнатуральныя сілы ўсведамляліся як элементы адзінага касмічнага цэлага і таму маглі ўзаемадзейнічаць як складовыя часткі гэтага цэлага. Менавіта ўсведамленне сілы і значэння сонца як кампанента адзінай касмічнай сістэмы абумовіла шырокае выкарыстанне гэтага вобраза ў замовах featured рознага характару. Так, пры лячэнні начніц (хваробы дзяцей, якую нібыта выклікаюць маленькія і злыя духі ночы) сонца ў замове супрацьпастаўляецца цёмнай ночы як святланосны жыццёвы пачатак, а словы падмацоўваюцца дзеяннем перад яго заменнікам, сімвалам: дзіця «палаюць» (у прыполе спадніцы злёгку падкідваюць перад полымем), шэпчучы:

Цёмная ночка
Начніц парадзіла,
Маламу дзіцяці
Мукі нарабіла,
Яснае соўнійка
Дзень начынаіць,
Начніц праганяіць,
Дзяніц насылаіць,
Боль сунімаіць.
Шух у печ! Шух у печ! [38]

У рускай замове надзвычай рэдкага прызначэння «На царския очи» ў ролі ахоўнай сілы таксама выступаюць нябесныя свяцілы: «Господи, благослови! Как утренняя заря размыкается, Божий свет разсветается, звери из пещеры, из берлог выбира-

[38] Шейн П. В. Материалы... СПб., 1902. Т. 3. С. 324.

ются, птицы с гнезд слетаются,— так бы раб Божий (имя) ото сна пробуждался, утренней зарей умывался, вечерней зарей утирался, красным солнцем одевался, светлым месяцем подпоясался, частыми звездами подтыкался...» [39]

Нават у творах позняга часу, якія выкліканы да жыцця сацыяльнымі адносінамі, шырока ўжываюцца гэтыя вобразы. Вось, напрыклад, замова «На подход ко властям или умилостивление судей»: «...облаками облачуся, небесами покроваюся, на главу кладу красное солнце, оболоку на себя светлый младый месяц, подпояшусь светлыми зорями, облачуся частыми звездами, что вострыми стрелами,— от всякого злого недруга моего!..» [40] Побач з такім сімвалічным адлюстраваннем сонца, зорак, месяца ў замовах ёсць рэальныя, канкрэтныя звароты да іх з просьбай выканаць сваю прамую функцыю: «Гой еси ты, заря утренняя, и ты, заря вечерняя, пади ты на мою рожь и проч., дабы она росла, как леса, высоко, как дуб, толста... Гой еси, солнце жаркое, не пали и не пожигай ты овощь и хлеб мой (имя), а жги и пали куколь и полынь-траву...» [41]

У замовах, якія Раманавым аднесены да разраду ахоўных ад нячыстай сілы, нябесныя свяцілы выступаюць як засцерагальнікі: «Асвешчаецца раб божы жаркім сонцам, агграждаецца ясным месяцам, асыпаецца частымі звяздамі» (Рам., 139, 10); «Будзем ад етыя балезні зорычкамі аграждацца, месічкам асвешчацца» (Рам., 142, 17). Яны, гэтыя прыродныя з'явы, уяўляюць вялікую сілу, якая і выкарыстоўваецца для заклінання. Гадам, змяі-

[39] Майков Л. Н. Великорусские заклинания // Зап. Рус. географ. о-ва по Отд-нию этнографии. СПб., 1869. Т. 2. С. 562.
[40] Там жа. С. 562—563.
[41] Там жа. С. 527. Замова «Чтобы растения хорошо росли».

багатырцы пагражаюць карамі, калі яны не выканаюць патрабаванне чалавека ўняць сваю «ярасць», выняць яд: «Гадзя, гадзя, унімі свой ядзя, а ня ўнімеш сваго яда, то буду гада заклінаці жаркім сонцам, дробнымі звездамі і сілнымі дажджамі, і ўсім мірам праваслаўным, Міхаілам архістрацылам чудным. Упрашаю ранняю і вячэрняю і палунешную зару ва векі вякоў амін» (Рам., 118, 330); «Змяя-багатырка, вынімай сваю ярасць... А ня будзеш вынімаць, буду цябе праклінаць божымі звездамі, божымі болокамі, божым громам, яркім сонцам» (Рам., 186, 110). З уплывам хрысціянства ў адзін рад ставяцца сілы прыроды і хрысціянскія святыя: «Просім цябе, сонца краснае, месячка ясны, святых вясёлых звёзд, і святога Івана Ксціцеля, каторы ксціў Ісуса Хрыста, і зямлю і ваду, і ўсіх нас грэшных,— просім вас і кланяемся вам... дайця ж рады й помачы...» (Рам., 116, 321).

Узыходзячы да язычніцкай даўніны з яе верай у магчымасць уплываць словам і абрадам на сілы прыроды, стыхіі, замовы ўспрымалі па часе новыя ўяўленні. У іх дзіўна перапляталіся вобразы, паняцці розных эпох, хаця сутнасць іх і прызначанасць заставаліся нязменнымі. Як слушна сцвярджаў А. Мілер, «старое з вуснай славеснасці цалкам ніколі не знікае, хаця гэта не перашкаджае мала-памалу ўваходзіць у яе новаму. Пры такой... жывучасці даўніны ў народнай славеснасці ў ёй да гэтага часу ўцалелі рэшткі нават самай архаічнай пары — міфічнай» [42]. У гэтым сэнсе асабліва цікавымі з'яўляюцца творы, дзе ў якасці пакаральнай сілы заклікаюцца пярун, маланка, хмары. Най-

---

[42] Миллер О. Ф. Опыт исторического обозрения руской словесности... С. 22.

больш часта яны ўжываюцца ў замовах супраць варожых чалавеку сіл, невядомых, якія ўяўляліся як нячыстая сіла, а таксама ў вялікім цыкле замовах заклінанняў ад розных гадаў. У іншых творах, напрыклад ад хвароб, яны — эпізадычная з'ява. Якраз замовы, асабліва беларускія, даюць дадатковыя матэрыялы для характарыстыкі агульнаславянскага культу Перуна, які ўзыходзіць да індаеўрапейскай традыцыі.

Па самой сваёй прыродзе, унутранай сутнасці і функцыянальнай прызначанасці замовы, галоўная мэта якіх — абясшкодзіць злыя сілы, нагаварыць, забяспечыць чалавеку поспех, дабрабыт і здароўе, так ці інакш выяўляюць сілы зла, вызначаюць тыя варожыя аб'екты, з якімі яны павінны змагацца. Па ўяўленнях першабытнага чалавека, носьбітамі варожасці, носьбітамі шкаданоснай сілы можа быць усё, з чым ён сутыкаецца ў жыцці. Адны і тыя ж прадметы, прыродныя з'явы, расліны, звяры, істоты могуць выступаць то як падаўцы жыццёвых даброт, г. зн. як светлыя, дружалюбныя чалавеку сілы, то як яго супраціўнікі ў паўсядзённай барацьбе за існаванне. Гэта тычыцца і старадаўніх боствтваў, з якімі ў чалавека былі «саюзна-дагаворныя адносіны» (паводле вызначэння Д. К. Зяленіна), калі выкананне чалавекам пэўных правіл, прынятых ім устанаўленняў мела на ўвазе адпаведныя добрасуседскія адносіны з іх боку. Ці не адсюль дуалізм, так характэрны вераванням, павер'ям старажытнасці, тая двоістасць, якой прасякнуты некаторыя абрады, паэзія і асабліва замовы? Найбольш выразна яна, гэта двоістасць, праявілася ў стаўленні да тых, на каго ўскладзена функцыя выканаўцы магічнага замоўнага рытуалу. Знахар, шаптуха выклікалі пачцівыя адносіны да сябе і ў той жа час усялялі страх, бо, быццам бы надзеле-

ныя звышнатуральнай сілай, яны маглі, калі іх раззлаваць, сваё ўменне скіраваць на зло.

Шматлікія назіранні, сустрэчы Е. Р. Раманава з ведунамі, заклінальнікамі, носьбітамі замоў дазволілі збіральніку вылучыць два асноўныя тыпы ведзьмакоў. Гэта «ведзьмакі навучоныя», іх мноства, яны валодаюць абмежаванай колькасцю шэптаў і вядомы ў асноўным у сваёй вёсцы. Параўнальна няшмат страшных ведзьмакоў — «прыродных». Свае незвычайныя здольнасці яны атрымалі дзякуючы нячыстай сіле, у большасці яшчэ ў чэраве маці, і могуць шкодзіць нават пасіўна. Да іх асабліва пачцівыя адносіны, асаблівая пашана. «Я параўнаў бы яе з той пашанай і паслушэнствам, якія аказвала цёмная язычніцкая маса сваім жрацам, калі б існаванне апошніх у нас было даказана» [43]. У той жа час не выключалася, што кожны чалавек мог стаць прычынай пэўных непрыемнасцей, скажам, наслання, нарадкі, уроку. Успомнім шматлікія пералічэнні ў замовах, ад каго трэба засцерагацца (чорнага воласу, русага, урокаў жаноцкіх, мужчынскіх, дзіцячых, цыганскіх і г. д.).

У залежнасці ад статуса чараўніка адрозніваецца магія «белая» і «чорная». І хаця нашы зборы заключаюць у асноўным творы, якія ўваходзілі ў рытуал «белай» магіі (што зусім натуральна па многіх прычынах, перш за ўсё таму, што «чарнамагія» захоўвалася строга ў таямніцы), але вера ў існаванне людзей, надзеленых звышнатуральнымі здольнасцямі, якія выкарыстоўваліся як інструмент зла, была надзвычай моцнай і трывала захавалася ў самых разнастайных творах, у тым ліку ў абрадавай паэзіі і замовах. Такімі носьбітамі цёмных злых сіл лічыліся ведзьмы і чараўнікі. Л. Н. Май-

[43] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 5. С. VIII.

каў прыводзіць замову, што шапталася на віно або ежу, якую падавалі маладым на вяселлі з мэтай пасварыць іх. Гэта прыклад «чорнай» магіі. Тут апеляцыя да сатаны, парушэнне хрысціянскіх правіл, заклінальнік сябе называе рабом д'ябла:

«Стану я, раб дьявольский (имя), не благословясь, пойду не перекрестясь из дверей в двери, из ворот в ворота новобрачных, и выйду я во чисто поле, во дьявольско болото. Во чистом поле стоят ельнички, а на ельнички сидит сорок-сороков — сатанинская сила. А во дьявольском болоте Латырь бел камень, а на Латыре бел камени сидит сам сатана. И пойду я, раб, к Латырь бел каменю, и поклонюсь я, раб (имя), самой сатане и попрошу его: «Ой же ты, могуч сатана, как ты умел свести (имена мужа и жены), так умей и развести, чтобы друг друга не любили, друг друга колотили и порой ножем поразили. Ведь я твой раб, я твой слуга, и по сей день, и по сей час, и по мой приговор — во веки веков» [44].

Балота — пагібельнае месца, прыстанак чарцей, хвароб, нягод і рознага ліха — згадваецца ў замове невыпадкова. З ім звязаны і магічныя дзеянні, якія ў некаторых месцах папярэднічалі «чорнаму» заклінанню. Функцыянальная тоеснасць слова і дзеяння дапаўнялася наборам рэчаў, выбарам уладальнікаў пэўных прадметаў, спосабам дзеяння, якія нясуць у сабе дадатковую інфармацыю, абумоўлены павер'ямі, прыкметамі, забабонамі. Так, гнілушкі — кавалачкі сухога дрэва нясуць адзнакі заняпаду, а валасы, кавалачкі тканіны ад адзежы набываюць разбуральную сілу дзякуючы таму, што ўзяты ў адметных людзей або людзей нешчаслівага лёсу ці амаральных паводзін (удаў-

---

[44] Майков Л. Н. Великорусские заклинания. С. 445.

цы, удовы, бяздзетныя жанчыны, распусніцы). Прынесеныя да балота і пакінутыя на ноч з прыгаворам: «Шэлкі мурыны, дванаццаць прысух, дванаццаць нядуг! Вам паклон, вам пашанічны пірог!» — гэтыя рэчы потым кідаюць маладым у ногі з заклінаннем:

Поп салучыў, а я разлучыў,
Поп з Хрыстом, а я з хвастом,
Поп уходзіць, а нам тут жыць.
Как сухой рабіны лісцьеў не пускаць,
Так табе дзяцей не ражаць;
Как зімой лету не быць,
Так вам умесце не жыць. [45]

Небяспека порчы магла ісці ад любога, таму ў замове на вяселлі неабходна было адгаварыцца ад кожнага мяркуемага злога чалавека: «Іван вялікі воін! Не баішся ты ні ліхадзея, ні супастата, памагі рабу Васіллю і рабе Матрэне, штобы ёны павінцаліcь ні на муку, ні на гора, ні ў ліхой час, а ў добры час, на радасць, на вяселле, і штобы не баялісь яны ні калдуноў, ні калдуніц, ні ерэцікаў, ні ерэціць, і сажгі калдуноў, сажгі калдуніц, каменнай стралой, вогнем нябесным, штобы ані не брасаліcь, ні кідаліcь, на свадзебку ні зіраліcь» [46].

Ведзьмам і чараўнікам прыпісвалася вялікая сіла. Яны маглі напусціць насланнё на чалавека і на жывёлу, яны былі прычынай эпідэмій, мору, неўраджаю. Па іх віне адбываліся невялікія нягоды і вялікія няшчасці. Асабліва небяспечныя ведзьмы і чараўнікі былі ў важныя для чалавека моманты, напрыклад у каляндарныя святы (Новы год, першы выган жывёлы, купалле і г. д.), калі яны маглі ўздзейнічаць на лёс ураджаю, на плён у працы, дабрабыт людзей. Імкненнем абясшкодзіць іх

[45] Шейн П. В. Материалы... Т. 2. С. 557. № 69.
[46] Там жа. С. 557—558. № 70.

прасякнуты ў першую чаргу замовы і абрадавыя песні. Вось, напрыклад, замова ад нячыстай сілы, нарадкі і г. д.: «Зара зару занімаець, свету-сонца бажаець, прэсвятая Бугуродзіца ангалаў ажыдаець. Ангалі мае храніцелі, збаўця раба божага ад нячыстыя сілы, ад трыдзевяць калдуноў, ад трыдзевяць ведуноў і вядунняў, ад калдуна і ад калдунíхі, ад уражэскія сілы, ад нячыстага духа, ад ведзьмы-чарадзейніцы. Агарадзі яго, Госпадзі, каменнаю сцяною і накрый яго, Госпадзі, гарачую ска'радою, падмасьці яму, Госпадзі, зялезную даскою. Тады яго ведзьма-чарадзейніца імець, як каменную сцяну ілбом праб'ець, гарачую ска'раду языком пралiжэць, зялезную даску нагою праломіць. На гарэ Васіяньскай стаіць цар-цэркаў, у тэй цэркві прэстолы стаяць, ютрэні ўспеваюць, службы саваршаюць, праскамідыі вынімаюць, харуім васпяваюць. Свято-Міхайла на прэстолі стаіць, відзіць ён нас праведнікуў і ябеднікуў і наганіцелеў, і ведзьмаўчарадзейніцуў; і разбіваець вялікую грамою, пякучую маланнёю, каля́ную скалою, багатырськім канём, булатным нажом. Асвяці, Госпадзі, сію ваду на ўсякім часі, на ўсякай гадзіні!» (Рам., 140, 11).

Як бачым, тут для ўсіх прадстаўнікоў варожых злых сіл, а іх, паводле замовы, вялікае мноства — кожнага віду па трыдзевяць (зазначым, любімы казачны лік), прыгатаваны (зноў-такі як у казках) цяжкія невыканальныя заданні — каменную сцяну прабіць ілбом, пралізаць гарачую скавараду языком, праламаць нагою жалезную дошку. Галоўнае ж пакаранне здзейсніць святы Міхаіл пры дапамозе грому, маланкі, каляной стралы, багатырскага каня і булатнага нажа. Прысутнасць святога Міхаіла і яго функцыя некалькі праясняюцца ў сувязі з іншым творам, дзе ён дзейнічае разам з Юр'ем і святым Міколам: «Святы Юры-Ягоры і Мікола —

скоры памочнік, і Міхайла — нябесны ваявода, саскачы з вышняга неба, сталяным мечам закалі ведзьму, роджаную і навучоную; каторая ззадзі даганяець, тую закалі, і каторая наперад забягаець, тую закалі, і каторая збоку заглідаець, тую закалі,— рабу божаму пазволь жыць на белам свеці і ў карысьці, у радасьці, у добрам здароўі» (Рам., 138, 4). Магутныя сілы заклікаюцца ў імя вялікай ідэі — дзеля самога жыцця. Паказальна пералічэнне саміх ведзьмаў. Цікава параўнаць яго з купальскай песняй:

Зарождалися три ведьмы,
На Петра да на Ивана:
Первая ведьма
Закон разлучает,
Другая ведьма
Коров закликает,
Третья ведьма
Залом ломает.
Первой ведьме,
Что закон разлучает,
Ее по уши в землю,
Ей прощенья нет!
Другой ведьме,
Что коров закликает,
Ту по плечи в землю,
Ей прощенья нет!
Третью ведьму,
Что залом ломает,
Ту по пояс в землю,
Ей прощенья нет!
Вы катитесь, ведьмы,
За мхи, за болоты,
За гнилые колоды,
Где люди не бают,
Собаки не лают,
Куры не поют —
Вот там и место! [47]

---

[47] Поэзия крестьянских праздников / Сост. И. И. Земцовский. Л., 1970. № 643.

4. Зак. 1433

Існуюць спецыяльныя замовы супраць чараўнікоў, ведзьмаў, нячыстай сілы, заклінанні супраць іх арганічна ўплятаюцца і ў замовы, якія можна ўмоўна абазначыць як гаспадарчыя або ахоўныя (напрыклад, як прападзе ў каровы малако, ад уроку, прыстрэку і інш.). Вылучаецца група замоў ад залому, здольнасць рабіць які прыпісваецца таксама чараўнікам і ведзьмам.

Як наогул уласціва замовам, звычайна абавязкова пералічаюцца ўсе прадстаўнікі шкоднай сілы: «...спасі раба гетага ад гадаў і ад ядаў, і ад чурадзейніка, ад напасьніка, ад пабідніка і ад усякага злосьніка» (Рам., 7, 19); «Не бойся, мая скаціна, бурая шарсціна, ні ведзьмаў, ні чараўніц, ні чараўнікоў, ні паганых дум, ні паганых глаз, не забывай на сваё малачко па ўсякі раз...» (8-79-165, Барташэвіч); «Замыкаю маю рабую кароўку ад чарадзея і ад чарадзейніцы, ад ведзьмака і ад вядзьмачкі, ад калдуна і ад калдунні, ад злых людзей, ад плахіх вачэй» (8-73-75, Альхімовіч); «Чур-чурамы, Гасподзь з вамы. Не бойся ні чараўнікоў, ні чараўніц, ні ўрошнікаў» (8-73-69, Барташэвіч); «Ад ліхадзея, ад чарадзея адпраўляю на трыдзевяць зямель» (13-3-30, Русіновіч); «...ад малашніка, ад малашніцы ўкрывалі, ад пагібшага вока, ад няшчаснага языку» (Рам., 144, 24); «Ідзець святая Ярдань, нікога не ўлякаецца — ні чараўніц, ні чараўнікоў, ні каралёў, ні князёў» (Рам., 12, 29). Часам у замовах чараўнікі супастаўляюцца з нячыстай сілай, з бесавым духам: «Ізганяю раб божы з етыя скаціны, красныя шарсціны, ведзьміно, чарадзейнае, бясоўськае навядзеніе» (Рам., 12, 32); «...чарадзея, злога духа, як абухам адбіваю» (13-2-13, Емяльянаў).

Такая дэталізацыя — чараўнік — чараўніца, вядзьмак — вядзьмачка і г. д.— выклікана імкнен-

нем не прапусціць ні аднаго прадстаўніка шкаданоснай сілы, бо, не загавораны, ён можа звесці на нішто ўсе меры перасцярогі. Таму ў замовах упамінаюцца злоснікі, якія яшчэ не авалодалі цалкам здольнасцю прыносіць шкоду, але і яны павінны быць прадугледжаны як патэнцыяльныя ворагі. У гэтым сэнсе асабліва выразная руская замова: «Сохрани мене, Господи, от ведунов и полуведунов, от тридевять колдунов и полколдунов, от учеников и полуучеников, от ненавистников, от еретиков, полуеретиков, от метниц и полуметниц, от еретиц и полуеретиц» [48]. Побач з імі могуць быць духоўныя асобы, а таксама прадстаўнікі такіх прафесій, якія па традыцыі лічыліся звязанымі з нячыстым духам, напрыклад леснікі, кавалі, мельнікі, пчаляры і інш. Чараўніцтва апошніх А. Багдановіч называе прафесійным і тлумачыць яго тым, што такія людзі пастаянна і блізка сутыкаюцца з пэўнай стыхіяй. «Мяркуецца, што кожны з іх добра спазнаў уласцівасць той «нячыстай сілы», з якой яму даводзіцца мець справу па сваёй прафесіі, таму што, па павер'ях сялян, і ў кузні, і на мельніцы, і ў лесе, і ў хляве, і на бровары — усюды жыве свой асаблівы «нячысцік»... Кожны... павінен ведаць сваю спецыяльнасць добра, павінен умець карыстацца сілай свайго «нячысціка» [49]. Менавіта такія ўяўленні пастаянна падтрымлівалі веру ў здольнасць мельніка з ветрака памагчы пры цяжкай хваробе «падвею» (паралюшы), а з вадзяной — шаптаць на ваду і г. д.

Падрабязна пералічаліся не толькі аб'екты за-

---

[48] Майков Л. Н. Великорусские заклинания. С. 505.

[49] Шейн П. В. Материалы... Т. 3. С. 247—248. З рукапіснага даследавання А. Я. Багдановіча.

клінання, а ўсе тыя месцы, адкуль нячыстая сіла выганялася. Сэнс такога прыёму — не пакінуць ніводнай мясціны, дзе б мог захавацца варожы чалавеку дух, як у замовах ад розных хвароб гэтаксама падрабязна называюцца ўсе магчымыя віды хваробы і ўсе часткі цела, адкуль яны выганяюцца. Першабытнае ўяўленне, што розныя хваробы, стан чалавека, яго смерць выклікаліся рознымі духамі, якія ўсяляліся ў чалавека, вымагала і адпаведныя спосабы выгнання. Іх, гэтыя духі, трэба было выгнаць, што і рабілася пры дапамозе слоў і розных магічных дзеянняў. У замовах прама гаварылася пра такое выгнанне, пра заклінанне злой сілы: «Ізганяю я з раба божага (такога-та) бясоў, дзьявалоў, нячыстых духоў і самазлейшых духоў, ізганяю з такога-та раба, з (такога-та) воласа (у залежнасці ад колеру валасоў пацыента.— *Г. Б.*), із ярых воч, із сэрца, з зубоў, з целясоў, з рота, з носа, з віскоў, із мазкоў, із шыі яго, з плеч, з хрэбётныя касьці, з рябёр і з сярэдзіны, із рук, із ног, із сустаў, з нутры яго, з утробы, із жыл, із пажыл, із крыві, з целеса, із дыханія, із узгляда... Заклінаю я вас, бясы-дзьявалы, нячыстая сіла, ветряных і віхорных, і вадзяных, і жывотных, і насякомых» (Рам., 8, 21).

Замоўны метад пералічэння лічыцца адлюстраваннем адной з самых яркіх рысаў старадаўняй, прымітыўнай, як яе называлі, псіхалогіі. М. Пазнанскі супастаўляе такія замоўныя формулы з песнямі «дзікіх» народаў, напрыклад аўстралійскай воінскай («Коли его в лоб, коли его в грудь, коли его в печень, коли его в сердце, в бока» і г. д.), і ўзводзіць іх узнікненне ў тыя часы, калі чалавек не здольны яшчэ быў абагульняць навакольныя з'явы. Паступова на працягу доўгага гістарычнага працэсу ён прыходзіць да такога ўмення і пачынае

ўсведамляць сябе як недзялімую адзінкавую асобу [50].

Метад падрабязных замоўных пералічэнняў прыцягваюць сучасныя даследчыкі міфалогіі ў якасці аднаго з аргументаў, які пацвярджае сувязь замоў з міфамі. Сутнасць гэтых довадаў наступная. І ў замовах, і ў архаічных міфах агульная схема «дзеянне — змена (новы стан) — дзеянне, якое ўлічвае дасягнуты новы стан», дапускае (предполагает) асобую звязанасць, залежнасць або нават тоеснасць паміж макракосмам і мікракосмам, прыродай і чалавекам, дзе чалавек — адзін з крайніх іпастасных элементаў касмалагічнай схемы. Існуе, паводле іх тэорыі, вялікі клас міфапаэтычных тэкстаў з самых розных традыцый, у аснове якіх атаясамліванне касмічнага (прыроднага) і чалавечага: плоць — зямля, кроў — вада, валасы — расліны, косці, зубы — камяні, зрок (вочы) — сонца, дыханне (душа) — вецер і г. д. Такое атаясамліванне найбольш характэрна для замоў, яно ж і ў некаторых класаў міфаў. Існуюць асобыя міфы, якія сюжэтна матывуюць усю гэту сістэму атаясамлівання гісторыяй стварэння сусвету і асобных яго частак з цела касмічнага велікана. Гэтыя тэксты, безумоўна, звязаны з ахвярапрынашэннем (канкрэтна — з расчляненнем ахвяры на часткі, атаясамліваннем іх з элементамі космасу і, нарэшце, іх інтэграцыяй), апісваюць асноўную структуру свету ў розных яго аспектах (прадметным, прасторавым і г. д.), паказваючы адначасна і іерархію асобных элементаў. Тое, што ў міфах даецца разрознена, у адпаведнасці з паваротамі сюжэтаў, у замовах часта падаецца

---

[50] Познанский Н. Заговоры. С. 84. Даволі дасціпная заўвага завяршае гэту думку: «И здесь еще обобщение не завершилось. Человек до сих пор делит себя на две части» (г. зн. цела і душу).

ў выглядзе спіскаў (пералічэнні частак цела, хвароб, шкаданосных аб'ектаў, лекавых раслін, элементаў прасторы, міфалагічных персанажаў — апекуноў, лекараў або шкоднікаў, якія насылаюць хваробы, і г. д.) [51].

У любым выпадку традыцыя падрабязных пералічэнняў характарызуе пэўны этап у светапоглЯднай сістэме, і гэта традыцыя дала штуршок развіццю мастацкага прыёму дэталізацыі аб'екта дзеяння і самога дзеяння, вядомага таксама абрадавай паэзіі, казкам.

Ці не адсюль устойлівыя формулы абрадавых веснавых песень з падрабязным пералічэннем розных відаў сельскагаспадарчых культур або з малюнкамі багатага ўраджаю:

Мы заўём вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грачыху чорную,
На капусту белую. [52]

Радзі, божа, жыта,
Жыта і пшаніцу,
Жыта і пшаніцу,
Усякую пашніцу.
Усякую пашніцу
На полі капамі.
На полі капамі,
У гумне стагамі.
У гумне стагамі,
На таку ўмалотна і г. д. [53]

---

[51] Гл.: Топоров В. Н. Заговоры и мифы // Мифы народов мира. Т. 1. С. 450—451.

[52] Веснавыя песні / Склад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей. Склад муз. часткі В. І. Ялатаў. Мн., 1979. С. 185. № 218.

[53] Там жа. С. 99. № 44.

Часта замовы з упамінаннем чараўнікоў і іншай варожай сілы выконваліся пры нагодзе, калі трэба было «адгаварыць» залом або вылечыць карову, у якой прапала малако. Але вядомы і замовы, якія выконваліся ў прафілактычных мэтах. Так, у Магілёўскім павеце на купалле адбываўся наступны рытуал. Замову прамаўлялі тройчы ў хляве над каровай, абсейвалі яе макам і вешалі грамнічную свечку. Гэтыя сакральныя дзеянні знайшлі адлюстраванне ў самім тэксце, што яшчэ раз пацвярджае цесную сувязь замоў з абрадамі. Пасля малітоўнага ўступу («І памолімся, і пакланімся Госпаду Богу і Духу Святому» і г. д.) ідзе апавядальная частка, дзе расказваецца, што мацер божая ў касцёле за прыстолам «седзючы кнігі чытала і маім кароўкам малокі збірала, сыры белыя, тварагі чыстыя і масла жоўтае». А далей пагроза ведзьме: «А ты, ведзьма, ляці ў лес, грызі карэння! А ты, ведзьма, ляці ў поля, грызі камення! А ты, ведзьма, грызі сваё рабро, а не бяры мае кароўкі малако. Як жа табе, ведзьмі, сваё рабро ня грызьці, так жа табе і малака мае кароўкі ня есь! (Абсыпаў карову макам-самасеем). Як жа табе, ведзьмі, гэтага маку не падабраць, так жа табе, ведзьмі, і малака ад мае каровы ня ’тбіраць» (Рам., 13, 33).

Тут надзея больш за ўсё на ўласную сілу заклінальніка. Ва ўступнай частцы зварот да святых носіць агульны характар: гэта просьба да іх «скоранька» памагаць, замкнуць «малошніцы губы і зубы». Найбольш пашыраны матыў пагрозы з дапамогай магутных сіл. Што ж гэта за сілы? Яны дваякага роду. Перш за ўсё сіла таго, хто замаўляе, сіла яго слова і дзеяння і сіла пасрэдніка. У якасці пасрэдніка могуць выступаць прыродныя з’явы (мы ўжо бачылі, якая роля адводзілася сон-

цу, месяцу, зоркам), у тым ліку пярун і маланка, а таксама святыя.

Звернемся да твораў, што адлюстроўваюць веру ва ўласныя магчымасці таго, хто замаўляе, адолець варожыя сілы ці з дапамогай пэўных дзеянняў, многія з якіх з'яўляюцца рытуальнымі, ці з дапамогай магічнага слова. Вось некалькі прыкладаў: «Ваду праз абух праліваю, чарадзея, злога духа, як абухам адбіваю, ад белага ліца, ад русага воласа...» (13-2-13, Емяльянаў); «К кароўцы саджуся, нікога не баюся — ні змея-чарадзейніка, ні змяі-чарадзейніцы. Я ім каменем зубы павыб'ю, а пяском вочы засыплю, штоб чарадзейнік і чарадзейніца к маёй скацінцы не падышлі, у маёй скацінкі малака не ўзялі: ні ў полі, ні ў доміі, ні на дарозі, ні на раду, ні на хаду» (8-78-144, Барташэвіч. Замова «Як першы раз скаціну выганяюць на Юр'я»).

Надзвычай выразная замова са збору Е. Р. Раманава, у якой шматразова падкрэсліваецца роля і ўпэўненасць знахара: «Ізганяю я з раба божага (такога-та) бясоў, дз'явалоў, нячыстых духоў і самазлейшых духоў, ізганяю з такога-та раба, з такога-та воласа... І ссылаю вас, бясы-дз'явалы, нячыстая сіла, на мхі, на балоты... Заклінаю я вас, бясы-дз'явалы, нячыстая сіла» і г. д. (Рам., 8, 21). У некаторых тэкстах гаворыцца пра сімвалічныя дзеянні, якія нібыта выконвае знахар, каб памножыць сваю сілу: «Станаўлюся я, раба божыя, і загаваруюся і замаўляюся ад чараўніка. Станаўлюся на медзяным тазу, закрываюся залатым тазам, абгараджываюся зялезным тынам, замыкаюся трыдзевяць замкамі, трыдзевяць ключамі і загаваруюся і замаўляюся ад чараўніка і ад чараўніцы...» (Рам., 140, 12).

Вельмі часта ў такіх творах падкрэсліваецца значымасць заклінальніка, яго перавага над злой

сілай. Гэтаму садзейнічае яго сцверджанне «ўрагоў не баюся» або «чарадзейніка не баюся». Такую ўпэўненасць ён не заўсёды тлумачыць (8-78-144, Барташэвіч), часам жа яна грунтуецца на прысутнасці «цудоўных памочнікаў», як у наступнай замове: «Госпаду Богу памалюся, Прачыстай пакланюся, крастом крашчуся, за святыя рызы бяруся, урагоў не баюся» (8-81-184, Кабашнікаў).

Такі арсенал магічных прадметаў і выкананне рытуальных дзеянняў лічацца дастатковымі, каб знішчыць любога ворага: «Станаўляю ведзьмамчараўніцам вочы стаўбамі, рукі граблямі, каб яны свае пальцы кусалі, проці сэрца кроў смакталі, каб маей сівай (рабай і г. д.) каровы ўладзення не малі» (Там жа). Характэрна, што ў такіх выпадках жаданае, тое, дзеля чаго замова прамаўляецца, апісваецца як ужо дасягнутае. Часта заклінальнік сілай свайго слова і дзеяння імкнецца абясшкодзіць злую сілу, павярнуўшы злое чарадзейства супраць яе самой, і тады замова завяршаецца закляццем, праклёнам: «Хто маю карову ўракне — таму кроўю вочы завалакне. Чужым вачам — соль да пячаль. Што думаеш мне — палучы сабе» (13-3-30, Русіновіч); «А ліхія душы хай пальцы смокчуць, камяні глытаюць, да сэрца кроўнага ўладзення не маюць» (8-75-94, Салавей) і інш.

Такі ж прыём закляцця ведзьмаў, чараўнікоў, заломшчыкаў шырока ўжываецца ў абрадавых песнях, у прыватнасці купальскіх. Некаторыя з іх не толькі сваім зместам, але і формульнасцю, мастацкімі прыёмамі амаль не адрозніваюцца ад замоў:

Ішла Купала сялом, сялом,
Сустрэла Йвана чалом, чалом.
— І дзе ж ты, Купала, ноч начавала?
— Начавала ночку ў ярым жыцечку.

Сцерагла жыта сялянскае
Ад таго звяр'я лятучага,
Ад таго вужа паўзучага,
Ад тае бабы-заломшчыцы,
Заламі, божа, ей рукі і ногі,
І ярыя вочы ў патыліцу! [54]

Тыя ж матывы і ў другой купальскай песні, блізкай да замовы ўсімі сваімі кампанентамі. І ў замове, і ў песні — апеляцыя да магутнага пасрэдніка (св. Юры ў замове, Ілля ў песні), праклён у адрас ведзьмы (замова) або змяі (песня), пералічэнне шкодных дзеянняў, якія можа зрабіць вораг. Прывядзём толькі невялікі ўрывак з замовы, да якой мы ўжо звярталіся (8-81-184, Кабашнікаў):

Ехаў Юрай на сваём кані,
Дзяржаў залатую меч,
Засякаў наглым ведзьмам губы і рэч,
Каб ведзьма не хадзіла,
Чорнай сцежкі не таптала...

Купальская песня:

Звала Купала Іллю на йгрышча, то-то-то:
— Хадзі, Іллішча, ка мне на йгрышча.
— Не маю часу, Купалачка,
Гэту ночку мне не спаці,
Нада жыта ўсяго пільнаваці,
Каб змяя заломаў не ламала,
У жыце карэння не капала,
У кароў малака не адбірала.
Адбяры, божа, таму ручкі-ножкі,
Выдзеры, сава, са лба вочкі,
Каб не відзіў, не чараваў,
Каб не хадзіў, а прапаў. [55]

---

[54] Песні народных свят і абрадаў / Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1974. С. 135.
[55] Шейн П. В. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 224. № 229.

Формулы-праклёны з матывамі пераўвасаблення маглі ўваходзіць у творы розных жанраў, перш за ўсё ў замовы і абрадавыя песні ахоўнага, засцерагальнага характару. У цыкле замоў ад ваўкоў або папераджальных ад шкоды пры першым выгане жывёлы на пашу распаўсюджаны матыў захавання яе праз ператварэнне ў расліну, камень, купіну, якія не вылучаюцца з навакольнай прыроды (у полі — кустом, гарою; у лесе — пнём, купінаю; у лузе — курганом і да т. п.). З аднаго боку, гэта сведчыць пра набыты праз доўгія гады вопыт уласнага прыстасавання да мясцовасці, прыёмы маскіроўкі, якія выпрацоўваліся на розных этапах развіцця вытворчай дзейнасці (палявання, жывёлагадоўлі).

У той жа час нельга не ўлічваць цэлы пласт уяўленняў, звязаных з верай у магчымасць пераварочвацца ў іншую істоту або прадмет па свайму жаданню ці па сказанаму слову, што знайшло адлюстраванне ў многіх жанрах (песнях, паданнях, казках і г. д.). Такая вера вырасла ў пэўнай ступені на рэальнай глебе, на назіраннях за жыццём прыроды: ростам раслін, з'яўленнем жывых істот з лічынак і яечак, іх мімікрыяй. Адсюль натуральна выцякае матыў метамарфозы, уласцівы старадаўнім творам розных жанраў. Менавіта замовы дазваляюць прасачыць шляхі ўзнікнення і развіцця гэтага мастацкага прыёму, які дасягнуў сваёй дасканаласці ў песнях, казках.

У абрадавых песнях матыў ператварэння набывае новае адценне, што абумоўлена іншымі светапоглядными ўстаноўкамі. Звычаёва-абшчынныя інтарэсы рэгламентуюць абрадавае жыццё і ў той ці іншай ступені ўплываюць на розныя яго кампаненты, у тым ліку вярбальныя. Абавязковасць выканання пэўных рытуальных правіл ставіць пару-

шальнікаў іх у становішча калі не ворагаў абшчыны, то ва ўсякім разе саўдзельнікаў тых шкодных сіл, што пастаянна паграseverity чалавеку. Не жорсткасць, не бяздушнасць выклікалі да жыцця суровыя меры абароны і забеспячэння нармальнага жыцця абшчыны. А меры гэтыя маглі быць розныя — ад абрадавых ахвяр, фізічнага знішчэння да пакарання словам, прычым словам магічным, у сістэме абраду, што надавала яму асаблівую значымасць. Ва ўсіх цыклах каляндарнай абрадавай паэзіі абавязкова прысутнічае матыў пагрозы папакараннем за невыкананне прадпісаных рытуалам патрабаванняў. У купальскіх песнях кара наклікаецца на тых, хто не выйшаў з усімі на абрадавы рытуал:

А сягоння ў нас купалле,
А хто на вулку не выходзіць,
Абярні, божа, калодаю,
Калодаю дубоваю,
А жоначку — бараною,
Бараною лазоваю,
А дзетачак — цельпучкамі,
Цельпучкамі альховымі. [56]

Блізкі матыў і ў траецкіх песнях:

Кто не йдёт
Венков завивать,
Положь того
Колодою дубовою,
Детей его
Куржичкою сосновою!
Кто венков не вьет,
Того матка умрёт!
А кто вить будет,
Того жить будет! [57]

---

[56] Песні народных свят і абрадаў. С. 137.
[57] Поэзия крестьянских праздников. С. 360. № 495.

Калектыўны характар абрадаў вымагаў удзелу ўсіх у іх выкананні, парушэнне агульнага правіла было непажаданым па розных прычынах. Непрытрымліванне прынцыпу ўсеагульнасці перашкаджала дасягненню мэты, ставіла пад удар поспех мерапрыемства, дзеля якога абрад выконваўся. Да таго ж чалавек, які не выйшаў з усімі, заставаўся па-за ўвагай калектыву і мог рабіць зло не толькі сам па сабе, па прычыне шкоднасці свайго характару, але і пераўвасобіўшыся ў шкодную істоту — ведзьму, змяю, чараўніка. Адсюль у песнях матыў пагрозы, пакарання. Гэтаксама і ў прыгаворах да валачобных і калядных песень гучаць пагрозы ў адрас скупых гаспадароў, якія, не адарыўшы выканаўцаў абрадавага рытуалу і песень, тым самым парушаюць залежнасць паміж абрадам і яго вынікам, могуць адмоўна ўздзейнічаць на гэты вынік:

Калі дарыш — будзь здароў,
Калі не дарыш — палупі кароў,
Пажыві болі, палупіш коні.[58]

Дары ж валачобнікам, галоўным выканаўцам абраду, успрымаюцца як плата за прыход у сакральны час з магічным нагаворам плёну, долі:

Слаўны пане,
Аддарыся,
Адплаціся.
Жыві сабе,
Весяліся.
Год ад году,
Век ад веку.[59]

---

[58] Валачобныя песні / Склад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей. Склад муз. часткі В. І. Ялатаў. Мн., 1980. С. 173.
[59] Там жа. С. 132.

Магічнае ўсведамленне з яго верай у магутную сілу слова і абраду параджала аднародныя з'явы ў розных сферах рытуальнай дзейнасці, так неабходнай старадаўняму чалавеку для падтрымання яго ўпэўненасці ў штодзённай барацьбе за існаванне, упэўненасці перад магутнымі сіламі прыроды, ад якой ён атрымліваў і даброты, і шматлікія цяжкасці, і нягоды.

Вялікую групу замоў складаюць творы, у якіх заклінальнік звяртаецца да пасрэдніка. Апошні выступае то як раўнапраўны саюзнік заклінальніка, то як пакаральная сіла ў яго руках, якой ён пагражае ворагу. Прыклад замовы першага тыпу наступны: «Госпаду Богу памалюся, маці Прачыстай пакланюся. Не сам сабою, Гасподзь са мною. Прачыста мамачка, стань нам на помач. Станаўлю раба божага на сярэбраным кругу, на залатом масту (абвесці шнурком або ніткай круг). Маць тая шаўковыя шнуры чапаець, шаўковымі шнурамі абводзіць, наперадзі жаркае сонца становіць, залатым храстом пабіваець, нячыстую сілу адбіваець» (Рам., 139, 7). Надзвычай часта ў ролі такога саюзніка выступаюць таксама стыхіі — сонца, вада, вецер, зоркі.

Асобна варта спыніцца на групе замоў, дзе ў якасці пасрэдніка выступаюць персанажы так званай ніжэйшай дэманалогіі — дамавы, хлеўнік, лесавік і г. д. Яны могуць самі быць прычынай рознай шкоды, таму не лішне ад іх абараніцца спецыяльнымі замовамі. Як правіла, у замовах такога характару захаваліся водгаласы ахвярапрынашэнняў: да хлеўніка, дамавога, лесавіка звяртаюцца пачціва, называюць іх «хазяін», «цар», надзяляюць уласным імем. Напрыклад, на захаванне жывёлы ўжывалі такую замову: «Упрашаю хадзяіна дамавога, палявога, выгоннага, межавога і самага старшага

старшога — Дзяменьцiя Дзяменьцевiча, i цябе, Кляменьцiй Кляменьцевiч, i цябе, Хвёдар Хвёдаравiч, i цябе, Аграсiм Аграсiмавiч! Прашу я вас, не астаўця нас, любуйця раба божага маiх конiй, i мiлуйця, i прылядайце, як самi знаеця. Прашу вас, не астаўця нас» (Рам., 137, 1). Каб задобрыць духаў-апекуноў, iм абяцаюць частаванне, падарункi, малююць карцiны прыгожага жыцця: «Я ж вас усiх упрашаю, сталы настаўляю, скацерсцiмi засцiлаю, хлеб-соль пакладаю, мёд i вiно ў кубкi налiваю, каб ад мяне, Петрака (iмя знахара), словасы прынiмалi» (Рам., 139, 9). Тут дагаворныя адносiны: сiмвалiчныя дзеяннi заклiнальнiка павiнны выклiкаць адпаведныя, неабходныя яму вынiкi, забяспечваць чаканы поспех. Трэба меркаваць, што некалi дзеяннi заклiнальнiка маглi быць не чыста сiмвалiчнымi, а падмацоўвалiся пэўнымi ахвярапринашэннямi. У любым выпадку гэтыя i падобныя да iх прыёмы вынiкаюць з такiх уяўленняў, якiя даследчыкi магiчнага светапогляду называюць «законам сiмвалiчнай эквiвалентнасцi», з уяўленняў, паводле якiх «усе прадметы i субстанцыi не iзаляваны, а звязаны таемнай i глыбокай эквiвалентнасцю, так цi iнакш абумоўленай... глабальным дэтэрмiнiзмам. Задача ж заклiнальнiка — авалодаць «законам эквiвалентнасцi» i тым самым падпарадкаваць сабе навакольную рэчаiснасць»[60].

Менавiта такiя ўяўленнi з'яўляюцца асновай усiх замоў, iнакш не былi б яны замовамi, тымi творамi, у якiх, паводле вызначэння А. М. Горкага, адлюстравалася «iмкненне старадаўнiх рабочых людзей аблегчыць сваю працу, узмацнiць яе прадукцыйнасць, узброiцца супроць чатырохногiх i двухногiх

---

[60] Елизаренкова Т. Я. Об Атхарваведе // Атхарваведа: Избранное. М., 1977. С. 29.

ворагаў, а таксама сілаю слова, прыёмам «загавораў», «заклінанняў» уздзейнічаць на стыхійныя, варожыя людзям з'явы прыроды»[61].

Адносіны да прадстаўнікоў дэманалагічных сіл далёка не адназначныя. Да іх звяртаюцца як да памочнікаў супраць нарадкі, напушчанай злым чалавекам або нячыстай сілай: «І просім мы Хазяіна лесавога, і палявога, і дамавога — пamажы рабу божаму ад прыткі раннія і полудзённыя і вячэрнія» і г. д. (Рам., 140, 13). Вядомы замовы, дзе з належнай асцярожнасцю дамавіка адсылаюць у далёкія месцы, адкуль ён не можа пагражаць, адсылаюць да лесавіка: «Дамавік, дамавік, ідзі шукай лесавіка. Тут табе не бываць, і ўрэда не рабіць, ні схода, ні малода, ні пад поўна, ні маладзіком, ні вавек вяком» (8-80-178, Барташэвіч). У сувязі з апошняй формулай («ні схода, ні малода» і г. д.) можна гаварыць пра водгаласы лунарнага міфа, дзе ў апазіцыі сонца — луна з луной суадносіцца начны, цёмны пачатак, што тоіць небяспеку, нясе ў патэнцыі зло.

Відаць, гэтым можна растлумачыць абрад выгнання хлеўніка, зафіксаваны ў Халопенічах Барысаўскага павета, які адбываўся ў ноч, як настане маладзік, калі спецыяльна навязаным пугаўём пераганялі жывёлу праз асінавыя вуголлі. Запісаўшы абрад, А. Я. Багдановіч выказвае меркаванне, што «ад злучэння ўздзеяння пугі з «пасконных» валокнаў, якая рассякае цела хлеўніка да крыві, агню, якога ён баіцца, і, нарэшце, замовы, якой надаецца цудадзейная сіла, хлеўнік не асмеліцца вярнуцца і пакіне статак». У замове хлеўнік ставіцца ў адзін рад з нячыстай сілай і цмокам:

---

[61] Горький М. Советская литература: Доклад на Первом всесоюзном съезде советских писателей 17 августа 1934 г. // Собр. соч.: В 30 т. М., 1953. Т. 27. С. 300.

Як у нас Юр'я
Коні пасець,
Статак сціражэць,
Нячыстую сілу
Проч адганяіць,
Хлеўніка і цмока
Вожахом порыць,
Прыгаварываіць:
Хіра ў лес! Хіра ў лес! Хіра ў лес! [62]

Да дэманалагічных персанажаў у замовах звяртаюцца як да апекуноў, ахоўнікаў, якіх ахвярамі і просьбамі імкнуцца прымусіць спагадліва адносіцца да чалавека і яго гаспадаркі, служыць яму: «Цар лесавой, царыца-лесавіца! Прымі ты наш падарак і нізкі паклон і прымі ты маіх малых рабят, і адпусці іх дамоў, штобы яны па лесу не плуталі, пад сасной не нацувалі, шэрай калоды не елі, клюцэвой вады не пілі, да дому дахадзілі. А табе ў лясу спаць, за дзеткамі па пням хадзіць, з жаной на мху спаць, а маіх робят у глаза не відаць» [63].

Па-рознаму звяртаюцца да «свайго» і «чужога» дамавіка. «Свой»— апякун, заступнік, таму яго абавязкова трэба запрасіць у новы дом, пры гэтым запрашэнне суправаджаецца сапраўдным ахвярапрынашэннем: кладуць хлеб, соль і ставяць кубак малака. Адпаведна і ў замове замацоўваецца дагавор на абмен выгодамі: «Цар дваравой! Царыца дваравіца! Твае дзеткі цараната! Дарую я вас і хлебам і соллю, мілуйця і вы маіх жыватоў, карміця вы іх ярай пшаной, паіця вы іх мядовай сытой, пакрыйця вы іх шаўковай пеляной, блюдзіця вы іх ад чужога дваравога, ад чужога палявога, ад падмежніка, ад кацеражніка, ад кустоўніка, ад

[62] Богданович А. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895. С. 71—72.
[63] Шейн П. В. Материалы... Т. 2. С. 522—523.

грыбоўніка»[64]. «Чужога» ж, насланага, адпраўляюць назад: «Калі ты чужы, насылальны, ідзі к яму пагуляй, яго скаціну паганяй, а ў маём двары не бывай» (8-79-165, Барташэвіч). Калі ж ён парушыць дагавор, яго можна і прыстрашыць: «А как по-моему не сделаете, буду молиться на вас святому великомученику Божью Егорью и царице Александре»[65].

Надзвычайную цікавасць у замовах уяўляюць матывы, звязаныя з перуном і маланкай. Найбольш ужываюцца яны ў замовах ад нячыстай сілы і розных гадаў. Такія замовы, паводле слушных меркаванняў даследчыкаў, узыходзяць да старажытных шаманскіх традыцый, якія захаваліся ў многіх народаў, у тым ліку і ўсходніх славян. Гэтыя матывы нясуць на сабе адзнакі розных часоў і ўплываў розных уяўленняў і дазваляюць прасачыць, якімі шляхамі ішло развіццё або разбурэнне міфалагічных поглядаў і вобразаў. Пярун і маланка ў замовах выступаюць то як самастойная магутная сіла, супастаўная з богам навальніцы, узброеным кап'ём, стрэламі, камянямі, у іншых — гэта зброя ў руках бога або святых (Міхаіла-архангела, Юр'я і інш.), якую яны выкарыстоўваюць як сродак пакарання па просьбе заклінальніка, як сродак прамой пагрозы, застрашвання. Маланка часам называецца «правялікай гаспадыняй» (відаць, у гэта азначэнне ўкладваецца сэнс вялікай багіні), маці, сыны якой могуць прыносіць на людзей розныя нягоды (у ліку яе сыноў і ветры з іх «ветравым ліхам», якое можа быць прычынай многіх хвароб, у тым ліку падвею, стацця, калі ў чалавека «адбярэ мову ад ветру») (Рам., 4, 9).

---

[64] Шейн П. В. Материалы... Т. 2. С. 524.
[65] Живая старина. СПб., 1908. Вып. 4. Отд. 2. С. 75.

З увядзеннем хрысціянства архаічныя замоўныя тэксты, як і само ўжыванне замоў, не маглі знікнуць або карэнным чынам пераўтварыцца, пакольні не было для іх адпаведнага заменніка. Але ўкараненне новай царкоўнай ідэалогіі пакінула свой след. Так званае двухвер'е прывяло да дзіўнага спалучэння міфалагічных уяўленняў і пануючай хрысціянскай рэлігіі, што стала характэрнай з'явай як для магічна-абрадавых устанаўленняў, так і ўсіх пластоў слоўнага мастацтва. У замовах з матывамі культу Перуна асабліва ярка праявілася тэндэнцыя ахрысціяніць старадаўнія язычніцкія ўяўленні, культу Перуна супрацьпаставіць культ хрысціянскіх святых, на яго месца паставіць Хрыста, святых, нават маці Прачыстую і г. д. Яго атрыбуты — галоўным чынам грамавыя стрэлы — перадаюць Юр'ю, Міхаілу-архангелу або Іллі. Паказальная ў гэтым сэнсе замова ад ведзьмы. Парушаючы паслядоўнасць, прывядзём яе заключную частку, якая не звязана з усім папярэднім тэкстам і ўспрымаецца як зусім самастойная: «Пéрун б'ець, малоння паліць, малашніка і малашніцу ад етай скаціны, рабай шарсціны, за дванаццаць сажняў адкідаець, і сваім войстрым кап'ём наскрозь ёй жылы-пажылы прабіваець, і на дванаццаць пакаленій малашніка і малашніцы кроў заклінаець» (Рам., 144, 24). Увесь астатні тэкст мала спалучаецца з гэтай канцоўкай. У ім апеляцыя да бога, святога Міхаіла-архангела, якіх заклікаюць на дапамогу, развіццё матыву манастыра (прастола) на Сіянскай гары. Наўмыснае нагнятанне матываў надзеі толькі на богаву помач, спалучэнне двух сюжэтаў — аднаго, звязанага з Міхаілам-архангелам, які «ў святым месці ў залатым крэслі кнігу-вангілю чытаець, хіруімы ўсьпяваюць, у Госпада Бога міласьці ўпрашаець, етай скаціні, рыжай шарсь-

ціні, помачы даваець», і сюжэта пра самога «Суса Хрыста і Прачыстую маці», якія «самі з сабою размаўлялі, у Госпада Бога міласьці ўпрашалі», неяк не ўвязваюцца з такім тыповым для архаічных тэкстаў прыёмам, калі жаданы вынік малюецца як ужо здзейснены («Перун б'ець, малоння паліць...»), зло пакарана, знішчана, мэта замовы дасягнута.

У замовах адбываецца спалучэнне розных па сваёй ідэалагічнай аснове пачаткаў: язычніцкая вера ва ўсёмагутную сілу слова, падмацаванага абрадавым рытуалам або ахвярапрынашэннем у магічных мэтах, вера ў магчымасць уласнымі сіламі дасягнуць мэты, ці то з дапамогай магічных атрыбутаў, ці магутных пасрэднікаў, і хрысціянская пакорлівасць, маленне, упрошванне і надзея на літасць бога. Тут ужо не можа быць гаворкі пра прымусовае ўздзеянне на багоў. Так замовы выраджаліся ў малітвы. Але нават пры такіх інтэрпрэтацыях пад хрысціянскім налётам захоўваюцца старадаўнія язычніцкія рысы. Характэрная для абрадаў і міфаў, прымеркаваных да культу Перуна, сувязь з узвышшамі, горкамі, з дубам (або іншымі дрэвамі) надзвычай празрыста і паслядоўна адлюстроўваецца ў замовах. Праўда, часам гара гэта называецца Сіянскай, што зноў-такі вынік уплыву хрысціянства. А. М. Весялоўскі звяртаў увагу на захаванасць язычніцкіх элементаў пад хрысціянскімі напластаваннямі: «Як многія хрысціянскія святы ўтрымалі за сабой увесь міфічны звычай язычніцкіх урачыстасцей, так у старажытнай формуле замовы старыя багі павінны былі саступіць месца новым вышэйшым сілам. Змяніліся, зразумела, толькі імёны; не змяніліся ні змест, ні эпічны матыў» [66].

---

[66] Веселовский А. Н. Статьи о сказке // Собр. соч. М.: Л., 1938. Т. 16. С. 7.

Двухвер'е было ўласціва не толькі ўсходнім славянам. Вывучаючы асірыйскія заклінанні і рускія народныя загаворы, Ус. Мілер шмат увагі ўдзяліў менавіта такім творам, якія з'явіліся параджэннем складанага і своеасаблівага спалучэння розных па сваёй светапоглядпай накіраванасці плыняў, і вызначыў іх як «ілжывыя малітвы». І хаця ён даследаваў заклінальную творчасць халдзейскіх магаў, яго высновы тлумачаць многія з'явы, характэрныя для традыцый еўрапейскіх, у тым ліку славянскіх, народаў. Ён пісаў: «...магі на працягу доўгіх гадоў народнага двухвер'я прыстасоўвалі свае старадаўнія язычніцкія формулы заклінанняў і свае старадаўнія сімвалічныя аперацыі да хрысціянскіх паняццяў і абрадаў. З гэтага змешвання атрымаліся тыя шматлікія «ілжывыя малітвы» і замовы, якія ў безлічы спіскаў распаўсюджваліся ў сярэднявечча ў грэка-раманскім свеце і разам з хрысціянствам пераходзілі да новахрысціянізаваных народаў германскіх і славянскіх» [67].

На тэрыторыі Расійскай дзяржавы, у тым ліку на беларускай зямлі, былі вядомы спісы замоў, так званыя «аракулы», «саламоны», з якіх яны перапісваліся не толькі заклінальнікамі-прафесіяналамі, а больш-менш пісьменнымі людзьмі для бытавога карыстання. Разгледжаная намі замова ад ведзьмы хутчэй за ўсё з'яўляецца такім прыкладам, тым болей што ў час фальклорнай экспедыцыі аналагічны тэкст знойдзены ў в. Яланы Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці, які трапіў да інфарматара менавіта з такіх спіскаў. Пры гэтым «ілжывыя малітвы», часта не зразумелыя ў выніку пераносу іх на чужую глебу, скажаліся, гублялі лагічную су-

---

[67] Миллер Вс. Ассирийские заклинания и русские народные заговоры. С. 77.

вязь і маглі злучацца з аналагічнымі традыцыйнымі тэкстамі.

Пазней у замовах месца Перуна займаюць Хрыстос і святыя. Іх зброя таксама страла — каменная або агняная: «...паб'е цябе сам Сус Хрыстос, выйдзя ў чыстае поля, наложа каляную стралу, праб'е цябе, лютую змяю» (Рам., 111, 294); «Вынімайця ярась з раба божага, а то святы, Пётра-Павел, залатым кап'ём праб'ець, Ілія слаўны прароча огненнай стралой праб'ець, святы архангал Міхаіл огненнаю меч'ю го́лаву ататнець і агнём сажжэць, святым духам попел разадмець» (Рам., 119, 333). Цяпер ужо не зварот да Перуна, а просьба да цудоўнага памочніка, ва ўладзе якога сам пярун і маланння: «Ежалі ж ты будзеш маю малітву заедаць, то я буду прасіць Госпада Бога. Сашлець Гасподзь Бог Міхаілу архаілу з громамі, з малоднямі: будзець громам біць, малоднямі паліць» (Рам., 179, 82); «...будзець Міхаіл-архістрацыл выяжжаць сы 'гнянным пламем, з залатою меччу, з пабойнаю стралою, будзець сеч і рубаць, і агня́нны град кідаць, і па коллю мяса торкаць» (Рам., 179, 85). Так язычніцкія боствы зводзіліся з п'едэстала, замяняліся новымі, перадавалі свой магутны аўтарытэт.

Яшчэ большы ўплыў хрысціянскай ідэалогіі адчуваецца ў рускіх замовах, у якіх дзейнічаюць пярун і маланка. Прыведзеная Л. Майкавым замова «От нечистого духа»[68] носіць відавочныя сляды кніжнасці. Нячысты дух, паводле яе, гэта «демон кеен и мамонт насыльный и нахожий»— вобразы, чужыя народнай творчасці. І тут спалучэнне ўласцівых народным замовам матываў з кніжнымі хрысціянскімі, а магчыма, і запазычанымі фрагментамі.

[68] Майков Л. Н. Великорусские заклинания. С. 577—579.

Калі яшчэ ўяўленні пра маманта знаходзяць адпаведнасць у апісаннях Індрыка-звера ў рускай «Галубінай кнізе», то зусім няясна, з чым супастаўляецца дэман кеен.

Барацьба хрысціянскай царквы з язычніцкімі культамі зрабіла свой разбуральны ўплыў і на замовы, што асабліва прыкметна на творах з рэшткамі культу Перуна.

Самымі распаўсюджанымі, агульнавядомымі і шматлікімі з'яўляюцца замовы ад хвароб, або лячэбныя, якія прымяняліся для дапамогі людзям і хатняй жывёле. Ужо сам пералік хвароб, ад якіх ужываліся замовы, сведчыць пра даволі шырокія веды нашых продкаў у анатоміі і народнай медыцыне, а тэксты замоў з пералічэннем органаў і касцей пацвярджаюць гэта. Менавіта замовы як адна з састаўных частак народнай медыцыны могуць лічыцца папярэднікам медыцыны навуковай. Да таго ж істотным элементам лячэбнай магіі было прымяненне лекавых траў, выкананне пэўных фізічных дзеянняў, якія лічыліся магічнымі, але фактычна аказвалі дабратворнае ўздзеянне, напрыклад масажы, націранне тлушчам і рознымі настоямі траў, змыванне вадою і г. д. У святле ўзросшай цікавасці апошнім часам да праблем псіхатэрапіі замовы заслугоўваюць увагі як адзін з важных сродкаў псіхалагічнага ўздзеяння на чалавека, калі ўлічваць такі немалаважны фактар, якім была шчырая вера і заклінальніка і самога хворага ў дзейснасць замоўнага рытуалу.

У свой час пісьменнік-урач В. В. Верасаеў вельмі трапна зазначаў, што ўрачу «ўсюды, на кожным кроку, даводзіцца быць акцёрам; асабліва гэта неабходна таму, што хвароба вылечваецца не толькі лекамі і назначэннямі, але і душою самога хворага; яго бодрая і веруючая душа — агромністая сіла ў

барацьбе з хваробай, і немагчыма дастаткова поўна ацаніць гэтую сілу... Магутную падтрымку аказвае заваяваная (урачом.— *Г. Б.*) вера, якая дзіўна ўзнімае энергію хворага і яго блізкіх. Хвораму надзвычай патрэбна гэта вера, і ён імкнецца ўлавіць у голасе ўрача ўсякую ноту вагання і сумнення» [69]. І ў нашы дні акадэмік Я. І. Чазаў піша: «Мне хацелася б яшчэ раз падкрэсліць: лячэнне (врачевание) у роўнай ступені мастацтва і навука. І псіхалагічны фактар, здольнасць узаемаразумення з пацыентам — адзін з галоўных памочнікаў урача ў барацьбе з хваробай» [70].

На жаль, погляды на замовы толькі як на рэшткі забабонаў прывялі да негатыўнага стаўлення да іх і выкаранення ўсімі магчымымі спосабамі, выключылі магчымасць і спробы паглядзець на механізм іх уздзеяння з псіхалагічнага пункту погляду. А між тым на заганнасць такога стаўлення звярталі ўвагу некаторыя даследчыкі яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы. А. Ветухоў абсалютна справядліва пісаў: «Сучаснае навуковае мысленне ў сваім шырокім патоку, які нясе субстанцыі, рэчы, матэрыю ў бездань з'яў, працэсаў і сіл, на розных пунктах, у розных галінах навук, улоўлівала ў розных кутках і выносіла на сярэдзіну цячэння асобныя назіранні, факты, што пралівалі святло на сутнасць, на асновы жыцця гэтай магутнай зараз,— і якая заўсёды прызнавалася за такую,— сілы — унушэння, уздзеяння словам на самыя інтымныя бакі чалавечага духу, яго псіхікі» [71]. Ён даводзіў неабход-

---

[69] Вересаев В. В. Записки врача // Собр. соч.: В 5 т. М., 1961. Т. 1. С. 360.

[70] Чазов Е. И. Мы лечим сердце // Неделя. 1984. № 50. С. 2.

[71] Ветухов А. Заговоры, заклинания, обереги и другие виды народного врачевания, основанные на вере в силу слова: Из истории мысли. Варшава, 1907. Вып. 1. С. 103.

насць уважлівага стаўлення да спадчыны мінулага, бо «дзякуючы настойлівай рабоце навуковай думкі многія з'явы, якія засведчаны помнікамі народнай творчасці, але лічыліся домысламі пустой фантазіі, становяцца на глебу рэальнасці» [72].

У нашы дні, калі ўзрастае цікавасць да мінулага ў розных яго праяўленнях, абуджаецца цікавасць і да розных бакоў народнай медыцыны, да розных спосабаў лячэння, уздзеяння на чалавека таксама і словам. Але, як часта бывае, цікавасць гэта накіравана на тое, што аддзелена ад нас вялікімі адлегласцямі і малавядомымі традыцыямі. Мы імкнемся пранікнуць у таямніцы індыйскай, тыбецкай, лаоскай, в'етнамскай медыцыны; некаторыя вучоныя становяцца на абарону такіх з'яў, якія яшчэ дзесятак гадоў таму выклікалі ў лепшым выпадку скептычныя ўсмешкі. Зараз раздаюцца разважныя галасы, маўляў, можа, не варта ўсё нам незразумелае падводзіць пад рубрыку цемрашальства, забабонаў і невуцтва. Можа, варта пашукаць і ў гэтым незразумелым нейкія рацыянальныя пачаткі. Праўда, часта пытанні такія ўзнімаюць дзеячы мастацтва, літаратуры, журналісты. М. Рэрых заклікаў: «Так многае забытае павінна быць зноў адкрыта і добразычліва вытлумачана мовай сучаснасці». Нехта знайшоў вельмі трапны выраз «тэрапія ўзаемаадносін» для характарыстыкі сувязі хворы — урач. Менавіта замовы і былі без перабольшання такім надзейным і трывалым сродкам, на якім трымалася тэрапія ўзаемаадносін.

Але вернемся да нашай непасрэднай тэмы.

Сярод лячэбных замоў вылучаюцца творы, у дачыненні да якіх можна гаварыць пра іх акрэсленую аднабаковую прызначанасць. Гэта замовы ад зуб-

---

[72] Ветухов А. Заговоры, заклинания, обереги... С. 101—102.

нога болю, звіху, удару, скулы і г. д. Існуе шмат замоў, якія ўключаюць у сябе некалькі тэм і адпаведна могуць ужывацца з рознымі мэтамі. Так, замовы ад урокаў могуць выкарыстоўвацца і як лекавыя, і як ахоўныя ад злога вока, ад благога чалавека. У сваім грунтоўным зборы Е. Р. Раманаў у адпаведнасці з інфармацыяй носьбітаў замоў вылучыў групу твораў з вельмі шырокім колам тэм: «Ад нячыстыя сілы, нарадкі, падучай, беснавання, прытчы, сумашэсцвія, стацця, падвею, паветрыя, з'еду, сухоты». Такое азначэнне, такое злучэнне ў адну групу розных з'яў некалькі праясняе тыя погляды, тыя ўяўленні далёкіх эпох, якія стваралі глебу для ўзнікнення гэтых твораў. Як правіла, гэта група твораў, як і замовы ад урокаў, зглазу, сваім зместам накіравана перш за ўсё супраць носьбітаў злой сілы, пра што ўжо гаварылася вышэй (іх можна аб'яднаць адным паняццем — «нячыстая сіла»), а потым ужо супраць хваробы: «Першым разам, добрым часам. Благаславі, Госпадзі, стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая на радась. Прэсвятое Стрэчаннійка Хрыстовае, памілуй, Госпадзі, ад 'сякія нешчасныя стрэчы, ад 'сякага паганага языка, ад ненавіснага глаза, пачутага, павіджанага, пагаданага, радаснага, жаласнага. І хто раба божага чалавека асурочыў, соль таму ў вочы, траскучэе палена ў калена, штоб трашчэла і балела. Як на моры Кіянскам, на гарэ на Сіяньскай ранняя заря, вячэрняя заря, Абрамя, Храмя Ляксеевіч, і ты, Мар'я Хвёдараўна, упрашаю вас, умаляю, не сам сабою — кроўю сваёю, прашу вас на хлеб, на соль, із жаной, із дзеткамі. Лучэ, Лучэ (ад дзеяслова «лучатца»), аддай нашы прытчы, каб раба божага етага чэлавека суроцы не бралі, музькія, жэнькія, дзявоцкія, рэбяцкія, падзіўныя, прыгаворныя, падумныя, пагаданыя, нашныя, дзянныя, ветраныя,—

уніміся, уцішыся, уляшыся. Як камню на корэні не стаяці, веццем не махаці, так у раба божага етага чалавека болі не балеці, не ламіці, не калоці, не пароці, па сей час, па сею гадзіну, па сею часіну, пакуль я не гаварыў. Не я ж цябе радзіў, я раб божы етага чалавека ад суроцы, ад прытчы адхадзіў. Мой душок ціхонек, лягонек» (Рам., 137, 3).

Хвароба, па ўяўленнях, адлюстраваных у замовах, напускаецца кімсьці на чалавека — іншым чалавекам, ветрам, вадой, зямлёй, таму яе можна выгаварыць, адаслаць назад, туды, адкуль яна прыйшла: «Прашу Госпада Бога і Духа Святога, стань, Бог, у помач, ангалы на радась, і пасабіця мне вымерацць, выгаварыць з раба божага і стаццё, і прыттча — стаццё вадзяное, стаццё земляное, стаццё ветраное, стаццё агняное; земляное ў зямлю, а вадзяное ў ваду, а агняное на 'гонь, а ветраное на вецер. Тут табе ня быць і раба божага ня сушыць. Чурайся, адракайся раба божага Іваньку» (Рам., 9, 22).

У аснове лекавых замоў можна знайсці як агульныя філасофскія ўяўленні, так і адлюстраванне поглядаў, звязаных з першабытнай практыкай, у якой вялікае месца належала інстынктыўным дзеянням. Напрыклад, распаўсюджаны матыў злізвання, сплёўвання, які ўспрымаецца і ўжо даўно ўспрымаўся як сімвалічнае дзеянне, мог мець сваімі вытокамі зусім рэальныя паводзіны парадзіхі (падобна на тое, як гэта вядома ўсяму жывёльнаму свету).

Што да агульных светапоглядных уяўленняў, перш за ўсё звяртаюць на сябе ўвагу элементы аністычнага мыслення, калі чалавек схільны быў прыпісваць уласцівасці жывой істоты не толькі прадметам, але і з'явам душэўнага характару, такім, як стан чалавека, пачуцці і г. д. «Што толькі праяўляецца вонкава якім-небудзь дзеяннем, тое

ўяўляецца чалавеку дзеючым прадметам, у большасці — дзеючай істотай. Для ўсіх сваіх маральных і фізічных змяненняў першабытны чалавек дапускае наяўнасць якога-небудзь матэрыяльнага пачатку»[73]. Такім матэрыяльным пачаткам былі і хваробы. Яны маглі пераносіцца, напрыклад, ветрам («падвей»), усяляцца ў чалавека, іх, як жывыя істоты, можна было выганяць, звяртацца да іх з пагрозай, загадам пакінуць чалавека і г. д.: «Ідзіце, урокі, прыстрэкі, па лугам, па балотам, па ніцым лозам...» (13-3-30, Русіновіч); «Выгаварую я і ўрокі і прыстрэкі... Выхадзіця з касцей, з мяжджэй, з сустаў, з палусустаў...» (Рам., 19, 52); «Полунощніца, щекотаренка! Не играй моим дитяткой, играй прялочкой, веретенечком да помельной лапочкой»[74]; «Пойдите вы, родимцы, пойдите вы, трясовцы, в чисто поле, в грязи седучи, в болота зыбучи»[75].

Менавіта такімі поглядамі можна тлумачыць узнікненне матыву адсылкі хвароб у месцы, адкуль яны не могуць ужо распаўсюджваць сваю шкодную сілу, або просьба да іх адысці ў аддаленыя мясціны, дзе для іх прыгатаваны ўсе магчымыя, па разуменню чалавека, радасці — піценне, ядзенне, лёгкае ўздыханне і г. д. Сам характар адсылкі, ужыванне зваротка, загаднай формы дзеяслова паказваюць на адносіны заклінальніка да хваробы як да жывой істоты: «Ідзі, звіх, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, дзе людзі ні ходзяць, петухоў голас ні даходзіць. Ідзі, звіх, на асіну, ламі асіну, ідзі, звіх, на асіну, ламі асіну, ідзі, звіх, на асіну, ламі асіну» (8-76-117, Барташэвіч); «Ідзі ты собе, удару-господару, на крытыя горы, на нізкіе лозы, на быст-

[73] Крушевский Н. Заговоры как вид русской народной поэзии. С. 18.
[74] Обрядовая поэзия Пинежья. М., 1980. С. 172. № 194.
[75] Там жа. С. 171. № 187.

рые воды, там вам гулянне, буянне, роскошуванне, а тобе (імя) на легкое дыханне» (8-82-204, Барташэвіч); «На сінім моры там вам будзець добра: на сінім моры чары залатыя, напіткі дарагія, падушкі пуховыя, засьцілкі цвілёвыя — там вам добра будзець» (Рам., 77, 145).

Каб прымусіць хваробу пакінуць чалавека, яе пужалі ўсімі магчымымі спосабамі, пагражалі змыць, згрызці, пасекчы, выбіць і г. д. Для ўзмацнення пагрозы на помач заклікаліся розныя сілы, хрысціянскія святыя, бог, Прачыстая, стыхіі і з'явы прыроды.

Даволі часта хваробы выступалі ў выглядзе персаніфікаваных асоб, у вобразе чалавека, часцей за ўсё жанчыны. Тут сказаўся ўплыў антрапаморфных уяўленняў. Мы ўжо бачылі, як малюецца скула ў замовах — «скула-скуліца, красная дзявіца». Часам заяўляецца, што вядома колькасць іх — дванаццаць скул («я вас усіх дванаццаць знаю...»). Эпітэты, якія ўжываюцца ў такіх замовах, азначэнні скул указваюць на іх паходжанне (прыдумная, прысмешная, нагаворная і г. д.). У выглядзе дванаццаці, у іншых выпадках сямідзесяці сямі — папулярныя ў замовах сімвалічныя лічбы — дзяўчат або цётак выступае ў замовах ліхаманка (па-народнаму хінцяя, хінцюха, цётка, цяцюха, трасца і інш.). Адзін з інфарматараў Я. Л. Шэнец з в. Ялаexisting Светлагорскага раёна тлумачыў: «Хінцюха — гэта названне старае, палескіх дзеравень, а па-сапраўднаму эта балезнь называецца малярыяй, ад яе раней так многа людзі страдалі»[76]. Хвароба праяўлялася па-рознаму, і кожнаму яе этапу адпавядала асобная істота (цяцюха і інш.). Таму і вы-

---

[76] АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 178а, сш. 10, л. 59, № 88. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1980 г.

ганялі не адну якую-небудзь з іх, а ўсе дванаццаць: «Усіх святых на помач папросім, і Міхаілу і архіілу, суддзю праведнага. На полі, на кіяні стаіць дуб Ракітаній, на том дубі дванаццаць какатоў, на тых на дванаццаці какатах дванаццаць Цяцюх (цётак, ліхарадак); яны зжадаліся, у раба божага сабіраліся. Вы, дванаццаць Цяцюх, выхадзіця з раба божага: вам у ём ня быць, вам зь яго вон выхадзіць, з жыл, з пажыл, з гаручай крыві, з галавы і з ног. І хадзіця на сіяньскія лугі,— там калінавыя кусты,— вы там будзеця гуляць, і калінавыя лугі і зялёныя лугі вытрасаць, ну вас аттудава ніхто ня будзець высылаць» (Рам., 171, 55).

Красамоўна малюецца ліхаманка ў рускай замове. Яна таксама прадстаўляецца ў выглядзе дванаццаці дзявіц, кожная з іх мае сваё імя, кожная нясе свае пакуты. «Одна говорила: «Мне имя Трясея». Другая говорила: «Мне имя Огнея»: как печь смоляными дровами распаляется, так Огнея жжет тела человеческие. Третья говорила: «Мне имя Ледея»: а Ледея, как лед студеный, знобит род человеческий, и не может от него человек и в печи согреться... Одиннадцатая говорила: «Мне есть имя Глядея»: и та всех проклятее! в ночи человеку сна не дает, и бесы приступают к тому человеку, и в уме он мешается. Двенадцатая говорила: «Мне имя Невея»... всех проклятее: поймает человека, и не может тот человек жив быть» [77].

Такія ж персаніфікаваныя і іншыя хваробы — залатнік, каўтун, каўтуніца, рожа.

У некаторых творах хвароба, боль не маюць канкрэтнай характарыстыкі, хаця і тут яны выступаюць як нешта матэрыялізаванае, што можна ўзяць у рукі, вынесці, разбіць і г. д. Барацьба з

---

[77] Богатырев П. Г. Заговоры. С. 227—228.

хваробай, знішчэнне яе часам набываюць фантастычную афарбоўку. На думку першабытных людзей, хваробу можна было выгрызці (відаць, некаторыя балячкі так і выдалялі — своеасаблівая першабытная хірургія, пра што засталіся напамінанні ў замовах ад грыжы), выкляваць, вырваць. У замовах гэта даручалася птушкам з фантастычнымі здольнасцямі, рыбе (шчупак з жалезнымі зубамі). Вакол такіх фантастычных вобразаў паміж вучонымі разгарэліся спрэчкі. Міфолагі бачылі ў іх адлюстраванне старажытных міфаў. М. Пазнанскі сцвярджаў: «Міф тут толькі ўпершыню ствараўся з прамою практычнаю мэтаю»[78]. Вобраз цудоўнага шчупака ў беларускіх замовах не сустракаецца, у нашых замовах часцей гаворыцца пра ворана. Ён абавязкова чорны, у яго жалезная дзюбка (залатая, сярэбраная, мядзяная), кіпці, або «кокацця», адпаведна залатыя, сярэбраныя, жалезныя і г. д., шарсцяныя крыллі, драцяны хвост. Воран звычайна сядзіць у гняздзе на дубе (дуб без карэння, без какатоў і без вярхушкі) (Рам., 142, 16); другі варыянт — на дубе 12 какатоў, на тых какатах 12 гнёзд, у адным гняздзе сядзіць чорны воран (8-80-178а, Цяпкова). Воран дзюбкай выклёўвае хваробу (звіх, боль, чэмер, патніцу), кіпцюрамі выдзірае, крыллямі вымятае. Цікава, што воран з жалезнымі кіпцюрамі і дзюбай вядомы старажытнаірландскай і старажытнаскандынаўскай літаратурным традыцыям, якія ўзыходзяць да фальклору і адлюстроўваюць дахрысціянскую міфалогію[79]. З другога боку, побач з іншымі птушкамі (арол, гусь, чайка, сава) ён звязаны з традыцыямі шаманізма, што зна-

[78] Познанский Н. Заговоры. С. 169.
[79] Мелетинский Е. М. Ворон // Мифы народов мира. Т. 1. С. 246—247.

ходзіць адлюстраванне ў атрыбутах сібірскіх і афрыканскіх шаманаў. Месца ворана ў некаторых беларускіх замовах часам займаюць арол, сокал, ястраб: «... сядзіць ястраб, глазы ясныя, кокаты вострыя, сам рабы, хвост доўгі» (Рам., 192, 20); «...на тых дубцах сядзіць сізы арол з залатой дзюбкай, з сярэбранымі какцямі» (8-79-165, Барташэвіч). У некаторых творах, напрыклад замове ад нячыстай сілы, нарадкі і г. д., мы знаходзім зусім незвычайную птушку, у якой з'яднаны воран і арол — воран-орлам: «На сіяні-моры і на лукамор'і стаіць дуб, без корэня, і без каката́, і без вярхушкі; і прылятаець к таму дубу і к рабу божаму Івану (хвораму) воран-орлам, з зялезнаю дзюбкай, драцяное кокацця, шэрсцяное крылля, драцяны хвост. Эй ты, воран-орлам, зялезная дзюбка, драцяное кокацця, шэрсцяное крыльля і драцяны хвост! Дзюбкую выбівай, ету боль кокцямі выдзірай, крыльлямі выцірай, хвастом забірай на сваё рябое пер'я, з галавы ў шыю, з шыі ў спіну, з спіны ў ногі, з ног у палцы, з палцаў у кокці» (Рам., 142, 16).

Якой бы фантастычнай істотай ні маляваўся супраціўнік хваробы, якая б сіла яму ні надавалася, заклінальнік усё ж напамінаў пра кару пры невыкананні яго загаду або просьбы. Найчасцей вобразы птушак як памочнікаў супраць хвароб ужываюцца ў замовах ад хвароб жывёл (ад патніцы, чэмеру, пералогу і г. д.). У некаторых замовах птушкі (воран), як і ў казках, пасылаюцца да крыніцы па гаючую ваду. Падабенства тут з казкамі не толькі ў функцыі птушак, але і ў саміх апісаннях: «Ты, чоран воран, ляці ў Кіеў. У Кіеве стаіць капліца, пад капліцай крыніца. Набяры ты з тае крыніцы вадзіцы, пакладзі пад правае пяро, пад правае крыло. Прынясі р. б. напіцца, памыцца» (8-73-69, Барташэвіч).

Варта звярнуць увагу на матыў вады ў замовах. Можна сцвярджаць, што ён бадай што самы распаўсюджаны ў замовах супраць розных хвароб. «Вадзіца-царыца», якая змывае карэнні, каменні, лічыцца універсальным сродкам, здольным змыць хваробу, і не толькі хваробу, а і ўрок, зглаз і г. д.

Многія замовы маюць у аснове сваёй веру, што некаторыя дзеянні здольны выклікаць неабходны вынік з прычыны свайго ўнутранага падабенства (падобнае выклікае падобнае). Так, пры родах лічылася неабходным адчыняць вароты (адчынялі нават царскія вароты ў царкве пры цяжкіх родах), дзверы, адмыкаць усе зашчапкі; расшпіляць гузікі не толькі ў парадзіхі, але ў прысутных і г. д. Матыў гэты адлюстраваўся таксама ў тэкстах замоў. У адной замове маглі выказвацца перасцярогі і ад заўчасных родаў, і пажаданне лёгкіх родаў у пару: «...няма пары — няма й травы, царськія вароты пазапіраны і кворткі пазамыканы. Прыдзя пара — парасце трава, царськія вароты па'дпіраюцца і кворткі па'дмыкаюцца, моладцу ці дзявіцы на свет можна выйсці» (Рам., 57, 19). Якое цудоўнае трапнае параўнанне: «няма пары — няма травы». Усё павінна ісці сваёй парой, сваёй чаргой, але і гэту заканамернасць трэба падтрымаць даступнымі чалавеку, дзейснымі, на яго думку, сродкамі. У замовах на роды ўласцівы жанру загад адрасаваны нават такім свяшчэнным прадметам, як царскія вароты, або самой прыродзе: «Царскія вароты, расчыніцеся, і каменныя горы, разыйдзіцеся, ка мне на ручкі, маладзенец, заявіся» (8-78-144, Барташэвіч). Матыў замка і ключа, які характэрны замовам як сімвал моцнага магічнага слова, тут з'яўляецца асновай зместу, асновай эпічнай часткі замовы. Таму ён вар'іруецца ў замовах, набывае паясняльныя характарыстыкі, што дасягаецца ўпамінаннем сімва-

лічных лічбаў, эпітэтаў. Многія замовы такога плана ўключаюць у якасці здзяйсняльнікаў выказанага пажадання святыя імёны — маці Прачыстую, святых Юр'я і Міхаіла-архангела і інш.: «Святы Юры-Ягоры, святы Міхайла-архангел, закрый, замкні дванаццаці замкамі, залатымі ключамі, залатымі, медзянымі і сярэбранымі, і з пары да ўрэмя...» (Рам., 160, 2); «Ішоў сам Гасподзь з небяса, згубіў залатыя ключы з-пад пояса. Мацер Божая ішла, залатыя ключы знайшла. Замкі, атапрыцеся, царскія вароты, атварыцеся, паясы, развяжыцеся; раба божая (імя) з дзіцёнкам разлучыцеся» (8-79-165, Барташэвіч, Барабанава).

На старажытнасць замоў такога роду ўказваюць і параўнанні: «Прыдзя час і пара, выхадзі, як із лука страла» (Рам., 56, 14). У замове, запісанай апошнім часам, таксама прысутнічае матыў стралы, хаця ён некалькі змяніўся: страла ўспрымаецца як ахоўны сродак ад урокаў: лагічнае развіццё — неабходнасць засцерагчы парадзіху і асабліва малое немаўлятка: «...ішла маць Прачыстая і няслa дванаццаць ключоў, адмыкала дванаццаць замкоў. Яна замочкі адмыкала, царскія вароты адчыняла і з цела младзенца выпускала. Ці шчука, ці шчуканец, вылезь з цела скоранька, ручанец. Ішла Прасвятая Багародзіца з калянай стралой і стралой выстраліла і па чыстаму полю ўрокі-пракрокі размятала» (8-78-144, Барташэвіч, Барабанава).

На прынцыпе «падобнае выклікае падобнае» пабудаваны і замовы ад болю зубоў. Даволі падрабязную характарыстыку ім дала Г. М. Астахава [80]. Яна вылучае ў іх галоўны вобраз — вобраз мёртвага цела, якое не адчувае ніякага болю. Цэнтральнае

[80] Астахова А. М. Художественный образ и мировоззренческий элемент в заговорах. С. 5.

ядро загаворнай формулы тут — «у мёртвага зубы не баляць». Часам магічная формула суправаджалася і магічным дзеяннем, якое ўзнікла на глебе параўнання: да хворага месца датыкаліся «мёртвай» косткай, гэтым самым перадаючы яму нячуласць да болю. У рускіх замовах маляваліся сустрэчы з мерцвякамі, узнікаў вобраз Лазара, біблейскі вобраз Авеля, забітага Каінам, і інш.

Што да беларускіх замоў, то самы распаўсюджаны варыянт замовы «ад зубоў»— замова-дыялог з месяцам (65 тэкстаў са 120). Гэта замова цікавая не толькі сваёй формай — класічны ўзор дыялогу, што М. Пазнанскі слушна адносіць да твораў драматычнага характару, але і суаднесенасцю з міфалагічнай творчасцю. Галоўны персанаж тут — месяц, які разумеецца як хтанічнае боства, ва ўладзе якога даравацъ здароўе (дакладней, нячуласць, як у памёршых, да болю зубоў). Па замовах маладзік бывае ў Адама (першачалавека), дзе бачыць людзей, якія ядзяць каменні, але зубы ў іх пры гэтым не баляць: «Няхай у р. б. Грышкі не баляць» (Рам., 81, 159).

Да таго ж у замовах заўсёды прысутнічае зварот да маладзіка, месяца ў пару ўзрастання, чаму таксама надавалася вялікае значэнне, часам (даніна хрысціянству) першае пытанне маладзіку не пра мёртвых, а божую матку («Ці бачыў ты Божую матку?») Але, як правіла, менавіта гэтыя замовы пазбаўлены хрысціянскіх напластаванняў, тут пануюць месяц і падуладныя яму мёртвыя людзі.

Вышэй ужо ішла гаворка пра замовы з падрабязным пералікам разнавіднасцей хваробы або тых частак цела, з якіх хвароба выганяецца. Асабліва шырока такі прыём ужываецца ў замовах ад скулы і ад рожы. Устойлівыя формулы пералічэнняў пераходзяць з замовы ў замову, і іншы раз толькі яны і

ўтвараюць самастойны тэкст. Часцей за ўсё ў такіх творах адбываецца камбінацыя наступных формул: пералік разнавіднасцей хваробы (скулы або рожы), пералік частак цела і пакут, якія яны адчуваюць ад хваробы, пералік месц, куды хвароба выганяецца, або тых даброт, якія чакаюць хваробу на новым месцы. Яркі прыклад — наступная замова ад скулы: «Усе святыя гасподнія божыя ўгоднікі, усе святыя гасподнія божыя скорыя памочнікі, прыступайце рабе божай Галі да помачы з паддзіўку, з-пад разгавору, з-пад зляку, з-пад удару, з-пад нерваў, з-пад унушэння, з паддзелу, з-пад ветру, з-пад вады, пузыр, нарыў, волас, скулу парную, адзінарную ўгаварваць. Скула-скуліца, красна красавіца, бела бяліца, сіня сініца, чорна чарніца, рожа разавіца, скула ніца, скула камяніца, скула муравіца, скула пляснівіца, скула паўзуха, скула залатуха, скула ангіна, скула нежыперсніца, скула акзема, скула жаўна, скула крапіўніца (ета ад ската), скула з падвою, скула з-пад разгавору, з-пад шапкі хлапочай, з-пад касы дзявочай шаптала, угаваравала з касцей, з машчэй, із карых ачэй, з рум'янага ліца. Тут табе не стаяць, жоўтай касці не ламаць, чырвонай крыві не разжыгаць, цела не пушыць, сэрца не ташніць. Адпраўляю цябе на чарата, на балата, на ніцыя лозы, на быстрыя воды, на сіняе мора. На сінім моры гуляла дзявіца Еўхрасіння, сталы засцілала, кубкі налівала, піла-гуляла, сладка ўядала і ўсякія скулы з етага чалавека выганяла, на сіняе мора адпраўляла. Там ім піць-гуляць добра самім» (8-81-182, Барташэвіч).

У замовах упамінаюцца шматлікія назвы хвароб, якія зараз цяжка суаднесці з вядомымі медыцыне, напрыклад сцень, падвей і інш. Відаць, многія назвы ўказвалі не столькі на саму хваробу, колькі на яе канкрэтныя праяўленні, асобныя сімптомы.

Важную ролю пры лячэнні замовамі адыгрываў увесь магічны рытуал, а ён мог мець сімвалічны або зусім рэальны характар, што ў некаторых выпадках было карысным (змыванне вадой, пасыпанне парашком з лекавых траў, прыпяканне агнём і г. д.). У той жа час сляпая вера ў магчымасці замоў прыносіла і вялікую шкоду, бо ў час не звярталіся да неабходнай кваліфікаванай дапамогі медыцыны, калі такая дапамога ўжо існавала.

Да замоў больш позняга паходжання адносяцца творы, якія адлюстроўвалі становішча чалавека ў класавым грамадстве. Тут замовы салдацкія, замовы, якія павінны былі зрабіць літасцівымі і справядлівымі суддзяў, замовы «на подход к властям», ад розных ворагаў. Такія творы будуюцца па агульнавядомай уласцівай замовам схеме, выкарыстоўваюць гатовыя вобразы і формулы, як, напрыклад, у наступнай замове ад суда: «Еду на мядзведзю, гадам паганяю, еду па дарозе шырокай, губы, зубы забіваю, суддзям тусміну ў вочы накідаю, штоб плахую рэч не гаварылі. Стаіць цэрква з залатымі дзвярамі, сядзіць маць Прачыстая з дванаццаці замкамі, замыкая суддзям губы і зубы. Губы, штоб плахую рэч не гаварылі» (8-80-178а, Цяпкова).

Засталася старажытная аснова, адбылося прыстасаванне да новых тэм, новых патрэб. Відаць, прадукцыйны перыяд у развіцці замоў скончыўся, прынцыпова новага ў адлюстраванні рэчаіснасці яны не давалі, таму пры стварэнні новых тэкстаў дзейнічаў у асноўным прынцып аналогіі.

Такім чынам, замовы, узнікшыя ў глыбокай старажытнасці, адлюстроўваюць асаблівасці мыслення чалавека ў пэўныя эпохі. Магічныя ўяўленні і абрады маюць матэрыяльную аснову, каранямі сваімі яны ідуць «... у найглыбейшую даўніну, прымыкаюць да элементарных, напаўінстынктыўных дзеянняў;

многія з іх паходзяць з рацыянальных дзеянняў, звязаных са стыхійным працоўным вопытам народа» [81]. Замовы даюць надзвычай каштоўныя і цікавыя звесткі пра быт, звычаёва-абшчынныя і сямейныя рэгламентацыі і нормы, псіхалогію, вераванні і культуру нашых продкаў. Гэта своеасаблівае сведчанне рэлігійна-філасофскіх поглядаў дакласавага грамадства і феадальнай эпохі, у іх і пачатак назапашвання практычных ведаў, у першую чаргу медыцынскіх, і найбагацейшы матэрыял для вывучэння шляхоў развіцця вобразнага мыслення.

---

[81] Токарев С. А. Религиозные верования восточнославянских народов XIX — начала XX века. М., 1957. С. 122.

# ЭСТЭТЫЧНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ АДЛЮСТРАВАННЯ РЭЧАІСНАСЦІ



саблівасць замоў у параўнанні з іншымі фальклорнымі жанрамі вызначаецца ў першую чаргу іх утылітарнай накіраванасцю, акрэсленай функцыянальнасцю, а таксама біфункцыянальнай прызначанасцю слова. Слова ў замовах — і сродак магічнага ўздзеяння і ў той жа час сродак рэалізацыі закладзенага ў замове пажадання, сродак стварэння магічнага тэксту, магічнай формулы, паэтычнага вобраза. Функцыя замовы — уздзеянне менавіта словам — абумоўлівае асаблівасці лексікі, паэтычных прыёмаў, рытмічнай, гукавой арганізацыі, інтанацыйнага, эмацыянальнага строю.

Замовы як адзін з архаічных жанраў фальклору, у якім надзвычай ярка адбіліся асаблівасці мыслення чалавека на ранніх ступенях развіцця, захоўваюць каштоўныя звесткі пра агульнамоўныя асаблівасці слоўнага фонду фальклорных твораў і шляхі пераарыентацыі мовы як сродку перадачы інфармацыі ў мастацка-вобразную структураўтваральную сістэму.

Слова замовы, як усякае рытуальнае,— мастацкае, паэтычнае слова. І хаця некаторыя вучоныя лічаць, што замовам бракуе самагоднай эстэтычнай мэты з прычыны іх утылітарнай прызначанасці, іх форма, рытмічная, гукавая арганізацыя тэксту, уласцівая ім метафарычнасць, шматзначнасць, выкліканая наяўнасцю абрадавага і міфалагічнага фонаў, як нельга лепей адпавядаюць эмацыянальна-псіхалагічнаму ўздзеянню і надаюць замовам эстэтычную каштоўнасць.

Хораша пра магію паэтычнага слова ў дачыненні да замоў сказаў М. Крушэўскі: «Вельмі многія, калі не ўсе, замовы — творы паэтычныя (г. зн. прыгожыя), а вядома, што ўсе народы прыпісваюць паэзіі, вешчаму слову нябеснае паходжанне і чароўную сілу» [1]. Цудоўнае тлумачэнне еднасці карыснага, чыста практычнага і прыгожага, паэтычнага ў замовах даў паэт, чарадзей слова А. Блок. Яго артыкул «Паэзія замоў і заклінанняў» (1906) [2] ужо самім загалоўкам падкрэслівае галоўную ідэю, а пранікненне ў сутнасць і паэтычную прыроду гэтых твораў настолькі глыбокае і выказана так дакладна, што намячае шляхі навуковаму асэнсаванню і аналізу мастацкай сістэмы замоў.

Падкрэсліваючы сапраўды чыста практычны сэнс замоў, якія накіраваны на шкоду ці карысць, паэт слушна лічыць прычынай сучаснай варожасці прыгажосці і карыснасці, утылітарызму розныя адносіны да паняцця карыснасці, якая страціла сваё першапачатковае значэнне і асацыіруецца зараз «калі не з непрыемным, то, ва ўсякім разе, з

---

[1] Крушевский Н. Заговоры как вид русской народной поэзии. С. 28.
[2] Блок А. Поэзия заговоров и заклинаний // Собр. соч.: В 6 т. М., 1971. Т. 5. С. 31—59.

абыякавым у эстэтычных адносінах»[3]. Непадзельнасць гэтых паняццяў ва ўяўленнях старажытных людзей А. Блок тлумачыць спосабам мыслення, у аснове якога ўспрыняцце свету як адзінага і цэльнага, поўнае суладдзе з прыродай. «У першабытнай душы — карыснасць і прыгажосць займаюць аднолькава пачэсныя месцы. Яны знаходзяцца ў адзінстве і згодзе паміж сабою; саюз іх можна вызначыць словамі: прыгожае — карысна, карыснае — прыгожа. Гэта і ёсць адзіны сапраўдны саюз». Такі саюз захаваўся, на думку паэта, толькі ва ўсведамленні народа, які «наіўна, з нашага пункту погляду, здзяйсняе магічныя абрады, аднолькава замаўляе зубны боль і нуду, поспех у гандлі і каханне»[4]. Адсюль і адносіны старадаўніх людзей да замовы, да здзяйснення абрадаў, да заклінальнага слова як да праяўлення вялікай таямнічай сілы, здольнай замацаваць ці парушыць усеабдымныя сувязі адзінай магутнай прыроды. Паэт слушна вызначае месца і ролю замовы ў жыцці чалавека: «Для яго (народа.— *Г. Б.*) замова не рэцэпт, а запаведзь, не дагматычная і станоўчая парада лекара, прапаведніка, свяшчэнніка, а таямнічае ўказанне самой прыроды, як паводзіць, каб дасягнуць мэты; гэта жаданне не такое назойлівае, шэрае і паспешлівае, як наша жаданне вылечыцца ад зубнога болю, ад жабы, ад ячменю; для простага чалавека яно ўрачыстае, яркае і ачышчальнае; гэта — абрадавае жаданне; для нас — хвароба і ўсякая жыцейская практыка адыгрываюць службовую ролю; для простай душы свяшчэнныя — і сам працэс лячэння, і клопаты пра ўраджай, пра пячэнне хлеба, пра рыбную лоўлю»[5].

---

[3] Блок А. Поэзия заговоров и заклинаний. С. 45.
[4] Там жа. С. 45—46.
[5] Там жа. С. 46.

Так здзяйсняецца супадзенне прыгажосці з карыснасцю. «Першабытная гармонія ўзгадняе... словы і справы; словы становяцца дзействам» [6].

Надзвычайная вобразнасць замоў тлумачыцца яшчэ і іх старадаўнасцю: у іх шматслоўі, нагнятанні паясняльных слоў, багацці эпітэтаў адлюстраваліся асаблівасці сувязей мовы і думкі ў першабытнай даўніне, калі чалавек не ўмеў мысліць абстрактна, калі яго слова — канкрэтны малюнак. Менавіта словы-малюнкі адпавядалі мэце ўсвядоміць і перадаць «таямнічыя ўказанні прыроды», так неабходныя чалавеку ў яго тагачасным жыцці. Канкрэтнае разуменне свету выліваецца ў канкрэтнае вобразнае мысленне, а яно нараджае такія сродкі выяўлення свайго ўспрыняцця, якія мы называем мастацкімі, паэтычнымі сродкамі выразнасці.

Што замовы з'яўляюцца найстаражытнейшым відам народнай паэзіі, не выклікае зараз сумнення і пярэчання, як і тое, што гэта не адзіны ў старажытнасці від. Але што ім папярэднічала, што ўтваралася і развівалася паралельна, што, у сваю чаргу, ўзнікла на іх глебе? Гэты комплекс пытанняў пакуль не вырашаўся і прама бадай што не ставіўся. Толькі М. Пазнанскі паставіў пытанне пра месца замовы ў шэрагу іншых відаў народнай творчасці. Менавіта ў замове ён знаходзіць пачаткі розных відаў паэтычнага мастацтва [7]. Многія даследчыкі праводзілі аналогіі паміж замовамі і іншымі жанрамі. Мы ўжо адзначалі шматлікія прыклады сыходжанняў замоў і абрадавай, менавіта купальскай, песні. Пра генетычныя сувязі замоў і казак пісала А. М. Еляонская [8], значэнне загаворных формул для

[6] Блок А. Поэзия заговоров и заклинаний. С. 46—47.
[7] Гл.: Познанский Н. Заговоры. С. 4.
[8] Елеонская Е. Некоторые замечания по поводу сложения сказок: Заговорная формула в сказке.

казачнай стэрэатыпіі адзначала І. А. Разумава[9]. На падабенства загадак з замовамі звяртаў увагу Н. С. Гілевіч[10], які адзначаў у загадках не толькі традыцыйныя вобразы замоў, іх спецыфічныя рытм і інтанацыю, але і перайманне нехарактэрнай для загадак формулы магічнага «замыкання». Пытанне пра адносіны замоў да песень, у першую чаргу вясельных і лірычных, а таксама каляндарна-абрадавай паэзіі, закранае В. П. Пятроў[11]. У прыватнасці, ён даводзіць, як замоўная формула «касмічнай агароджы» ў песнях набывала сэнс «касмічнага ўпрыгожання».

Канешне, пры супастаўленні замоў з творамі іншых жанраў нельга ўсё зводзіць да аднабаковага працэсу — маўляў, паэтычныя віды, вобразы, сродкі выразнасці ў сваіх вытоках мелі толькі замовы. Відаць, праблема гэта вельмі складаная. Складанасць яе яшчэ і ў самім прадмеце даследавання, тых узорах, якія бяруцца для параўнання. Усё гэта творы даволі позняй фіксацыі, на шляху свайго бытавання і перадачы з пакалення ў пакаленне яны, безумоўна, падвяргаліся зменам. Зараз цяжка бывае вызначыць, якія рысы спрадвечна належалі пэўнаму жанру або асобным творам, а якія з'явіліся ў працэсе паралельнага існавання. Калі ў замове ад гадзюкі, вужакі, сліўня гаворыцца пра кару гадам, што здзейсніць Кузьма-Дзям'ян або Міхаіл-архангел («возьмець ён булатную меч, булатны нож, пасячэць ваша мяса, патаркаець па тычынах»), то гэты матыў, які шырока вар'іруецца ў замовах і

---

[9] Разумова И. А. Повествовательный стереотип в русской волшебной сказке: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1984.

[10] Гл.: Гілевіч Н. С. Паэтыка беларускіх загадак. Мн., 1976. С. 52—53.

[11] Петров В. П. Заговоры. С. 118—122.

набывае формульнасць, можна лічыць спаконвечным, бо ён грунтуецца на ўласцівым замоўнаму рытуалу дзеянні; іншыя ж агульныя матывы або вобразы (скажам, 12 малайцоў па пояс у золаце, ногі ў серабры) выклікаюць сумненні ў іх генетычнай прыналежнасці, а некаторыя сведчаць пра запазычанасць замовамі з іншых жанраў. Напрыклад, у замове ад крывацёку формула: «Стаіць хатка на курынай ножцы. У той хатцы бабка хлеб запякала, рабу божаму (імя) кроў замаўляла» (8-78-150, Кабашнікаў) — уяўляецца запазычанай з казкі, хаця і тут няма поўнай упэўненасці ў гэтым, як у наступнай рускай замове, дзе запазычанне відавочнае: «В цистом поли зелен сат, и в этом саду много садоф и виноградоф, и в этом саду ходит петушок, золотой грибишок, маслена головушка, шолкова бородушка и крылье золоты, перушка серебряны...» [12] Гэтыя прыклады яшчэ раз паказваюць, што неабходны грунтоўныя даследаванні на ўзроўні асобных жанраў для пэўных вывадаў. Але папярэдне можна меркаваць, што на ранніх ступенях развіцця першабытнага мастацтва, для якога характэрны сінкрэтызм, існавала пэўнае кола паэтычных вобразаў, найбольш тыповых для старажытных форм мастацтва, якія жывілі розныя творы народнай паэзіі. Многія вобразы, мастацкія сродкі, прыёмы стварэння мастацкіх форм, абавязаны таму спосабу мыслення, які найбольш поўна і, відаць, найбольш рана па часе ўзнікнення выявіўся ў замовах як надзвычай яркім праяўленні магічна-практычнай дзейнасці людзей.

Кожная замова, кожнае заклінанне заключаюць у сабе нейкае пажаданне, выказаную словам неабходнасць здабыць нешта канкрэтнае, вельмі патрэб-

---

[12] Познанский Н. Заговоры. С. 262.

нае чалавеку, або збавіцца ад таго, што ўяўляецца яму варожым, шкодным. Якія б азначэнні ні даваліся замовам, момант пажадання падразумяваецца ў іх абавязкова. Гэта пажаданне, дакладней, жаданы вынік — галоўны сэнс кожнага твора, тое ядро, вакол якога канцэнтруюцца і магічны тэкст, і ўвесь магічны рытуал, а яны, у сваю чаргу, могуць мець розныя формы. Напрыклад, дыялог-рытуал (паводле азначэння М. І. Талстога [13]) як кампанент абраду або самастойны абрад выконваў магічную функцыю (прадуцыравальная магія) — забеспячэнне жаданага выніку. Прывядзём некалькі прыкладаў. У час вячэры на куццю на стол ставілася як мага болей ежы, каб за ёй не было відаць гаспадара. Галоўнае значэнне тут надавалася дыялогу:

— Ці бачыш ты мяне?

— Не, не бачу!

— Каб жа ты не бачыў за сталамі, за капамі, за вазамі, за снапамі свету! [14]

Сутнасць рытуалу адлюстроўвае заключная формула-пажаданне. Гэта прыклад карпаганічнага дыялогу-рытуалу.

Дыялог-рытуал ахоўнага засцерагальнага характару, які выконваўся пры першым выгане жывёлы, мог афармляцца як масавае дзейства, з даволі ярка выяўленымі драматычнымі элементамі. Удзельнікі яго выконвалі прадпісаныя абрадам ролі: хто быў зайцам, хто калодай, сляпым, крывым і г. д. Дыялог-рытуал адбываўся «каля вечара (на Юр'я), калі пастухі раскладуць у полі агонь, спрагуць яешню, збяруць жывяціну ў кучу. Адзін возьмець яешню ў рукі (зразумела, са скавародкай ці

---

[13] Гл.: Толстой Н. И. Фрагмент славянского язычества: архаический ритуал-диалог // Славянский и балканский фольклор. М., 1984.

[14] Шейн П. В. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 47.

гаршком) і абыдзець каля ската, а за ім ідуць выбраныя: нехта зайцам, хто крывым, хто сляпым, хто калодай, а хто кукушкай. Хто нясець яешню, пытаецца:

— Заяц, заяц, ці горка асінка?

— Горка.

— Няхай жа наша скацінка так будзіць горка ваўку.

Тагды пытаіць:

— Крывы, крывы! Ці дойдзіш ты?

— Не, не дайду, ні віжу!

— Няхай жа воўк ня відзіць нашай скаціны.

— Калода, калода! Ці павернішся ты?

— Не, ні павярнуся.

— Няхай жа воўк не павернецца да нашай скаціны.

А то яшчэ пытаіць:

— Калода, калода! Ці гніла ты?

— Гніла.

— Няхай жа ў воўка зубы будуць гнілы.

Тагды кажыць:

— Кукушка, кукушка! Прыкукуй нашу скаціну, штоб яна ні разбягалась.

— Прыкукую.

Абышоўшы кароў, сядуць каля агню, з'ядуць яешню, да й возьмуць падмахіваць ложкі ўгору і кажуць:

— Штоб наша скацінка так у гору скакала» [15].

Той жа прынцып: пытанне (або пытанні) — адказ — пажаданне мы бачым і ў лекавых замовах. Тыповая замова ад зубнога болю:

— Маладзік, маладзік, дзе ты быў?

— У Вадама!

— Ці былі людзі ў Вадама?

---

[15] Шейн П. В. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 169.

— Былі!
— Шчо яны ядзяць?
— Камянь!
— Ці баляць у іх зубы?
— Не баляць!
— Няхай у раба божага Грышкі не баляць (Рам., 81, 159).

Зараз гэту замову прамаўляе адзін заклінальнік, але трэба меркаваць, што некалі яна разыгрывалася як сцэнка. На гэта ўказвае выкананне іншых замоў. Напрыклад, «сухоты запекваюць» абавязкова некалькі чалавек: адзін выходзіць у сенцы, другі з хворым дзіцем у хаце. Паміж імі такі дыялог (пачынае той, хто ў сенцах):

— Добры вечор!
— Здороў!
— Што ты робіш?
— Сухоту запекаю!

А тэй ужо казаціме:

— Запекай не на раз, штоб не напала ў другі раз.

Да дзіця подніме под комін (8-82-203, Цяпкова).

Пры лячэнні ў дзіцяці пярэпалахаў цікавы варыянт зафіксаваў М. Федароўскі: «Калі ў дзіцяці пярэпалахі, то адразу можна пазнаць, бо жыватох вялікі будзе. Так зараз трэба ўзяць на заходзе сонца прынесці вады, не аглядаючыся, і паставіць пры агні, каб грэлася. Затым узяць сіта, насыпаць попелу, перавярнуць лапату другім бокам і перасейваць попел над лапатай. Адна трэба каб перасейвала, другая — каб дзіця трымала блізка, а трэцяя — каб пашла ў сені і пытала:

— Што перасейваеш?
— Пярэпалахі!
— Перасейвай, перасейвай, каб ніколі не было:

ці яны конскія, ці сабачыя, ці кашачыя, ці чалавечыя» [16].

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, замоўныя дыялогі спалучаюцца з абрадава-заклінальнымі рытуаламі. Слова і дзеянне ў іх узаемазвязаны, дапаўняюць і тлумачаць адно другое. Магчымасць дасягнуць выказанага пажадання падтрымліваецца верай у дастатковасць яго параўнання з вядомым і надзейным фактарам: як горкая асінка, каб так жывацінка была горкай ваўку; як не відзен гаспадар за ежай, каб былі высокі стагі, копы і г. д.; як не баляць у мёртвых зубы, так каб не балелі яны і ў таго, каго лечаць. Тут у сувязь ставіцца вынік і прычына, а дакладней, вынік ставіцца ў сувязь не абавязкова з прычынай, а з тым, што ўяўляецца прычынай. Наіўна, памылкова? У многіх выпадках — так. Але ж гэта першы крок да адкрыцця сапраўдных сувязей, першы крок на шляху да пазнання аб'ектыўных заканамернасцей. Вучоныя лічаць магчымым супастаўляць магію з навукай. «І тую і другую аб'ядноўвае агульная мэта — пазнанне заканамернасцей быцця, якое дае сродкі на ўздзеянне на прыроду (у шырокім разуменні) і для дасягнення жаданых вынікаў. У гэтым сэнсе і магія і навука — дзве розныя стратэгіі паводзін чалавека перад тварам прыроды. Але калі магія заснавана на глабальным дэтэрмінізме (г. зн. на такім разуменні структуры свету, калі ўсё можа быць прычынай усяго і, значыць, дапускае ўсеагульную ўзаемасувязь як асноўны прынцып) без вылучэння пераважных сувязей, то навука імкнецца сярод усіх магчымых або дапусцімых сувязей вылучыць асноўныя, вызначальныя, якія можна праверыць» [17].

---

[16] Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T. 1. C. 397. N 2418.

[17] Елизаренкова Т. Я. Об Атхарваведе. С. 22.

Агульнае ў магіі і навуцы яшчэ і ў прыёме пазнання рэчаіснасці. Гэты прыём — параўнанне, якое, дарэчы, першы крок і ў мастацкім пазнанні рэчаіснасці. «Галоўны рычаг, якім здзяйсняюцца самыя цяжкія павароты і пад'ёмы ў думцы чалавечай...— параўнанне... Але параўнанне — гэта зброя далёка не першаснай думкі, а той, якая прайшла доўгае выпрабаванне, думкі выпрацаванай, забяспечанай значнай дозай аналізу» [18].

Параўнанне як асноўны прыём мыслення прайшло доўгі шлях у развіцці і натуральна не з'яўляецца аднародным. Спачатку простае супастаўленне, потым устанаўленне адрозненняў і адпаведны вывад. Як мастацкі прыём яно з'явілася папярэднікам вобразнага паралелізму, метафары. Падрабязны аналіз гэтага прыёму думкі, яго сутнасць і развіццё даў А. М. Весялоўскі ў спецыяльнай працы (1898) [19]. Вучоны звяртаў увагу на галоўны элемент, які браўся ў аснову супастаўлення. Найбольш ранняй катэгорыяй супастаўлення ён лічыў супастаўленне па катэгорыі руху, дзеяння як прыкметы валявой дзейнасці.

У замовах параўнанне займае вельмі вялікае месца, яно з'яўляецца бадай што самым распаўсюджаным прыёмам, што дало падставу некаторым вучоным лічыць яго вызначальнай прыкметай замовы. Прыгадаем, што А. А. Патабня вызначаў замову як слоўнае адлюстраванне параўнання дадзенай з'явы з жаданай — параўнанне, якое мае на мэце здзейсніць гэта жаданае. Гэта думка знайшла крытыку ў многіх даследчыкаў, якія слушна даводзілі, што ўсю разнастайнасць замоў нельга ўціснуць у

[18] Ветухов А. Заговоры, заклинания, обереги... С. 107.
[19] Веселовский А. Н. Психологический параллелизм и его формы в отражении поэтического стиля // Историческая поэтика. Л., 1940. С. 125—199.

такое «прокрустово ложе». Але вельмі праўдападобным уяўляецца меркаванне, што першасныя замовы якраз і былі прасцейшымі параўнаннямі. Успомнім абрадавыя заклінанні, абрадавыя заклінальныя песні, прыгаворы, праклёны.

Самыя простыя параўнанні ўтвараюць формулу *як — так:* «Як патухаяць і ўлягаяць зоры раньнія і вячэрнія, так патухай, улягай зьвіх і пабой, вопух і ядрасць...» (Рам., 73, 115).

Вялікая колькасць параўнанняў у замовах вымагае пэўнай сістэматызацыі і класіфікацыі. Іх можна групаваць па наяўнасці злучальных слоў. Акрамя параўнанняў з дапамогай слоў *як — так* (іх большасць) вылучаецца група замоў без іх. У такіх выпадках жаданы вынік, як правіла, малюецца як ужо здзейснены: «Ішоў Бог Сус Хрыстос цераз залаты мост. Масьніца праламілася, у раба божага Сямёнькі ўрокі адваліліся» (Рам., 21, 58); «Ішла святая Прачыстая матка Хрыстова гарою, нясла ваду дугою. Дуга, разагніся, вада разальліся! Дуга разагнулась, вада разлілася, а ў раба божага кроў сунялася, печаной запяклася» (Рам., 66, 70); «Ішло тры панны, няслі глёк вады; глёк разбіўся, вада разлілася, у раба божага кроў унялася» (Рам., 68, 84); «Хадзіў Бог па шаўковай траве, па зямчужнай расе, залатою трасьціною папіраўся. Залатая трасьціна пераламілась, у зьмяі жала прыламілась» (Рам., 185, 106).

Ёсць выпадкі, калі параўнанне толькі падразумяваецца, як, напрыклад, у паляўнічай замове са зборніка Е. Р. Раманава: «На моры на лукамор'і стаіць дуб (явар) мамрыські; пад тым дубам ляжыць белы камянь; на белам камяні стаіць прастол; на прастолі Сус Хрыстос сядзіць, залатою трасьціною апіраецца і срэбраным мечам намяраецца на дзядоў-чараўнікоў і на баб-чараўніц, штоб

маго ружжа ня нялі і ня паднялі. Етае ружжо мае праходзя скрозь сонца і месяц і звёзды. Хто яго йме, ня можа яго ўзяць і падняць» (Рам., 49, 182). Параўнанне ў замовах звычайна праводзіцца з такімі прадметамі, з'явамі, магутнасць або заканамернасць дзеянняў якіх не выклікаюць сумнення. Гэта ў першую чаргу сонца, зоркі, пярун і маланка, агонь: «Як яснаму месяцу із неба не схадзіць, так ра́бе божаму таму ліха ня мець, і ўрокаў, і прырокаў...» (Рам., 20, 55); «Як сонейка за хмару заходзіць, каб так (імя) урок і падзіў праходзіў» (8-77-131, Барташэвіч); «... як ніхто ня моэць уняць ні грома, ні молніі, ні вострай стралы, так ніхто ня моэць уняць мяне раба божага стралца і мае ружыны-ружніцы і булата, зялеза...» (Рам., 49, 183); «Як агонь коціцца, так ад Тані ведзьма вароціцца; як пуля з ружжа вон, так у ведзьмі душа з касцей вон...» (8-79-172, Цяпкова).

Параўнанні-паралелі праводзяцца ў замовах з усім навакольным матэрыяльным светам, куды ўваходзяць жывёлы, дрэвы, расліны, а таксама з біблейскімі вобразамі. Вось некаторыя прыклады: «Як чорнаю кароваю па мору не араці, чорным катом не баранаваці, жоўтым пяском не сеяці, у жоўтым пяску каласку не бываці, так ліхім людзям яго здароўечко не ўцінаці» (8-75-94, Салавей. «Ад прымаўкі»). Тут мы бачым разгорнутае параўнанне, якое стварае малюнак, напоўнены бытавымі дэталямі. З такіх параўнанняў развіліся формулы немагчымага, якія шырока вядомы познетрадыцыйным лірычным песням і баладам. Такія ж разгорнутыя паралелі і з аб'ектамі са свету раслін, а таксама ў замовах з хрысціянізаванымі персанажамі: «Як етаму дрэву на пні ня стаяці, і расой ня прападаці, і ад ветру ня шатаці, і ад сонца ня зяці, так рабу божаму ні зьвіху ні пабою ня знаці, у

гарачай крыве і ў жоўтай касьце, і ў жылах, і ў суставах» (Рам., 73, 115); «Як ангалі на небесі пелі, радаваліся, весяліліся васкрасенію Гасподню, каб так раба божыя пчолы радаваліся і весяліліся...» (Рам., 156, 68). Нанізванне варыянтаў параўнанняў, якое павінна ўзмацніць дзейнасць, сілу замовы, з мастацкага боку расквечвае яе, паказвае шырокія магчымасці гэтага прыёму.

Разнавіднасцю параўнанняў можна лічыць адмоўныя: «Быў я ў матушкі сорак нядзель, ня відаў я ні божжаго свету, ні прасовага парэзу, ні тапорнага замаху, ні краснага сонца, ні яснага месяца. Злато залатое, сэрца маё, сцень медзяны, душысь. Амін» (Рам., 4, 10); «Ішоў пан Езус дарожкай, нікога не спаткаў: ні псоў, ні ваўкоў, ні гадзюкаў, ні злых людзей. Пайду і я за ім па яго слядочках, па яго сцежачках, каб я нікога не спаткала» (8-2-56, Малаш. «Як у лес ідуць»). Некаторыя параўнанні па свайму характару вельмі блізкія да праклёнаў: «Як гразь чорна, так штоб і ён счарнеў, і схляў, і счах» (Рам., 134, 52).

Усе гэтыя прыклады паказваюць, што як бы ні вар'іраваліся параўнанні, якія б яны ні былі, кароткія ці разгорнутыя, адзінкавыя ці шматступенныя, іх функцыянальная роля ў замове не толькі ў выяўленні галоўнай думкі твора, выказванні пажадання, але і ў тым, што яны з'яўляюцца эстэтычна арганізуючым структурным элементам твора: гэта звычайна завяршальнае сцверджанне, пасля якога можа быць толькі закрэпка.

Як наогул для заклінанняў розных народаў, для беларускіх уласціва ўстойлівасць формы, наяўнасць стэрэатыпных прыёмаў і формул, з якіх яны складаюцца. Нездарма М. Пазнанскі сцвярджаў, што «ні ў адным з відаў народнай славеснасці не пануе ў такіх памерах шаблон, як у замовах. У гэ-

тых адносінах яны бліжэй за ўсё да былін. Большасць замоў створаны па аднойчы ўстаноўленай схеме пэўнымі прыёмамі»[20].

Тут варта гаварыць не столькі пра шаблон і знешнія прыёмы ўтварэння замоў як пра толькі ім уласцівую асаблівасць, колькі пра агульныя заканамернасці фальклору. Замовы не з'яўляюцца выключэннем з рада іншых відаў народнай паэтычнай творчасці. Пры ўсёй разнастайнасці мастацкага інструментарыя існуюць пэўныя прыёмы, характэрныя наогул для народнай паэзіі. Нават у такім разгалінаваным і шматслоўным відзе фальклору, як народная песня, на думку М. Г. Чарнышэўскага, «ёсць механічныя прыёмы, праглядваюць адзіныя спружыны, без дапамогі якіх ніколі не развіваюць яны сваіх тэм»[21]. Фармальная арганізацыя фальклорнага тэксту любога жанру, у тым ліку замовы, вынікае з самой прыроды фальклору. Гэта той неабходны пачатак, які робіць фальклорныя тэксты ўзорамі мастацтва, адрознівае іх ад іншых спосабаў і сродкаў асваення рэчаіснасці. У некаторай ступені мае рацыю М. Крушэўскі, калі піша, што «народныя творы не ўзнікаюць (возникают) у строгім сэнсе слова, а складаюцца (складываются)... Па той прычыне, што народныя творы не ствараюцца, а складаюцца, у іх, як і ў музычных творах, сустракаюцца пастаянна адны і тыя ж матывы, г. зн. стэрэатыпныя прыёмы, якія вар'іруюцца вельмі нязначна»[22].

На думку пра панаванне ў замовах шаблону

---

[20] Познанский Н. Заговоры. С. 74.

[21] Чернышевский Н. Г. Эстетические отношения искусства к действительности // Полн. собр. соч.: В 15 т. М., 1949. Т. 2. С. 38.

[22] Крушевский Н. Заговоры как вид русской народной поэзии. С. 21.

наводзіць перш за ўсё такая іх асаблівасць, як формульнасць. Мы бачылі, што наогул успрыняцце замовы як формулы стасуецца з азначэннем яе многімі вучонымі. Замовы па сваёй структуры параўнальна простыя, стабільнасць іх архітэктонікі падтрымліваецца ўжываннем кананічных прыёмаў, пастаянствам складовых элементаў. Я. Г. Кагараў, абапіраючыся на старажытнагрэчаскі і славянскі матэрыял, у тым ліку рускі, паказаў, што ўсе структурныя элементы замоў ствараюць агульную формулу, якая ўключае зваротак, эпічную частку, лірычную, містычныя імёны і заключныя словы. У сваю чаргу, эпічная частка можа ўключаць асобныя матывы і прыёмы (указанне на дзеянне, матыў пагрозы, матыў узнагароды дэману, прыём ганьбавання супрацiўніка, прыём узбуджэння спагады, спасылку на боскі аўтарытэт і г. д.). Гэтаксама і лірычная частка не аднародная, а распадаецца на складовыя звёны (простыя пажаданні ад трэцяй асобы, загад аб'екту заклінання, пажаданні ў форме параўнання або ўмовы, якую немагчыма выканаць, і г. д.) [23]. Фактычна гэта схема пры некаторай расплывістасці асобных момантаў даволі поўна ахоплівае магчымыя варыянты структуры замоўных твораў (зразумела, не абавязкова з усімі вылучанымі кампанентамі ў адным тэксце), а адзначаныя матывы і прыёмы, якія маюць дастаткова стабільны характар, у працэсе частага выкарыстання набываюць форму клішыраваных злучэнняў, якія пераходзяць з твора ў твор у нязменным выглядзе або з невялікімі адхіленнямі ў залежнасці ад мясцовай традыцыі ці індывідуальных схільнасцей заклінальніка.

---

[23] Гл.: Кагаров Е. Г. Словесные элементы обряда // Из истории русской советской фольклористики. Л., 1981. С. 73.

Найбольшай стабільнасцю вылучаюцца пачатковыя і заключныя формулы. Мы не гаворым пра малітвы, якія папярэднічалі зачынам замоў (таксама даніна хрысціянскай традыцыі). Найбольш характэрны зачын: «Первым разам, добрым часам. Госпаду Богу памалюся і святой Прачыстай пакланюся, святому Міколі, Тройцы й Пакрові, і яснаму месяцу, правяднаму сонійку і частым звяздом, усёй святой сілі нябеснай» (Рам., 73, 115). Такі зачын вучоныя лічаць беларускім. Або: «Устану я, раб божы, раненька, умыюся бяленька, памалюсь Богу вярненько, выйду я на крутую гару, гляну я пад ясную зару» (Рам., 163, 23). Формулы-зачыны апісваюць таксама месца дзеяння: «На моры-акіяне, на востраве Буяні»; «На сінім моры, на беражочку, на жоўтым пясочку стаіць дуб зялёны...» Заключныя формулы, якія прынята называць закрэпкай, бываюць кароткія або разгорнутыя. Кароткая формула «любі мой лёгкі дух» можа дапаўняцца і перарастаць у разгорнутую, напрыклад: «Ні сваімі думамі, а гасподнімі славамі, прылюбі мой душок ціхенькі, лягенькі, дай, госпадзі, на помач». Яшчэ варыянт заключнай формулы: «Я з славамі, бог з думамі,— як стала, так перастала» (тут зноў элемент параўнання). Такія формулы нясуць на сабе таксама адзнакі хрысціянізацыі. Існуюць і іншыя формулы, якія прасякнуты верай у матэрыяльнасць і сілу слова, слова, якое можна замкнуць і схаваць: «І етым маім добрым славам ключ і замок; замок замкну і ключ знясу ў акіян-мора пад латыр-камень, амін» (Рам., 152, 48; 8-78-150, Кабашнікаў).

Асноўная частка замоў (яе яшчэ называюць эпічнай, а Я. Кагараў уключае сюды і лірычны элемент), асабліва разгорнутых сюжэтна, можа ўключаць асобныя формулы або іх блокі, якія спа-

лучаюцца з апісаннем ці дыялогам. Некаторыя формулы ўласцівы творам адной функцыянальна-тэматычнай групы, іншыя ж больш універсальныя. Напрыклад, формула невыканальнай умовы (па тэрміналогіі Я. Кагарава) часта ўжываецца ў лекавых замовах ад зубнога болю, ад зубішча: «Месяц на небі, мядзьведзь у лесі, рыба на моры. Як ім у кучу не схадзіцца, за ’дным сталом не садзіцца, з адные́ чары віна ня піць, з адные́ чашы стравы ня есь,— так і Паўлюковым зубам ня балець» (Рам., 80, 156). Формула пераліку (злых сіл, хвароб, частак цела, з якіх хвароба выганяецца, і г. д.) — адна з універсальных формул, як і формула пагрозы і выгнання. Дарэчы сказаць, гэтыя функцыянальна абумоўленыя прыёмы замоў у песнях абрадавых і неабрадавых, у казках выступаюць і ўспрымаюцца як мастацкія тропы, як сродкі ўзмацнення эстэтычнай сутнасці вобраза, а не ўмова дасягнення утылітарнай мэты, як у замовах, хаця зараз адчуваецца і ў апошніх крэн у бок мастацкага ўспрыняцця.

Менавіта функцыянальная накіраванасць жанру замоў спрыяла таму, што многія матывы замацоўваліся ў выглядзе паэтычнай формулы. Безумоўна, нельга не бачыць розніцу паміж матывамі і формулай, не ўсе матывы адліваюцца ў стэрэатыпныя формулы, але заканамернасць такога працэсу выяўляецца пры аналізе вялікіх груп твораў. Спынімся, для прыкладу, на беларускіх замовах ад змей, якія ўяўляюць цікавасць як з пункту погляду выяўлення ў іх асаблівасцей светасузірання нашых продкаў, так і з боку формы, структуры іх, скіруем нашу ўвагу на такі ўзровень структуры, як матыў, і паспрабуем вызначыць яго суадносіны з замоўнай формулай.

Спробы аналізу замоўных матываў прадпрыма-

ліся амаль усімі даследчыкамі замоў, у большасці выпадкаў вылучаліся і вывучаліся найбольш характэрныя агульныя матывы. У апошнія гады з узросшым узроўнем параўнальна-гістарычнага моваведства і шырокім фронтам работ у галіне міфалогіі матывам у замовах як у плане агульнаіндаеўрапейскім, так і на прыкладзе канкрэтных твораў аднаго народа прысвечаны шэраг даследаванняў. Гэта ў першую чаргу праца У. М. Тапарова[24], у якой аналізуецца структура замоў ад чарвей і любоўных, а таксама М. І. Талстога[25], дзе разглядаецца шаснаццаць замоў рознага характару, запісаных на Беларускім Палессі.

У дачыненні да беларускага матэрыялу замоўныя матывы і формулы як адзін сярод іншых сродкаў выяўлення матыву разгледзім на прыкладзе замоў ад змей. Яны ўяўляюць дастаткова шматлікую групу твораў, зафіксаваных на ўсёй тэрыторыі рэспублікі ў мінулым і ў нашы дні. Пра дастатковую іх захаванасць сведчыць колькасць запісаў апошніх гадоў — 85 з 229 тэкстаў, уключаных у рукапіс чарговага тома БНТ. Усе гэтыя тэксты дазваляюць выявіць асноўныя элементы структуры замоў ад змей.

Замовы ад змей вылучае як разнастайнасць матываў, так і разнастайнасць камбінацый гэтых матываў, хаця ў саміх камбінацыях назіраецца пэўная заканамернасць, праследжваецца ўзаемасувязь і ўзаемаабумоўленасць асобных матываў або іх пучкоў. У большасці выпадкаў у замовах камбіну-

---

[24] Гл.: Топоров В. Н. К реконструкции индоевропейского ритуала и ритуально-поэтических формул. С. 9—43.
[25] Гл.: Толстой Н. И. Из наблюдений над полесскими заговорами // Славянский и балканский фольклор. М., 1986. С. 135—143.

ецца некалькі матываў. Некаторыя з іх складаюць дастаткова ўстойлівыя блокі з варыяцыямі асобных элементаў. Адносная стабільнасць камбінацый матываў дазваляе вылучыць структурна-семантычныя групы замоў ад змей зыходзячы з аналізу замоў як цэласных твораў, якія аб'ядноўваюць два асноўныя пачаткі: 1) сітуацыя замовы, што з'яўляецца прычынай адмоўнага стану; 2) ліквідацыя крыніцы такога стану.

Замовы ад змей па іх функцыі можна падзяліць на два тыпы: папераджальныя, або засцерагальныя, і лекавыя (апошнія шэпчуць у сувязі з ужо адбыўшымся дзеяннем). На жаль, папераджальныя замовы ці то з прычыны іх малой распаўсюджанасці, ці па іншых амаль не занатоўваліся збіральнікамі, таму не даюць дастаткова матэрыялу для абагульненняў. Адзінкавыя іх запісы ўяўляюць сабой кароткія прыгаворы-заклінанні, якія прамаўляюцца або пры ўваходзе ў лес, або пры сустрэчы з гадзінай. Гэта ў асноўным звароты да змяі (вужа) з просьбай або загадам, якія часам ускладняюцца пагрозай пакарання. Для ўзмацнення дзейнасці замовы ў яе ўключаецца апеляцыя да святога або да свята. Прывядзём некалькі прыкладаў: «Змяя Шыпуха, бойся майго духа да мелкай вады, поснай каляды» (13-2-13, Емяльянаў); «Святое Ражство ўпярод пашло, а ты, змяя, счуеш мяне, уцякай ад мяне» (8-74-92, Барташэвіч, Кабашнікаў); «Шкуляпея, чарапея, ня кусай майго грэшнага цела; бяжы за білы горад, лізні белага камяня, а тогды раба божага» (Рам., 111, 292). У апошнім выпадку яшчэ кідаюць палку або камень з прыгаворам: «Не я цябе б'ю, а б'е цябе святы панядзелак» (або іншы дзень, у які гаворыцца). Зварот з пагрозай пакарання збліжае засцерагальную замову з лекавай: «Уцякайце, вужы, уцякайце, гадзюкі, а то вазьму

войстры меч і буду рубіць галовы з плеч» (8-79-165, Барташэвіч, Барабанава).

Некаторыя прыгаворы маюць рысы падабенства з іншымі фальклорнымі жанрамі. Варта прыгадаць казачныя прапановы ведзьме ці змяі пралізаць жалезныя дзверы або формулу царскай пагрозы пакараннем («Мой меч — твая галава з плеч»), а таксама тыповыя для валачобных песень з пералікам гадавых свят клішэ («Святое Ражство ўпярод пайшло»).

Нягледзячы на сціласць, у асобных папераджальных замовах звароту да змей з загадам не шкодзіць папярэднічае матыў застрашвання, або, дакладней, матыў аховы, абароны пры дапамозе магутнай сілы — бога, святых, сакральнай атрыбутыкі. Напрыклад: «На гары-гарыне ды стаіць крэст, а на тым жа красце сядзіць Бог. А проці Госпада Бога плыве гад. Ах ты, гад, кінь свой яд» (8-75-96, Барташэвіч).

Лекавыя замовы маюць больш складаную структуру. Яны дастаткова разгорнуты сюжэтна. Як кароткія, так і разгорнутыя замовы ад змей маглі мець фармальны ўступ, часцей за ўсё малітоўнага характару. Такія ўступы звычайна не звязаны са зместам замовы і ў залежнасці ад мясцовай традыцыі або традыцыі знахара часта ўжываліся перад усімі замоўнымі творамі. Тыпова хрысціянізаваныя ўступы часам спалучаюцца са зваротамі да стыхій, прыроды: «Просім цябе, сонца краснае, месячка ясны, святых вясёлых звёзд і святога Івана Ксціцеля, каторы ксціў Ісуса Хрыста, і зямлю, і ваду, і ўсіх нас грэшных,— просім вас і кланяемся вам» (Рам., 116, 321). Некаторыя ўступы яўна кніжнага паходжання: «Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротасць яго» (Рам., 115, 313). Такія ўступы часам скажаюцца да абсурднасці.

У многіх беларускіх замовах ад змей, як і нагогул ад хвароб, сітуацыя, якая з'яўляецца прычынай адмоўнага стану (у нашым выпадку змяіны ўкус), не з'яўляецца прадметам апісання. Гэта дзеянне ў замове выступае як зададзенасць, якая патрабуе ўмяшання знешніх сіл (рэальных або фантастычных) для ліквідацыі яе вынікаў. У даволі рэдкіх выпадках у замовах або ставіцца пытанне, за што змяя ўкусіла пэўную асобу, або прама гэта канстатуецца: «Хадзіў куцы-буцы па лясам, па балотам, па шчырым барам, па жоўтым пяскам, яд пускаў рабу божаму Пятру» (8-73-69, Барташэвіч); «Ішоў Аўгуст па шырокай дарозі, узышоў на крыжавую дарогу; на крыжавой дарозі стаіць дуб, у тым дубу змяіны зуб — кусаў і рваў рабу божаму цела» (Рам., 119, 335); «Слівянь слівяністы, росучы, поўзучы, колозовісты, полозовісты, сляпы, нявідушчы, нашто ты етаго хрысцяніна покусаў, нашто ты яго обідзіў?» (Рам., 123, 352).

Крыніца адмоўнага стану (змяя і яе яд, «жалажыгала», «ятрасць», «ярасць») найбольш ярка выяўляецца ў двух пучках матываў — месцазнаходжанне змей і іх разнастайнасць. Месцазнаходжанне змей указваецца па-рознаму: а) прама ва ўступнай частцы замовы, б) ускосна пры пералічэнні розных відаў іх (палявыя, лесавыя, балотныя і г. д.). Прамое ўказанне ўяўляе сабой разгорнутую формулу, першы элемент якой абазначае адкрытую прастору, апошні — непасрэднае месцазнаходжанне. У якасці першага элемента фігуруюць мора, поле (часам поле+мора), гара (мора+гара, поле+гара), адзінкавыя выпадкі — «крыжавая дарога», «іржаное жнівішча», «кісойскае балота», мост.

Апошняе звяно — гняздо («гняздзейка залатое», «лапухова») або тры гнязды, руно (часцей за ўсё чорнае), камень (сіні, белы, латыр, алатыр,

алтыш), «кубел» («кубельца»), падушка або пярына (пухавая), куст (ліпавы, ракітавы), яйка, змяіны гроб. Як правіла, абавязковым элементам формулы з'яўляецца дрэва (або куст). Асноўныя варыянты яго — дуб (тры дубы, дванаццаць, трыдзевяць), яблыня, ігруша, ліпа, вярба: «У полі на моры стаіць куст, у тым кусце тры змяі, тры сястры» (Рам., 179, 82); «Ёсць у свеці сіня мора, на тым сінім моры ляжыць камень, на тым камні стаіць дуб, на тым дубі крываць, на той крываці пярына, на той пярыні ляжыць змія Кацярына і вуж Сіміён» (Рам., 115, 310); «На полі на кіяні стаіць дуб Ракітан, пад тым дубум куст ракітувы, а ў том кусьці ракітовым камора, а ў той каморы куст явору, а ў тому кусьці ў яворы гняздо, а ў том гняздзе яйцо, а ў том яйцы тры зьмяі» (Рам., 180, 88); «На шчыровым бару, на жоўтым пяску там ляжыць белы камень, пад тым камнем караваць цясовая, пярына пуховая; на тэй карваці цясовай, пярыні пуховай ляжыць секлітар, вужу — чэсны мужу» (Рам., 181, 90).

І зусім казкавы пачатак: «Дзесь-ня-дзесь, на моры, на лукамор'і стаіць явар, а на том явары гняздо, а ў том гняздзе голá (змяя)» (Рам., 122, 346).

Сітуацыя выяўляецца і праз такі распаўсюджаны ў замовах кампанент, як называнне змей (або пералік) з далейшым зваротам да іх. Называнне змяі (або змей) уваходзіць ужо ва ўступную формулу азначэння іх месцазнаходжання. Яно паўтараецца і ў звароце да яе (іх) з просьбай або загадам (формула звароту). Называнне змяі ў звароце можа быць пачаткам замовы. Характэрнай рысай такога прыёму з'яўляецца вылучэнне галоўнай (або галоўных) з пералікам усіх іншых. Галоўнай (старшай, нáбальшай) можа быць адна змяя

(«змяя-багатырка», Шкурапея), пара — цар і царыца (Скурапей і Скурапеіца), тры змяі (з уласнымі імёнамі), чатыры. Формуле пераліку астатніх змей часта папярэднічае іх агульная назва: слугі (часам дробныя), дзеці, чэр, госці, кумы, войска, «свой народ», сёстры, паўсёстры, брацця, пабрацімы, род і пакаленне, «хвамілія». Пералік змей надзвычай падрабязны. У ім змеі класіфікуюцца па розных адзнаках: па асяродку прабывання, па часе нараджэння, па колеру і г. д. Называнне галоўных змей ускладняецца матывам просьбы (або загаду), сутнасць якіх — уняць сваіх падначаленых, прымусіць іх забраць яд («жыгала», «ярасць»), зняць «вопух». Тут асабліва ярка праяўляюцца рэальная аснова, адлюстраванне навакольнага свету, назіральнасць, веды людзей: «На Ягіпецкім полі стаіць тры ябланы, на тых ябланах трыдзевяць каранёў, трыдзевяць какатоў, трыдзевяць вярхоў; на тых трыдзевяць каранях, на трыдзевяці какатах і трыдзевяці вярхах там зьмяінае гняздо; у том зьмяіным гняздзе зьмяя старшáя, бальшáя Галёна-Алёна. Што ты ляжыш, пралежаеш, свой гад па беламу свету распушчаеш? Устань, не ляжы, свой гад па беламу свету ўнімі, падстрэшных, і падпешных, і чаротных, і балотных, падколных, намоўных, нагаворных, і пamежных, земляных і вадзяных...» (Рам., 186, 112).

Другі пласт матываў звязаны з ліквідацыяй крыніцы адмоўнага стану. Пагроза пакараннем і абмалёўка пакарання складаюць функцыянальна абумоўленую неад'емную частку замоў. Гэта бадай што універсальны прыём замоў ад змей, і не толькі ад змей, свайго роду канструктыўны блок, які ўключае асобныя матывы. Многія з іх сталі агульнымі месцамі, адліліся ў сталыя формулы. Варта вылучыць формулы месца выгнання («на мхі, на

балоты, на ніцыя лозы...»), пералік частак цела, адкуль хвароба выганяецца («з буйныя галавы, і з ясных вачэй, і з чорных брывей, і з гаручыя крыві...»), формулы забароны («Вам тут не стаяць, косці не ламаць, крыві не псаваць і сэрца не сушыць»). Тут розная ступень актыўнасці, сілы ўздзеяння чалавека, валодання ім сітуацыяй. У сувязі з гэтым уяўляе цікавасць матыў уласнай сілы заклінальніка, які пагражае знішчыць, пакараць змей рознымі спосабамі («буду біць, калаціць жалезным прутам, твае косці ламаць», «я вас выведу на каменную гару, сонцам выпеку, дажджом вымыю»). Гэты матыў мае розныя варыянты: адлюстраванне рэальных дзеянняў заклінальніка і сімвалічных. Надзвычай распаўсюджаны зварот за дапамогай да цудоўнага памочніка (да святых імёнаў), перш за ўсё да св. Міхаіла-архістраціга («архаіма»), св. Юрыя-Ягорыя, св. Мікалая, Ісуса Хрыста, багародзіцы (маці Прачыстай), «Пяценкі», св. Іллі, Кузьмы-Дзям'яна.

Вар'іруюцца спосабы знішчэння змей, зброя, пры дапамозе якой ліквідуецца крыніца хваробы. Асноўныя з іх: пагроза знішчэння громам, маланкай, градам, перуновымі стрэламі; пагроза праклёну, пакарання сонцам, зоркамі, «болокамі», хмарамі (адной, трыма, пяццю; «камяною, мечавою, стралавою, дажджавою, агняною»); пагроза знішчыць на вогненнай рацэ, быстрай вадзе; у вогненнай печы, у кузні Кузьмы-Дзям'яна; пагроза страшным судом («праведным судом»). Найбольш ужывальныя ў замовах атрыбуты пакарання — меч (меч-самасеч, галавасеч), кап'ё, жалезны прут, «жэзл», «кнут», камяні, молаты і абцугі, асінавы кол, некаторыя расліны («колкая шупшына», «стрыкучая крапіва»). Многія з іх звязаны з павер'ямі, з уяўленнямі пра ўласцівасці жывой і нежывой пры-

роды. Відаць, можна гаварыць пра асобныя матывы, якія ўтвараюць формулу пагрозы. Як правіла, яна будуецца па схеме: не выканаеш мой загад (просьбу), пэўныя ўмовы — цябе спасцігне пакаранне (стыхіямі, самім заклінальнікам, цудоўнымі памочнікамі, рознымі прадметамі). У самой формуле могуць быць свае формульныя элементы, клішыраваныя часткі. Так, каб запалохаць змяю поўным знішчэннем, апісанне спосабу, атрыбутаў, выканаўцаў пакарання дапаўняецца формулай застрашвання, у якой пагроза не знайсці нідзе прытулку або быць знішчаным ушчэнт: «...нашлець на вас Гасподзь грамавую тучу, камяны бой,— ён вас нігдзе ня 'ставя: ні ў ямі, ні ў пячарах, ні ў дрэві, ні пад дрэвам, ні ў камяні, ні пад камяням» (Рам., 109, 283); «...возьмець ён войстры меч, то ссячэ вас, зрубая, у асінавы груд паскладая, па чыстаму полю попял распылая» (Рам., 109, 284).

Камбінацыя формул, паслядоўнае стэрэатыпнае злучэнне іх, нават нагнятанне з удакладненнем зместу, сэнсу характэрна не толькі для замоў ад змей, а для ўсіх іх відаў. Пры гэтым ёсць формулы, агульныя для ўсіх груп твораў, іншыя ж ужываюцца выбарча. Амаль універсальным характарам валодаюць формулы пераліку, формулы лекавай парады, формулы выгнання, якія ўскладняюцца матывамі задобрывання, застрашвання, адсылкай у лепшыя нібыта месцы. Спецыфічны арэал выкарыстання маюць формулы цудоўнага загароджвання (жалезным тынам) з варыянтам касмічнага (небам, сонцам, зоркамі), формулы праклёну, формулы немагчымага. Наяўнасць замоўных формул, зразумела, не вычэрпваецца прыведзеным пералікам, складанне каталога формул, паказальніка замоўных матываў павінна стаць тэмай спецыяльнага даследавання.

Адным з важных элементаў формул з'яўляюцца эпітэты. Як і параўнанне, паўторы і іншыя тропы, эпітэт, яго характар залежаць ад прызначанасці самой замовы. Для замоў характэрны так званы «скразны» эпітэт — адзін эпітэт да розных паняццяў, які настойліва паўтараецца, праходзіць праз увесь тэкст. П. Р. Багатыроў адносіць яго да паўтораў. Напрыклад, для замоў ад агню, пажару такім эпітэтам бывае прыметнік *чырвоны (красны)*: «Ехаў Косьтаньцін на красным кані ў красным жупані, у красных чоботах, у красных нагавіцах і ў краснай шапцы» (8-82-204, Барташэвіч). У замове ад урокаў карове, напрыклад, паўтараецца эпітэт *чорны*: «Ішоў чорны дзед чорною дорогаю, чорные постолы, чорные волокі, чорные нучы, чорные штаны, чорная рубашка, чорна світа, чорна папруга, чорна шапка. Нёс на плечэ сокеру. Стаў чорного дуба рубаці, сталі осколкі летаці» (8-85-229, Лозка). Такое нагнятанне пэўнай якасці надае вобразу большую выразнасць, яно абумоўлена імкненнем узмацніць сілу замовы. Наогул замовам уласцівы не толькі «скразны» эпітэт. У іх мы знаходзім прыклады і іншых відаў эпітэтаў, якія вылучаў А. М. Весялоўскі, у першую чаргу таўталагічных і паясняльных[26]. Таўталагічныя эпітэты ў замовах надзвычай разнастайныя і пашыраныя. Мэта іх — акцэнтацыя самага істотнага ў прадмеце, дзеянні або жывой істоце. Напрыклад, само слова *маладзік* азначае *малады месяц, месяц, які толькі нарадзіўся.* У замовах да яго даецца яшчэ азначэнне *малады, маладзенькі,* якое ў спалучэнні з наступным разгорнутым азначэннем стварае закончаны паэтычны вобраз: «Маладзік малады,

[26] Гл.: Веселовский А. Н. Поэтика // Собр. соч. СПб., 1913. Т. 1. С. 58.

князь залаты»; «Маладзік маладзенькі, твой ражок залаценькі»; гэта не проста месяц, да якога прызвычаіліся як да штодзённай з'явы, а адзначаны адметнасцю, незвычайны, таму ён і валодае неабходнай для жаданага выніку сілай. У замове на людскую любоў ужываюцца такія таўталагічныя вобразы: *старыя старухі, старыя старыкі, маладыя малайцы* (13-10-30, студэнты), што ўзмацняе вобраз, робіць яго ўсёабдымным. А які ёмісты вобраз ствараецца пры дапамозе наступнай таўталогіі: «... вымывай ты (рака Чарналутка) і *мокры макрэц,* і *гнілэй гнілец,* і *сухей сухец.* І *мокры макрэц* на ... раку, *сухей сухец* на *сухей* лес, *гнілэй гнілец* на *гнілую* калоду» (Рам., 194, 26). Асабліва часта таўталагічныя эпітэты сустракаюцца ў замовах ад скулы. Скула, якая на працягу свайго выспявання мяняе колер, памер і г. д., па розных прычынах бывае рознай якасці, па-рознаму і малюецца ў замовах. Як правіла, да яе даецца прыдатак *скулавіца,* часам яе называюць яшчэ і краснай дзявіцай. А якое мноства аднакарэнных таўталагічных эпітэтаў, утвораных пры дапамозе разнастайных суфіксаў: «Скула скулавіца, сіняя сінявіца, красная краснавіца... Вазьмі ты, чоран воран, скулу-скулавіцу, жоўту жаўтавіцу» (Рам., 94, 222); «... і ўгаваруя ...скулу красную краснуху, сінюю сінюху, белую бялуху, жоўтую жаўтуху» (Рам., 89, 201); «скулу белую бялугу, красную краснюгу, сінюю сінюгу, жоўтую жаўтугу» (Рам., 166, 36); «красную краснавіцу, колкую калкавіцу, чорную чарнавіцу, бурую буравіцу, белую белавіцу, каўтун каўтуньніцу...» (Рам., 92, 213). Адны і тыя ж прыметнікі, а такое багацце адценняў. Канкрэтнасць адлюстравання, звязаная з натуралістычна-дакладнай характарыстыкай, вымагалася мэтай замоў — назваць галоўнае ў прадмеце або з'яве, паказаць на непа-

срэдны аб'ект ва ўсёй сукупнасці яго істотных асаблівасцей. Такая канкрэтнасць уласціва творам заклінальнага характару, у якіх, па ўяўленнях нашых продкаў, ад дакладнасці і выразнасці слова залежала сіла іх уздзеяння. Таму так неабходны былі паўторы, таму так вар'іраваліся вызначальныя характарыстыкі. Прывядзём яшчэ адзін прыклад азначальных утварэнняў, а таксама эпітэтаў-прыдаткаў у доўгіх спісах пералічэнняў відаў скулы: «Скула-скуліца, красна краснавіца, бела бяліца, сіня сініца, чорна чарніца, рожа разавіца, скула ніца, скула-камяніца, скула-муравіца, скула-пляснівіца, скула-паўзуха, скула-залатуха, скула-ангіна, скула-нежыперсніца...» (8-81-182, Барташэвіч).

Гаворачы пра таўталагічныя эпітэты ў лірычнай песні, Н. С. Гілевіч зазначае, што «цяжка вытлумачыць, у чым сакрэт таго, што, скажам, *пара́ парава́я* або *піва піўное* не робяць уражання «масла масленага». Відаць, уся справа ў адчуванні слова, у здольнасці ўлоўліваць яго тонкія семантычныя і эўфанічныя адценні. А гэта ў вышэйшай ступені ўласціва народу-моватворцу» [27]. Менавіта такое адчуванне слова з найвялікшай сілай праяўляецца ў замовах.

Варта звярнуць увагу на багацце суфіксальных утварэнняў. У прыведзеных прыкладах мы бачым, як ад аднаго і таго ж прыметніка, напрыклад *белы, сіні, жоўты,* утвараюцца розныя словы, кожны раз са сваёй нюансіроўкай, што надае замовам няўлоўна адметны, але заўсёды дзіўны, паэтычны фон: сіня сінявіца, жоўта жаўтавіца; сіняя сінюха, жоўтая жаўтуха, белая бялуха; сіняя сінюга, белая бя-

---

[27] Гілевіч Н. С. Паэтыка беларускай народнай лірыкі. Мн., 1975. С. 17.

люга; бела бяліца, сіня сініца і г. д. У дачыненні да хваробы характарыстычныя азначэнні ствараюцца пры дапамозе суфіксальных словаўтварэнняў. Асабліва часта гэта словы з суфіксам -ішч/-ышч. З аднаго боку, такія словы надаюць з'яве ці прадмету, стану чалавека гіпербалічны характар, з другога — тут адценне варожасці, пагарды, наўмыснае прыніжэнне. Гэта таксама абумоўлена прызначанасцю замоў: я выказваю свае пагардлівыя, негатыўныя адносіны, скажам, да хваробы, значыць, я не баюся яе, я здольны яе перамагчы: «Чума-чумішча, ведзьма-ведзьмішча, ... пайдзі ты на мхі, на балоты, на сухі лес, на чортаву люльку» (Рам., 143, 22); «Урок-урачышчэ, ідзі на цяплішчэ» (8-84-224, Барташэвіч). У такой жа форме ўжываюцца і іншыя словы, якія абазначаюць месца знаходжання хваробы або месца яе ссылання: «Параходзішча, параходзішча, ня хадзі па жывацішчу...» (Рам., 11, 28); «Бег ваўчок-ваўчышча, разінуў рацішча. Ты, ваўчок-ваўчышча, бяры Івана начышча, нясі сваім дзеткам» (13-3-30, Русіновіч); «За сінімі марамі, за крутымі гарамі стаіць дуб-какацішча, міз тых какацішчаў гнязьдзішча, у том гнязьдзішчы цар лішышча, цар грызішча...» (Рам., 193, 25) і інш. Разнастайнасць суфіксальных словаўтварэнняў сведчыць на карысць пачуццёвага ўспрыняцця замоў, менавіта з дапамогай суфіксаў адны і тыя ж словы ў розных творах па-рознаму раскрываюць уласцівую ім індывідуальнасць, адметнасць і тым самым робяць твор эстэтычна дасканалым. Гэта пацвярджаецца шматлікімі прыкладамі: «... грызьгрызяўка, паганая казяўка» (8-73-74, Кушнарэнка); «Красушнік, сухотнік, ламотнік, пякотнік, не хадзі, не крышы» (8-79-172, Цяпкова); «Выказую, выгаварую пужання, зляканння» (8-78-144, Барташэвіч); «Ідзі ты, крыксівіца, ідзі ты, плаксівіца, ідзі

ты, несонота, ідзі ты, недрэмота... За горою крэменою бегла рэчка трэскуча, піскуча, лескуча...» (8-82-203, Цяпкова). Такія вызначэнні выконваюць не толькі эмацыянальна-ацэначную функцыю, што надае творам своеасаблівую афарбоўку, паэтычнасць. Яны прыцягваюць увагу незвычайнасцю і таму ўсяляюць веру ў надзвычайныя магчымасці слова. Акрамя іх утылітарнай ролі — як мага лепей выявіць прызначанасць замоў, тут і ўласцівая спрадвеку любоў чалавека да прыгожага, трапнага, дакладнага слова. Абсалютна меў рацыю А. М. Весялоўскі, калі пісаў пра сілу народнай фантазіі: «У казцы, песні, замове не ўсё мае міфічны сэнс (дададзім — і магічны.— *Г. Б.*); многія падрабязнасці, эпізадычныя ўстаўкі, паўторы і агульныя месцы, якія перапаўняюць творы такога роду, могуць быць вытлумачаны выключна той сілай фантазіі, якая творыць дзеля самой творчасці, без усякага дачынення да развіцця затоенай унутры міфічнай асновы». І далей: «Выпушчана з віду тая пластычная сіла, якая творыць у казцы, песні, легендзе, не столькі развіваючы іх унутраны змест... колькі іх чыста фармальны бок»[28]. Гэта як нельга лепей дапасуецца і да слоўна-паэтычнага выяўлення замоў.

Мноства эпітэтаў у замовах маюць характар паясняльных (па вызначэнню А. М. Весялоўскага). Іх можна назваць яшчэ аб'ектыўнымі ў адрозненне ад метафарычных. Яны падкрэсліваюць якую-небудзь адну якасць, што з'яўляецца ў дадзеным выпадку галоўнай, і выконваюць у асноўным апісальна-выяўленчую функцыю. Гэта выяўленне канкрэтнай якасці, найбольш характэрнай таму паняццю, да якога яны адносяцца. Так, вада, якая павінна

---

[28] Веселовский А. Н. Собр. соч. М.; Л., 1933. Т. 16. С. 9.

змыць хваробу, вымывала *крутыя* берагі, *жоўтыя* пяскі, *сырое* карэнне, *белае* каменне, *чорнае* краменне. А хваробу яна павінна вымыць з *буйнай* галавы, з *жоўтага* мозгу, *рацівага* сэрца..., з *гаручай* крыві, з *цёплага* мяса. Тут усё надзвычай дакладна вызначана, кожная прыкмета настолькі важная менавіта для гэтага прадмета, што з'яўляецца неад'емнай, абавязковай. У замовах, а таксама ў іншых фальклорных творах многія эпітэты настолькі злучыліся з пэўнымі словамі, што сталі іх пастаяннымі спадарожнікамі — так званыя сталыя, або пастаянныя, эпітэты. Іх прысутнасць у замовах практычна абумоўлена. Яны садзейнічаюць якраз кансервацыі пэўных мастацкіх прыёмаў, уваходзяць як неабходная частка ў формулу, ствараюць пэўныя клішэ, якія свабодна і лёгка ўключаюцца ў розныя, блізкія па функцыі і накіраванасці творы. Г. М. Астахава вельмі слушна зазначала, што галоўная асаблівасць замоў у тым, што іх вобразнасць вынікае з моцнай унутранай абгрунтаванасці, іх з'яўленне абсалютна пераканальнае, у іх няма нічога выпадковага, не матываванага практычным прызначэннем [29]. Набор эпітэтаў, іх пераход разам з адпаведнымі паняццямі з твора ў твор таксама адносяцца да ліку тых з'яў, якія М. Пазнанскі вызначыў як шаблон. Да такіх эпітэтаў падыходзіць і назва, дадзеная А. М. Весялоўскім,— «акамяненні» [30], г. зн. эпітэт, які ўжываецца ўжо па звычцы («застыў да несвядомасці»), таму і робіць уражанне трафарэту, амаль не выклікаючы вобразнага ўяўлення. Да «акамяненняў» можна аднесці эпітэты, якія ўжываюцца ў формулах з пералікам

---

[29] Гл.: Астахова А. М. Художественный образ и мировоззренческий элемент в заговорах. С. 1.
[30] Веселовский А. Н. Поэтика. С. 69.

(накшталт «высылаю з касцей, з машчэй, з ясных вачэй, з буйнай галавы, з рацівага сэрца, з усіх жыл», або ў формулах выгнання ў *цёмныя* лясы, у *шчырыя* бары, на *ніцыя* лозы, *гнілыя* балоты). І ўсё ж талент народа надае і гэтым «акамяненням» такую паэтычную сілу, так расстаўляе іх у творах, што яны ўспрымаюцца як узоры высокага мастацтва: «За сінім морам, за шчырым борам стаіць зялезны тын, пад тым тынам рассыпан чорны мак. Як таго маку ніхто не сабярэць, так раба божага ніхто не ўрачэць» (Рам., 147, 32). Да аднаго слова можа быць некалькі эпітэтаў: «Ішоў бог *бітаю* дарожкаю, *каранiстаю, крамяністаю.* Дзе дарожкі з небам сутыкаюцца, там удары мінаюцца» (8-77-130, Барташэвіч). У адной замове могуць спалучацца розныя эпітэты: «Лячэ-перэлячэ, у цебе воўчая голова, а колочаная борода, а конопляны ногі. А воўчую голову рошчую, а колочаную бороду урву, конопляные ногі паломлю, а цябе, лячэ-перэлячэ, з рабы божой Тамаркі зжэну. Ці ты собачы, ці ты коцячы, ці ты свіннячы, ці ты мужчыньські, ці ты дзявоцкі, ці ты порабоцкі, ці ты жыдоўські, ці ты попоўські, ці ты цыганьські. Я цебе ўговораю, я цебе ўмоўляю, да выйдзі ты з буйной головочкі, з карых вочок, з румяных губочок, робоцяшчых ручачак, з походзяшчых ножочок. Да выйдзі ты з жывоціка іе, і з сорок яе жылаў, і суставаў, і з белой косці, солодкого мяса, чырвоное крыві. Господзі Божэ, поможы» (8-82-204, Барташэвіч). Тут і эпітэты, якія паказваюць, адкуль паходзіць пэўная з'ява (у дадзеным выпадку ляк — хвароба) — *сабачы, кацячы, дзявоцкі* і г. д., і эпітэты, якія можна назваць метафарычнымі, бо абазначаюць прыкмету, якая перанесена з іншых прадметаў (*воўчая* галава, *канапляныя* ногі ў ляка). А якая трапнасць у эпітэтах, што характарызуюць прадмет па яго

дзеянню — *рабацяшчыя* ручачкі, *пахадзяшчыя* ножачкі.

Эпітэты ў замовах, як і іншыя стылістычныя сродкі, вельмі блізкія да такіх жа сродкаў іншых фалькларных жанраў, што тлумачыцца выкарыстаннем агульнага фонду народнай паэзіі.

Адсутнасць спецыяльнай касты заклінальнікаў і строгай забароны агульнага карыстання замовамі рабіла іх здабыткам многіх носьбітаў, не заўсёды вялікіх спецыялістаў. Е. Р. Раманаў з уласнага вопыту збірання гэтых твораў і зносін з заклінальнікамі засведчыў: «Колькасць знахароў на Беларусі надзвычай вялікая. Ніколькі не баюся памыліцца, кажучы, што там няма ні адной вёскі, якая не мела б свайго знахара ці знахаркі. Агромністая большасць іх, канешне, «ведзьмакі навучоныя», няшкодныя, якія ведаюць па адной, па дзве замовы ад адной-двух хвароб» [31]. Гэта адбілася і на мове замоў, іх лексіцы, якая разлічана на ўсе слаі грамадства і вылучаецца шырокай разнастайнасцю і багаццем. Побач з замовамі з развітай эпічнай часткай, з падрабязным апісаннем месца дзеяння, з многімі дзеючымі асобамі, са зваротамі да прыродных стыхій і святых імён існуюць (і іх мноства) кароткія творы, якія ў вельмі сціслай форме выказваюць просьбу, загад або пагрозу шкодным сілам. Але і ў разгорнутых сюжэтных замовах шмат бытавых замалёвак, этнаграфічных рэмінісцэнцый, мова іх набліжаецца да звычайнай гутарковай. Нават святыя, маці Прачыстая, сам бог паводзяць сябе, як простыя сяляне, і размова з імі ў замовах вядзецца, як з добрымі суседзямі:

«Хадзіла Галя па ржышчу, па мургавішчу, ска-

---

[31] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 5. С. VII.

лола свае ножкі і вочкі, ідзець і плача. Маць Прачыстая ідзець:

— Чаго ты, Галя, плачаш?

— Як жа мне, мамка Прачыстая, не плакаць? Хадзіла па ржышчу, па мургавішчу і скалола вочкі, і скалола ножкі, і звіхнула.

— Раба божая Галя, не плач, не рыдай. Едзя Юрай на сівым кані, за ім бяжыць тры харты. Адзін белы, другі серы, трэці чорны. Белы бяльмо зганяе, серы туску сцягувае, а чорны звіх вымае» (8-78-165, Барташэвіч, Барабанава).

Усё гранічна проста, зразумела, матка божая займаецца прывычнымі для простай сялянкі справамі, акрамя таго, што дае яшчэ «Господнюю благадаць». Хваробы або іншыя напасці часам параўноўваюцца з самымі звычайнымі рэчамі. У замове «ад чорнае балезні» хвароба ўяўляецца ў выглядзе птушкі: «Мужык верабей, жонка вераб'іха, дзеці вераб'яты, і сам выхадзі, дзяцей вывадзі...» (8-78-144, Барабанава). У замовах Хрыстос хадзіў па гарах і межах, «шатаўся, валяўся і звіху не баяўся» (Рам., 74, 126) і інш.

Уплыў кніжных заклінанняў, хрысціянскай царквы выявіўся не толькі ў пэўных зменах самога характару замоў (замест упэўненасці ва ўласных сілах — малітоўны зваротак да боскіх сіл), але і ў слоўным афармленні. З'яўляюцца царкоўная лексіка, біблейскія вобразы, часта вельмі далёкія і незразумелыя простым сялянам, якія механічна завучвалі такія творы з рознымі скажэннямі. Вось прыклад такой кніжнай замовы: «Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго і вялікую памяць яго. Судзяржаў цар Давыд ваду і зямлю, і нашы грэшныя душы, судзяржай жа нарядашную балезнь з такога-та раба божага. Міхайла-архангел, багатыр нябесны, пабіваў ён уражу сілу з ня-

бёс на сыру зямлю, каб так пабіў уражу сілу з такога-та чалавека. Святы Ягоры-беданосец і святы Міколушка-чудатворэц, і Спасіцель і Божжая мацер,— так, як вы прэждзе памагалі і нячыстую сілу выбівалі, і пользу давалі, так каб із естага чалавека нячыстую сілу пабілі. Памілуй мя, Божа, і г. д.» (Рам., 137, 2). Як правіла, такія творы не мелі шырокага распаўсюджання, іх лягчэй было знайсці перапісанымі на шматках паперы і захаванымі за бажніцу, чым у натуральным бытаванні.

У большасці выпадкаў хрысціянскія напластаванні кранулі не сам дух і сутнасць замовы, колькі асобныя фармальныя моманты. Так, у зачынах з'яўляецца рака Іардань, Сінайская гара, у якасці дзейных асоб уводзяцца хрысціянскія святыя, якія выконваюць той рытуал, што раней выконваў сам заклінальнік, або іншыя істоты, як, скажам, дзед стары, сівенькі, маленькі дзедзька (мудры родавы старэйшына, продак або яго пазнейшы заменнік). Надзвычай паказальная ў гэтых адносінах раманаўская замова ад шалу (гл.: Рам., 173, 62).

У замовах шырокае кола дзейных асоб, «цудоўных герояў», якія з'яўляюцца праваднікамі, здзяйсняльнікамі асноўнай функцыі заклінання. Перш за ўсё можна вылучыць самога заклінальніка, роля якога бывае пасіўнай і актыўнай. У першым выпадку заклінальнік можа прысутнічаць толькі ва ўступнай або заключнай частцы замовы, і яго функцыя — выказаць просьбу да прадстаўнікоў магічных сіл або канстатаваць сваё дачыненне да магічнага рытуалу (гл. заключную формулу «Я з словам, бог з помаччу»).

Пры актыўнай пазіцыі заклінальнік, нягледзячы на разгорнутасць ці сціслаць самога тэксту замовы, выступае на першае месца. Прыгадаем распаў-

сюджаную ў замовах ад розных хвароб формулу «Датуль ты хадзіла і г. д. ... пакуль я (імя заклінальніка) не прыступіла». Усходнеславянская замоўная традыцыя вылучаецца адсутнасцю спецыяльнай касты прафесійных заклінальнікаў, як, скажам, шаманы або жрацы-брахманы, таму ў замовах адсутнічаюць звесткі пра міфалагічнае мінулае заклінальнікаў, прамыя ўказанні на іх незвычайную сілу і магчымасці. Можна гаварыць пра ўскосную характарыстыку заклінальніка, і гэта характарыстыка даецца апісаннем тых дзеянняў, якія выконвае заклінальнік, або вынікаў яго дзейнасці. Аўтарытэт заклінальніка базіруецца на яго магчымасцях, а яны, паводле замоў, часам падобныя да боскіх. Адчуванне сваёй сілы дае падставы заклінальніку звяртацца да розных ворагаў, ці то розных ведзьмаў, нячысцікаў, гадаў або хвароб, з прамой пагрозай. Так, у замове ад гадзюкі загад да змяі-змяішчы ўсцішыць сваіх слуг падмацоўваецца пагрозай страшнай кары: «Змяя-змяішча, вынімай свае жала, высылай сваіх слуг, падпечных, падмежных. Ня выніш свае жала, не пашлеш сваіх слуг — пашлю на цябе тры грозныя тучы: адну вагняную, а другую вадзяную, трэцьцю камянную: агнём спякець, камнем заб'ець, вадой пальець — корань выкіпіць» (Рам., 108, 280). У такіх выпадках размова ідзе ад імя самога заклінальніка, які не дапускае ніякага сумнення ў сваіх магчымасцях: «Я ж ёй кажу і гражу: вынімай сваё жала! Ня вынеш ты етага жала, такога зельля табе дам — з жывыя з цябе парву жылы і пажылы» (замова ад сліўня, слепня, сліжа) (Рам., 121, 345). Гэта той далёкі этап у развіцці замоў, тая стадыя разумення блізкасці чалавека і прыроды, якая толькі замяніла самую ніжнюю мяжу (па трапнаму выказванню А. Ветухова, на гэтай ніжняй мяжы ён са стыхійнай сілай

змагаецца ўрукапашную)[32]. Чалавек яшчэ не пакланяецца боствам, ён яшчэ спадзяецца толькі на сябе, сваё слова, сваё дзеянне. «Ты, вужа Ева, сабірай сваіх вужоў, усіх добрых мужоў, і вінных і нявінных, і вынімай сваё жала з раба божага Грыгора. А то я на твой гурган нашлю гром і малоньню, громам разаб'ю, і маланьнёй спалю, а ветрам папялóм размяту...» (Рам., 116, 320). Навакольны свет ён успрымае праз прызму ўласнага «я», сваё светаўспрыманне; свае грамадскія ўстанаўленні пераносіць на прыроду, на ўсё жывое і нежывое. Гэтым тлумачыцца і вобразнасць замоў, і іх чуйнасць да змен у саміх уяўленнях, а таксама да змен у грамадскім жыцці. У замовах дзіўна суіснуюць і арганічна спалучаюцца рознастадыяльныя пласты, як відаць з наступнага тэксту: «Баславен Бог, баславен Сус Хрыстос, баславенна дзева Марэя. Загаварую я Арыну, Марыну, Катрыну, Магдалену, Галубею, Аўдакею, Шкурлупею, Настасею. Змяя-вераценіца, унімі сваю войську, пухліну і ярасць і жарасць. Ня ўнімеш ты — я ўніму: у караб цябе пасаджу, на сіняе мора ўспушчу. Як узымецца вална бура, разаб'ець тэй карабель. Я карабель сабяру, зялезным гваздзям саб'ю, на вас чарвей нашлю. Ты, вадзіца-царыца, абмывала крутыі беражкі і жоўтыі пяскі, абмый раба бож'яга, — табе на сінім моры слава» (Рам., 107, 277).

Хрысціянізаваны ўступ не мае дачынення да зместу замовы, ён даніна хрысціянскай традыцыі. Змеі, гáды надзяляюцца ўласнымі імёнамі, што, на думку многіх вучоных, узыходзіць да часоў татэмізму, калі засцерагаліся назваць ворага яго назвай. У той жа час у замове прама называецца аб'ект заклінання — змяя-вераценіца — табу на ўласную

[32] Гл.: Ветухов А. Заговоры, заклинания, обереги... С. 105—106.

назву знята. Сведчаннем старажытнасці з'яўляецца і заява заклінальніка пра сваю сілу: «Ня ўнімеш ты — я ўніму», сродак пакарання — пусціць на ваду — таксама можа быць аднесены да надзвычай старадаўніх мер (як і зваротак да вадзіцы-царыцы), хаця тут ужо прыгадваецца карабель, збіты жалезнымі гваздамі — прыкмета іншай эпохі.

На змену заклінальніку — уладару прыроды або ва ўсякім разе яе раўнапраўнаму партнёру — прыходзіць заклінальнік-просьбіт, функцыя якога зводзіцца да ролі пасрэдніка паміж тым, што чакаецца ад замовы, і тымі, хто можа здзейсніць жаданне.

Мастацкія прыёмы ў замовах падпарадкаваны мэце ўзмацніць сілу слова, вылучыць яго важнасць, падкрэсліць яго значнасць. Гэта ў першую чаргу розныя паўторы (паўторы сэнсава-сінтаксічных канструкцый, асобных слоў, злучнікаў, прыназоўнікаў і г. д.). «Стыхія паўтараемасці падтрымліваецца верай у сілу слова, як акумуліраванне гэтай сілы»[33]. Тое, што мы вызначаем зараз як мастацкі прыём, у замовах было неабходнай формай адлюстравання пажадання. Скажам, матыў паступовага выгнання хваробы з адной часткі цела ў другую (у жывёлы са спіны ў нагу, з нагі ў капыта, адтуль у зямлю і г. д., або з жыл, з пажыл і г. д.) атрымаў развіццё ў мастацкім прыёме ступеньчатага звужэння вобраза. Для замоў характэрна спалучэнне апавядальнай і рытмізаванай мовы, што ідзе ад першабытнага сінкрэтызму. Адным словам, у іх мы знойдзем усё багацце паэтычнай мовы, і гэта багацце абумоўлена утылітарнай функцыяй замоў. Сапраўды, тут безадказна дзейнічае прынцып: што карысна — тое прыгожа, што прыгожа — тое карысна.

---

[33] Мелетинский Е. М. Первобытные истоки словесного искусства // Ранние формы искусства. М., 1972. С. 157.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ



З усіх відаў мастацкай дзейнасці, вытокі якой хаваюцца ў глыбокай старажытнасці, славеснае мастацтва з'яўляецца найбольш даступным уплывам часу. Першыя яго крокі, першасныя ўзоры беззваротна згублены, засталіся векавечнай таямніцай. Толькі дзякуючы абрадаваму жыццю, яго кансерватыўнасці, устойлівасці, функцыянальнасці да нашых дзён дайшлі ўзоры старажытнай народнай творчасці, якія мы з пэўнай доляй умоўнасці суадносім з творчасцю тых далёкіх ад нас часоў.

Як абрадавы фальклор, так і замовы былі выкліканы да жыцця практычнымі патрэбамі, звязаны з гаспадарчай дзейнасцю, грамадскім бытам, з усёй сістэмай поглядаў і вераванняў народа. З'яўляючыся па сутнасці сваёй магічнымі, яны ў той жа час абапіраліся на рацыянальныя дзеянні, якія былі звязаны з працоўным вопытам народа. «Узнаўленне палявання, збіранне карэнняў, а потым і іншых працоўных працэсаў у адрыве ад саміх гэтых працоўных працэсаў адкрывала шлях для свабоднага ўзнаўлення і абагульнення рэчаіснасці — важнейшых прынцыпаў мастацтва. Калі працоўная практыка і падрыхтавала мастацтва, то адрыў ад саміх працэсаў працы быў неабходнай прадпасылкай развіцця мастацтва як асобай творчай дзейнасці, якая адлюстроўвала і адначасова пераўтварала рэчаіс-

насць. На першабытнай стадыі пераўтваральная роля мастацтва часта наіўна атаясамлівалася з утылітарнай мэтай, якая дасягалася не працай, магіяй»[1]. Найбольш ярка магічная накіраванасць праяўлялася ў заклінальных абрадавых песнях і замовах. Гэта тыя творы, якія абапіраліся на веру ў сілу слова як самы магутны сродак навязаць сваю волю боству, чалавеку, прадметам, абставінам, самой прыродзе. Нарадзіўшыся ў аддаленую эпоху і захаваўшыся да нашых дзён, замовы, як і абрадавая паэзія, зазналі змяненні. У іх суіснуюць напластаванні розных эпох, якія часам так цесна пераплятаюцца, што пад імі цяжка разгледзець першапачатковае ядро, язычніцкая іх аснова часта хаваецца пад хрысціянскімі рызамі. Але нягледзячы на ўсе змены, гэтыя творы захоўваюць каштоўныя сведчанні пра жыццё нашых продкаў, асаблівасці іх светапогляду на ранніх этапах развіцця мастацтва.

Надзвычайным багаццем і разнастайнасцю вылучаецца беларуская замоўная творчасць. Апублікаваны матэрыял і экспедыцыйныя запісы паказваюць, што замовы яшчэ і сёння даволі трывала захоўваюцца ў памяці людзей. Гэта тлумачыцца, відаць, і такімі немалаважнымі абставінамі, што побач з ірацыянальным, з памылковымі ўяўленнямі пра навакольны свет і заканамернасці яго развіцця ў гэтых творах праглядваюцца зерні стыхійнага матэрыялізму, у іх увасоблены погляды людзей на прыроду, працу, сваё месца ў прыродзе і грамадстве. Надзвычай наглядна ў замовах праяўляецца сувязь усёй сістэмы ўяўленняў нашых продкаў з асаблівасцямі паэтычнага адлюстравання рэчаіснасці.

---

[1] Мелетинский Е. М. Первобытные истоки словесного искусства. С. 151.

# ЗМЕСТ



Научное издание

**БАРТАШЕВИЧ ГАЛИНА АЛЕКСАНДРОВНА**

**МАГИЧЕСКОЕ СЛОВО**

**Опыт исследования мировоззренческой и художественной основы заговоров**

Минск, издательство «Навука і тэхніка»
*На белорусском языке*

Навуковае выданне

**БАРТАШЭВІЧ ГАЛІНА АЛЯКСАНДРАЎНА**

**МАГІЧНАЕ СЛОВА**

**Вопыт даследавання светапогляднай і мастацкай асновы замоў**

Загадчык рэдакцыі Л. І. Пятрова. Рэдактар М. А. Вячорка. Мастак С. К. Яўлампіяў. Мастацкі рэдактар А. А. Кулажэнка. Тэхнічны рэдактар Л. А. Карнеева. Карэктар Л. С. Зіза.

ІБ № 3623

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 20.10.89. Падпісана ў друк 06.02.90. АТ 04545. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,16. Ум. фарб.-адб. 7,32. Ул.-выд. арк. 5,28. Тыраж 1880 экз. Зак. № 1433. Цана 90 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, Жодзінская, 18. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Жодзінская, 18.